Вера Вярба

# Апошні верасень



Выбранае



Вершы
і паэмы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1995

# «ПРА БОЛЬ ЖЫЦЦЯ, ЗАГАДКУ СМЕРЦІ»

«...Не адзінокая — адна»,— сказала сама пра сябе Вера Вярба ў паэме «Натхненне», напісанай на схіле 70-х гадоў, калі з грамадства, жорстка абмежаванага ў магчымасці ставіць і вырашаць праблемы сапраўдныя, па́ра выпускалася шляхам міфалагічнага стварэння праблем уяўных — і гулка пустое пералівалася ў парожняе. Літаратурнае суполле, да прыкладу, аднойчы ўстрапянулася і з імпэтам пачало высвятляць, так бы мовіць, біялагічны аспект паэзіі, вагалася ў тым, ці існуе паэзія асобна мужчынская і асобна жаночая, а калі адзін з рускіх паэтаў дзеля эпатажу паставіў пад сумненне нават такія паэтычныя імёны, як Ахматава, Цвятаева, Ахмадуліна, дык найпекныя прадстаўніцы вершатворчага цэха сталі шчыра крыўдаваць, калі іх называлі паэтэсамі, а не паэтамі...

Бог ты мой! Ну хто і як можа ўсур'ёз адмовіць існаванню жаночага і мужчынскага пачаткаў у кожным моманце нашага быцця? Ніхто, вядома, і ніяк, і ёсць яна, дзякуй Богу, жаночая паэзія з выключна ёй уласцівай інтанацыяй і інтуіцыяй.

Яна шчыруе ў сваім патаемным.

Перайначце працытаваны напачатку радок Веры Вярбы, надайце яму адзнакі мужчынскага роду, прамоўце: «Не адзінокі — адзін»,— і вы адразу адчуеце, якія істотныя адбыліся страты... Той, для каго яны незаўважныя, мяркую, глухаваты да паэзіі:

І скрозь вясны і восень замець
Пайду, як воблак, ад акна.
Пакіну вас і вашу памяць
Не адзінокая — адна.

Паэма «Натхненне»

Згадваю, як, прачытаўшы ўпершыню гэтыя радкі, я падумаў пра тое, што адзінота — адчуванне калектыўнае.

Калі кніжкі Веры Вярбы, пачынаючы з яе дэбютнага зборніка «Вочы вясны», скласці ўсе ў адну, дык мецъ мы будзем не што іншае, як вершаваны лірычны дзённік. Зрэшты, менавіта яго і гартаем мы, чытаючы гэтае выданне выбраных твораў. Тут, як і ў любых дзённікавых запісах, ёсць і залішнія падрабязнасці, і выпадковасці, і недарэчнасці, якія б маглі да падмурку парушыць архітэктоніку кнігі, калі б верш да верша, старонка да старонкі, нібыта вязанне на спіцы, не нанізваліся ўсе дробязі і выпадковасці на дамінанты вечных тэм, каб карытыдамі не ўтрымлівалі цяжар вечнасці: Каханне і Здрада, Спатканне і Ростань, Жыццё і Смерць.

Нацяты векам, як струной,—
Скарочаны мой дзень з гадзін.
На развітанне — за труной —
Я папрашу: ідзі адзін.

Сынок! Нясмертны песні гук,
Ці зразумееш ты яе?
Размераны рыдлёўкі стук,
А далакоп... усё пяе.

*Нізка вершаў*
*«Мая маленькая*
*планета»*

Зноў жа паспрабуйце гэткі зварот да сына выказаць вуснамі паэта — мужчыны, бацькі... Зменіцца маштаб, холадна заблішчаць касмічныя зоры, жывое і балючае раптам зірне на вас ільдзістым, немігаючым позіркам абстракцыі.

Пытанне жыцця — гэта, па-сутнасці, пытанне смерці. Вось, бадай, найбольшае, што вынікне для вас з гэтага верша ў мужчынскім яго прамаўленні. І адзінокая постаць хлапчука за труною маці стане незаўважнай парушынкай на фоне агульнай высновы.

Ну ды, можа стацца, што ўсё гэта — толькі мае асабістыя ўяўленні, і бачыцца мне тут нешта такое, чаго няма. Тым больш што, незалежна ад маіх уяўленняў, паэтэсы, як лічылі, так і схільныя лічыць свой занятак — мужчынскаю справай.

Тады давайце зірнём на тое, як жа пачувае сябе Вера Вярба ў сваім занятку, на што яна здольная ў прызванні і прафесіі.

Перш за ўсё, што для мяне асабіста ва ўспрыняцці паэтычнага тэксту заўсёды было надзвычай важна, Вера Вярба ўмее рабіць вершы абсалютна з нічога альбо з таго знакамітага смецця, з якога растуць вершы, не ведаючы сораму.

Агні Алупкі. Дальняя дарога...

*Верш*
*«Агні Алупкі.*
*Дальняя дарога...»*

Ну што тут?.. Нічога. Бессаромнае смецце банальнага... А радок тым не менш дыхае аддаленымі сугуччамі, пульсуе, жыве.

Гэта ад прызвання.

А вось, калі ласка, ад прафесіі:

У люстэрку пабялелым
Позірк выблісне ярчэй,
Падымаю я збалелыя
Доўга
рукі да вачэй.

*Паэма*
*«Снежная горка»*

Тут, здавалася б, без асаблівых высілкаў, ледзь заўважнай гульнёй памеру, не толькі выпісаны, але і зроблены, здзейснены жэст. За проста так і каму заўгодна такое не даецца.

Не надта пераканаўча?.. У такім разе, калі ласка, вам прыклад больш высокага пілатажу, які магчымы толькі пры супадзенні сапраўднага прызвання і сапраўднага валодання прафесіяй. Гэта сам па сабе ўзровень codeвершаванага пісьма, калі паэт нязмушана пераступае мяжу моўных законаў і стварае нешта большае за тое, на што здатная мова як проста матэрыял у сваім падпарадкаванні логіцы, сэнсу, граматыцы:

Блукаю ў цішыні,
Паклікаць немагчыма,
У нескончоным дні
Не выплакаць вачыма.

*Паэма «Альфа»*

Дарэчы, у працытаваным раней радку «І скрозь вясны і восень замець...» навідавоку элементарнае парушэнне граматыкі, аднак ці адразу заўважылі вы тое, нават калі працуеце настаўнікам? Думаю, што не, бо гэта свядомае, прафесійнае парушэнне, а не вучнёўска-аматарская памылка. Тут, як казаў адзін літаратурны герой, дзве вялікія розніцы.

Без відавочных высілкаў здольная Вера Вярба і паглыбіць тэкст верша дакладным і дасціпным параўнаннем («Горад заснежаны гасіць агеньчыкі, нібы хто ў рэчку шпурляе каменьчыкі»), і знайсці вызначэнне для неакрэсленага, неспадзяванага («Неперажытае, нязвыклае, як дзікі голуб на плячы),— і ўрэшце грукнуць з адчайнаю сілай у дзверы таямніцы:

Калі ж і ёсць той бог,
Што злым хаваўся ценем,—
Хай ступіць на парог
І стане на калені.

*Паэма «Альфа»*

Прастора, «дзе спачываюць зоры, і мітусяцца толькі мурашы», для душы чалавечай не надта ўтульная. Спроба знайсці прытулак — найістотнае, калі не галоўнае, намаганне ў вершах Веры Вярбы. Шчымлівае ў сваёй безабароннасці намаганне гэтае, як і ў кожнага з людзей, не асуджана, вядома, на поспех, але з працягласці і якаснасці ягонай вынікае тое адзінае, што толькі і можа ў дадзеным выпадку лічыцца вынікам: гэтая кніга.

Намаганні ў ёй незавершаныя, святлеюць за вокладкамі яшчэ не напісаныя старонкі.

*Уладзімір Някляеў*

* * *

Я к вуснам ціха падымаю
Цяжкую кварту з малаком,
З усмешкай вочы закрываю,
Нібы перад харошым сном.

Адразу бачу: сад знаёмы...
Ля ганка спелы шолах ніў.
Пры студні жораў нерухомы
Курлыкнуў: мо жывых прысніў?..

На травы пыл асеў ляніва,
Запахла лугам і ракой.
І сочым мы з катом маўкліва,
Як бабка цэдзіць сырадой.

Духмяна ў сенцах пахне сена.
Стаміўшыся ад гульняў, спіш.
Блукае месяц задуменна
Над стрэхамі — вартуе ціш.

Праз сон пачуеш, як цялушка
Бачком патрэцца аб сцяну,
І смачна ткнешся у падушку
Галоўкай, што бялей ільну...

О любы мой, святлісты краю,
Мой ціхі сад, мой родны дом!
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Я к вуснам ціха падымаю
Цяжкую кварту з малаком.

*1960*

## РУЧНІКІ

У суботу Янка
Ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна
Мыла ручнікі.

— Ой, Алёна-сэрца,
Дай тваю руку!
Дзе тут пераехаць
Мне уброд раку?

— Адчапіся, хлопец,
Едзь абы-куды,
Скаламуціў столькі
Чыстае вады...

У маркоце Янка
Галавой панік,
Упусціла дзеўка
Беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік!
Памажы хутчэй,
Ой, ужо знікае
Мой ручнік з вачэй...

— Любая Алёна,
Я вады баюся,
Пацалуй спачатку —
Што, як утаплюся?..

Супыніўся гнеды
Пад вярбой зялёнай.
Цалавала Янку
Над ракой Алёна.

Стала ціха-ціха
На усёй зямлі.
Па рацэ далёка
Ручнікі плылі.

*1959*

## У ГРЫБАХ

Восень, мая восень,
Думка залатая!
У бярозы з косаў
Грэбень выпадае.
Журыцца сястрыца —
На гары сасонка
Ломкія ігліцы
Асыпае звонка.
І заснуў над рэчкай
Сіні лес яловы,
І гарыць, як свечка,
Тонкі клён барвовы.
Пачакай хвілінку,
Светлы міг апошні!
Вось я зноў дзяўчынка,
Босенькія ножкі...
Я іду з грыбамі —
Поўны-поўны кошык.
Я нясу іх маме,
Заблудзіла трошкі.
Мне б данесці скора —
Села, уздыхнула...
І — якое гора! —
Там жа і заснула.
А зямля, як ласку
Добрае матулі,
Мне шапоча казку:
Люлі-люлі-люлі...

*1959*

* * *

Я не глытала па акопах дыму
І франтавых не ведаю дарог.
Калі я нарадзілася, Радзіма,
Ты святкавала свята перамог.

І не выццё варожых самалётаў,
І не агонь, што пёк тваю зямлю,—
Чаромху помню, як цвіла ля плота,
Як падалі зярняты на раллю.

Цябе, вясняная, я помню ў цвеце,
Люблю з маленства, родная, люблю
І за таго, каго няма на свеце,
Хто ўсё аддаў за гэтую зямлю.

Мае сябры ў жыцця дасхочу бралі
Усё, чым навучаеш даражыць.
Мы за цябе яшчэ не паміралі,
*1959* Мы для цябе, Радзіма, будзем жыць!

* * *

Васількі апошнія у полі
Адцвітаюць колерам сівым.
І панесла яблыкі ў прыполе
Восень жоўтым шляхам лугавым.
Ціхі ранак, і туман не выпаў,
Не крануў рабін яшчэ мароз.
Ад бульбянішч з задуменным рыпам
На дарогу выпаўз цяжкі воз.
І мае здагадкі цепляць душу.
Я ўсё гэта бачыла. А дзе?

Хлапчанё сядзіць, картуз па вушы,
Зарабляе першы працадзень.
Ён знарок мяне не прыкмячае,
Я свае усмешкі не ўтаю:
— Гэй, кірпаты, я вясну страчаю,
Першую, сапраўдную, маю!
У той час, калі цвітуць у полі
Васількі ўсе колерам сівым,
Нават мары аб вясне даволі,
1959 Каб вясна цвіла ў жыцці тваім.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Глянь у акно — уся вуліца новая.
Ці не млынар гэта, выжыўшы з розуму,
Вёз на кірмаш два вазы адмысловыя,
Перакуліўся бядак пад бярозамі?

Дрэвы стаяць, як дзяды белавусыя,
І да брыва пасівелі ад інею.
Меў валасы той млынар цёмна-русыя,
1959 Вочы яго, як твае,— ясна-сінія.

* * *

Выпала і нам сустрэцца,
Перадаць прывет,
А дарогі клічуць сэрцы
У вялікі свет.

Верыш ты: куды б ні йшла я
Па сваёй зямлі —
Я тваіх слядоў шукаю,
Знаю, дзе былі.

І мае, прашу я, сцежкі
Ў памяці галуб,
Як вачэй маіх усмешку,
Як трывогу губ.

*1959*

**МЛЕЧНЫ ШЛЯХ**

Мой край, ты не ад снегу белы —
Завея квецені ў садах.
Пралёг з ускраін закурэлых
Пад яблынямі ў вёску шлях.

А колькі там у цвеце вёсен
Адшапацела без мяне,
І колькі лет званіцы сосен
Званілі роднай старане.

Мяне даўно забылі дома...
Але трывожнаю вясной
Люблю на Млечны Шлях знаёмы
Адна выходзіць раніцой.

На трапяткіх бялюткіх крылах
Ляцяць у далечы гады,
Туды, дзе кут маленства мілы,
Дзе красавік мой малады.

*1959*

* * *

Схіляецца ніва да самай зямлі,
У кветках паснулі ад спёкі чмялі,

На лапах замшэлых калышацца бор,
І пахам дурманіць духмяны чабор.

Як добра стаміцца ад цяжкіх дарог,
Схіліцца ў знямозе пад елку на мох,

І слухаць так прагна, і соладка сніць,
Як срэбны жаўрук над палямі звініць.

Зямля залатая з цяжарам палёў
І з пошумам рэчак і цёмных бароў,
*1960* Паслухай маленькага сэрца любоў!

## ПЕСНЯ

Вы мяне не вядзіце
Спаць дамоў, маладу,
У высокім я жыце
Сон свой першы знайду.

На руках мяне мілы
Да ракі прынясе
Каля вербаў пахілых,
Па пякучай расе...

Там чароты схавалі
Жоўты месяца цень,
Моўчкі лашчацца хвалі
Ля дзявочых калень.

Вы мяне не вядзіце
Спаць дамоў, маладу,
У высокім я жыце
*1960* Сон свой першы знайду.

## ЛЕТУЦЕННІЦА

Ці забыўся ты на маленькую
Летуценніцу маладзенькую,
Ці сустрэчы з ёй помніш першыя?
Несла ўсё табе разам з вершамі:
Постаць тонкую, рукі гнуткія,
Вочы шэрыя, рухі хуткія —
Ці забыўся ты?..
Ей шаснаццаць год ледзь было тады,
А табе ужо — ой, ляцяць гады!
Як адзін ты быў — ўсё тужыў па ёй,
Белай козачкай называў сваёй.
І жыцця табе без яе няма,
І бяжыць яна да цябе сама,
Бо шаснаццаць год...
Ці любіў жа ты яе, чыстую,
З касой доўгаю, залацістаю,
Што кахалася чырванеючы,
Цалавалася не умеючы,
Нібы ластаўка палахлівая,
То вясёлая, то маўклівая...
Ці любіў жа ты?..
Колькі год прайшло, снегам выпала,
Галаву тваю ўсю абсыпала,
Сходзіш вуліцы, сходзіш далечы,
Тую ластаўку выглядаючы,—
Толькі помніцца ўсё маленькая,
Сарамлівая, маладзенькая
*1960* Летуценніца.

* * *

Затужылі вербы над вірамі.
І яны б, здаецца, паплылі
Вунь туды, дзе кружаць над палямі
Ў сіратлівым небе жураўлі.

Але нельга вербам адарвацца
Ад радзімы, ад сваіх віроў!
Кожны раз, як трапіць развітацца,
Не падняць пахіленых галоў.

*1960*

## ЧАРАВІКІ

Маці сыну сабрала
Трохі ў горад прыпасаў
З прыхаванага сала
І вясковых кілбасаў.

Хоць на пальцах рабіла
Потым доўга падлікі,
Ды пайшла і купіла
Ўсё ж яму чаравікі.

Сына ўсе ўспаміналі
(Будзе ж ён аграномам),
Нават яблыкі клалі —
Дар ад дзеда Пахома.

Між сабой падзялілі
Хлопцы ўсё ў інтэрнаце,
Цэлы тыдзень хвалілі
Незнаёмую маці.

І калі сын знімае
Перад сном чаравікі,
Дык яе ўспамінае
І садок невялікі.

Цягне хлопца адразу
У сваю вёску,
дадому,
Дзе ў маленстве ён лазіў
1959 У сад да дзеда Пахома.

## ВОЧЫ

Кожны вечар бачу столькі
Розных позіркаў, вачэй.
Ды адны хвалююць толькі,
Толькі б іх сустрэць хутчэй!

Я за смехам і гаворкай,
Сярод жартаў, слоў сваіх
Адчуваю з сумам горкім
Задуменны позірк іх.

І калі ні азірнуся —
Бачу ў тых вачах тугу.
І глядзець у іх баюся,
І не глянуць не магу.

Што зрабіла ім, не знаю...
Чым пакрыўдзіла я іх?..
За сябе ў пару кахаю,
А пакуты —
1959 за дваіх.

* * *

У дні трывог, у дні майго адчаю,
Калі журбота сэрца ахіне,
Я светлы ранак думкаю страчаю:
Жыццё маё, ці ты даруеш мне?

Стаіўшы боль апошняга расстання,
Я не люблю, табе клялася, не!
Але назаўтра ж бегла да кахання...
Жыццё маё, ці ты даруеш мне?

І хай са мной спрачаюцца
хоць зоры —
Усё ж удалым назаву свой лёс,
Бо і салодкі прысмак знала гора
І пасаліла шчасце
соллю слёз.

*1960*

## ПРАЛЕСКА

Белыя бярозы
Спалі на узлеску,
Як сваю галоўку
Узняла пралеска.
Тоненькую ножку
З-пад пярыны белай
На зямлю пралеска
Ставіла нясмела.
А снягі наўкола —
Ні канца ні краю,
Страшна стала кветцы:
«Я адна — жывая!»
Кажа зверху сонца:

«Зорачка лясная,
З новым нараджэннем
Я цябе вітаю!»
Белыя бярозы
Разам зашапталі:
«Мы цябе, пралеска,
Ўсю зіму чакалі».
І старая елка
Голасна ўздыхнула:
«Лета надыходзіць,
*1959* А зіма мінула».

## КІЕЎ

— Хай табе сняцца каштаны,
Ночы твае агнявыя,
Кручы Дняпра і туманы,
Кіеў, мой казачны Кіеў!..

Так ты сказаў, і часіны
Нас разлучылі цяжкія.
Мне асталіся ўспаміны —
Кіеў, далёкі твой Кіеў.

Колькі сяброў напаткала,
Радасці мела якія!
Сэрцу здавалася мала:
Кіеў, я марыла, Кіеў...

Там, каля кручаў зялёных,
Будуць сустрэчы другія,
Я ж не забуду да скону:
*1959* Кіеў, любоў мая — Кіеў!

## ЛЯЛЬКА

Я выходджу на вуліцу
позна-позна
з твайго пакою.
Стук дзвярэй —
у цішы,
быццам выстрал, здаецца.
Да грудзей
прыціскаю маленькай рукою
Тваё чуйнае,
добрае,
беднае сэрца.
А на вуліцы вецер,
дымны подых марозу.
Бела-бела ўваччу,
гліцай колецца снег.
Асталіся ў пакоі
мае чыстыя слёзы,
Мая першая радасць,
усё маё гора
і смех.
Як ісці мне,
такой маленькай,
Адной,
з невыказным болем?
Як ісці мне,
такой маладзенькай,
Па няўтульнаму
беламу полю?
Ты глядзіш мне услед...
Ты паклічаш!
Я азірнуся —
Твой цень у акне.
Цішыня.
Я не вярнуся.

Гэта ж праўда:
Бяжыць,
Так спяшаецца час.
Трэба гэтую ісціну ведаць.
Будуць людзі жыць,
Як жылі і да нас:
Сваё шчасце,
Свае беды,
І я стану дарослая.
Буду таксама жыць.
Жыць...
З чым каханнем?
Нам ужо разам не быць,
У галавах
ля цябе
ніколі не сяду
Уранні.
Крыкні, любы!
Ты астаўся адзін.
Адзін з зімою.
На пісьмовым стале
Стаіць лялька.
Дзінь-дзінь.
Лялька пра ўсё гаварыла са мною.
Мілая лялька!
Зялёная галоўка,
сінія вочкі...
Як добра з ёю жылося.
Я табе пакідаю ляльку.
Іду.
Назаўсёды.
Не ўпрочкі.
Вецер галосіць.
Мы з лялькай цябе кахалі.
Зялёная галоўка,
сінія вочкі.

Мы з ёю
ніколі не зналі,
Што каханне й нянавісць —
Родныя дочкі.
Цяпер ты з лялькай
астаўся адзін.
Запытаеш яе —
яна толькі адкажа:
Дзінь-дзінь.
Яна ціха зазвоніць, калі ты кранеш,
Усё роўна якой —
Злоснай ці добрай рукой.
А калі ты ударыш —
ёй не будзе балюча,
Як на ветранай вуліцы мне.
Сэрца ў лялькі няма.
У зялёнай галоўцы — спакой.
Любы,
Няўжо ты не любіш?
Няўжо ты ніколі
не ўспомніш мяне?
Я пайшла.
Да цябе прыйдуць новыя губы.
Бачу цень,
цень чужы на сцяне...
Калі
смех жанчыны
твой абудзіць пакой,
Прыйдзе час
успаміны дзяліць.
Ведай, любы:
ні пад чыёй рукой
Мая лялька
не зазвініць.
Нават той,
самай шчаслівай, другой,

Што вочы табе завяжа,
Мая лялька
Нічога на скажа.
Яшчэ больш...
Калі лягуць маршчыны на лбе,
Калі ты забудзеш, як я кахала цябе,—
Мая лялька
Заўсёды
*1960* Будзе мяне чакаць.

* * *

Растануць дні, як раніцай туманы,
Забуду я цяпло тваёй рукі.
Расстанемся з табою, мой каханы,
І так мінуць вякі, вякі, вякі...

Зямлю сваю згадаўшы, як калыску,
На Марсе людзі будуць зноў тужыць,
Бо нават птушкам, дрэвам і вятрыскам
Ніколі бацькаўшчыны не забыць.

Нас пакаленні зменяць у змаганні,
Сусвет убачаць з зорнай вышыні.
Хай ім пасвеціць і маё каханне
*1960* Маленькай зоркай ў сіняй цішыні.

* * *

— У апошні вечарок
Я «Каробачку» іду...—
Льецца ў сэрца галасок,
Нібы срэбра у ваду.

Белакрылая хусціна,
Звіўся кужаль русых кос...
Не пытайцеся ў хлапчыны,
Да зямлі чаго прырос.

Ты з якое выйшла казкі?
У якую клічаш даль?..
Як раса да ранняй краскі,
Так да твару твой паркаль.

Паспявай яшчэ ў ахвоту
Хоць хвіліначку адну.
Ломіць стан твой ад работы,
Млеюць рукі ад ільну.

Як лянок ты сёння брала,
Сонца з неба так пякло...
Мо ў яго ты адабрала
Незвычайнае святло?

І цяпер усмешкай свеціш
Дня блакітнага мілей.
Калі сонцы два на свеце,
*1959* Удвая жыць вясялей!

* * *

Дарагія бясконца мясціны,
Ваш убор быў заўсёды такі:
Чырванеюць маністы рабіны,
Белы статак бяроз ля ракі.

Ўсё гаворыць тут роднаю мовай:
Ад вясенніх грымот да бароў,
Ад азёр і шумлівай дубровы
Да асенняй журбы журавоў.

Да якое ж крыніцы прыпасці?
У якія азёры глядзець?
Мне б пра вашае добрае шчасце
*1965* Свае шчырыя песні прапець!

## ЧАРОМХА

Як толькі ветрык жартаўлівы
Чаромху белую кране,
Нібыта шолах палахлівы,
Пачуецца твой голас мне.

Чаромхі тонкая галінка
Ледзь чутна стукае ў акно,
Ці гэта ты, мая дзяўчынка,
Сумуеш без мяне даўно?

Ці гэта ты ў сукенцы белай,
З даўгою русаю касой,
Стаіш і шэпчаш так нясмела:
«Вярніся, любы, добры мой!»

Усё мінула гэтак хутка:
Страчала ў садзе ты мяне...
Таму чаромхаю бялюткай
*1958* З'яўляешся заўсёды ў сне.

* * *

У мяне каханне,
Як з палынных рос:
Стрэчы і расстанні
Поўны горкіх слёз.

Колькі жыць на свеце —
Памяць берагчы.
Бэзавая квецень
На тваім плячы.

Ты мяне ў гадзіну
Добрую тады
Ўспамінай, адзіны,
Цветам маладым.

Вось бягу я сцежкай
І пляту касу,
У вачах усмешку
Да цябе нясу.

*1959*

## ВУЛІЦА КУПАЛЫ

Калі семнаццаць мне мінала,
Ты помніш, вуліца Купалы?
Вось год мінуў, і я другая.
А ты, як памяць, дарагая.

Дзень добры, вуліца Купалы!
Тут маладосць мяне спаткала,
А сёння дождж, вясновы вечар,
І ліпы растрывожыў вецер.

Гарыць кафэ святлом ліловым,
Мне чуюцца ўсё тыя ж словы,
Знаёмы крок, затым пытанне...
Мне мроіцца маё каханне.

Я супынілася, чакаю,
І зноў бягу, і зноў гукаю...
Так кожны раз любоў маю
1960 Шукаю... і не пазнаю.

* * *

Усё гару, усё жыву табою,
Нібы чакаю новую вясну.
І, каб успомніць галасы прыбою,
Я слухаю пад вокнамі сасну.

Гараць, гараць за Крымскімі гарамі
Маёй любві высокія кастры.
А на світанні буйнымі вятрамі
1959 Калыша мора водбліскі зары.

* * *

Агні Алупкі. Дальняя дарога...
Ты пісьмы мне пяшчотныя пішы.
Паглядаў, слоў асталася нямнога —
Да павароту вузкае шашы.

Глядзяць угору строга кіпарысы,
Яшчэ на вуснах ад прыбою соль.
Ў маіх вачах твайго аблічча рысы.
Ў мяне на сэрцы ціхі-ціхі боль.

І так шкада мне стала зноў чагосьці,
Як быццам што паспела я згубіць.
Праводзім шчасце мы, нібыта госця,
І любім, калі трэба разлюбіць.

І ўсё часцей на вернасць прысягаем
Тым успамінам, без якіх не жыць.
Любі ж мяне у незабыўным краі,
*1960* Дзе будуць чайкі без мяне тужыць.

* * *

Як найшчаслівая жанчына,
Дзіця падносіш да грудзей.
На твары свецяцца маршчыны,
І вочы сталі маладзей.

За зброю хто пасмеў узяцца,
Гразіцца смерцю вадароднай?
...Дзіця сасок шукае ў маці
*1960* Гарластым роцікам галодным.

## СНЫ

Вочы вясны,
водар сасны,
голас лясны —
Вось мае сны.
Горад заснежаны
гасіць агеньчыкі,
Нібы хто ў рэчку
шпурляе каменьчыкі.
Тоне каменьчык —
гасне агеньчык,

Пойдуць кругі —
гасне другі.
Горад мой родны
гойдае сон,
Тонкіх сняжынак
чуецца звон:
Дон-дзінь-дон...
Першы мой сон...
Дон-дзінь-дон...
Лепшы мой сон...
Ноччу дамы —
як глухія мядзведзі,
Снам цераз дзверы
праціснуцца недзе.
Вось у кватэру, дзе спіць дзіцятка,
Просіцца сон,
маленькі,
як кацянятка.
Закрыла дзіця
шэрыя вочы,

А сон расказаць яму
нешта хоча,
А сон прымасціўся
ля падушкі,
Ласкава вуркоча
на самае вушка
Пра гульні,
забавы
з прыгожымі цацкамі...
Светлыя-светлыя
сны дзіцячыя!
У кожны дом
прыходзяць сны.
У адным пакоі спіць маці,
у другім — сын.
А трэцяй гадзіне
сын вярнуўся дадому.
Дзе быў — не пытайцеся,
дайце паспаць
маладому.
Маці нарэшце самкнула
стомленыя вочы —
Таксама не спала.
Б'е трэцяя — ночы.
Вось і яна спіць;
усмешка на твары госціць,
Можа, ёй сняцца
лепшыя дні маладосці?
Можа, ёй сніцца сын,
дарослы, шчаслівы,
З маладой жонкай,
паслухмянай, руплівай?..
Хай жа будзе так.
Сны бягуць,
як хвіліны:
цік-так...

Вуліца белая,
як палатно,
Нічога на вуліцы
не відно.
Але чыё гэта свецiцца
там акно,
Як у зімовай рэчцы
шкляное дно?
Трашчыць мароз —
мяркуйце самі:
Адзін сон замёрз
на аконнай раме.
За акном не спіць дзяўчынка,
Тоненькая,
пушыстая,
як вярбінка.
Яшчэ два сны
паселі ля вокан, як птушкі...
А яна не спіць —
чытае Пушкіна.
Ах ты, дзяўчо,
малое, гуллівае,
У чатырнаццаць год —
такое шчаслівае!
Ты не чуеш,
як па вуліцы ляціць
ледзяная мароза конніца,
Ты ў Крыме
ля Чорнага мора стаіш,
У цябе і ў паэта —
бяссонніца.
Скора дзень.
За вокнамі сіняя ціш.
Раніца ружовы ліхтар трымае,
Будзіць людзей
перазвон трамваяў.

І сны лятуць
ад нас
імклівай чарадой,
Інакш іх заядуць,
зап'юць,
зальюць вадой.
І толькі, можа,
якое дзіця
зловіць сон пад падушкай,
Схапіўшы
1960 за мяккія вушкі.

* * *

У полі гойдае вятрыска
І долу каласы схіляе,
А маладзіца над калыскай
Дзіцёнку ціхенька спявае.

Ад песні гэтае народнай
Ўсё пачынаецца на свеце.
Напеў душы яе свабодны
Разносіць, як насенне, вецер.

І цераз горы і дубровы
Ва ўсе замежныя краіны —
Гучыць майго народа мова
І гонар мужнае айчыны.

Хай на зямлі шмат ісцін спрэчных:
Любоў, і шчасце, і багацце,
Але адно, я знаю, вечна —
1961 Святое слова маці.

## МАЁЙ БАБУЛІ ПРЫСВЯЧАЮ

Бабуля!
Бабуля Праскоўя!—
Блішчыць маладзік на мяжы.
Разбухла, як вымя кароўе,
Гарачае цеста ў дзяжы.

Бабуля...—
На золкім прадвесні
Свірэпка на босых нагах.
Бабуля,—
цягучая песня,
Як шыр на бяскрайніх лугах.

Ну дзе ж твае казкі, дзе коні,
Што вып'юць раку з берагоў?
На чым ты прыедзеш сягоння
З краіны маленства майго?

Дзе травы, чароўныя краскі,
Што з лесу прыносіла мне?
Ляжу, як Алёнушка ў казцы,
У возеры сінім на дне.

І душыць каменне нястачы,
І скінуць няможна тугу.
Бабуля!—
Я тоненька плачу.
Бабуля!—
Пазваць не магу.
Мне сніцца з гадамі так часта
Парэпаны дзедавы крыж
І ты пад старэнькаю хатай
У белай хусціне стаіш.

Бабуля! Бабуля Праскоўя!—
Заходзіцца сэрца ў грудзях.
Канчаюцца рэкі ў нізоўях,
*1962* Далёкі і цяжкі мой шлях.

## ДВАЦЦАЦЬ ГОД

Дваццаць год!
Дваццаць год!
Гэтак мала?
Што наперадзе!
Што яшчэ будзе!
Самалёт.
Параход.
Сніцца мама,
А вакол незнаёмыя людзі.
Дваццаць год!
Дваццаць год!
Гэтак многа?
Дзе згубіліся вы,
летуценні?
У высокай траве
за дарогай
Па-дзіцячаму
плачу ў калені.
Дваццаць год!
Усё проста і ясна.
Дваццаць год —
вось калі не асудзяць...
Дваццаць год —
незабыўная казка,
А праз год
гэтай казкі
не будзе.

*1961*

## КАРАБЛІ

Адплываюць караблі далёка
Ціхім шляхам вулачак крывых
З маставых пад сінія аблокі,
Ў акіян зялёнае травы.
Лёгка ім ад бруку адарвацца.
Затрымціць нацятая сасна.
Адплываюць марамі юнацтва
Караблі, як ранняя вясна.
Шчасна ім і не шкада нічога
Ў маладыя юныя гады.
Рассцяліся, новая дарога,—
Адплываюць белыя сады.
Не дагнаць ні словам іх, ні ветрам.
Не глядзіце з горыччу услед.
Хай удача прывядзе іх ветразь
Ў самы светлы, самы добры свет.
Хай спаткае іх такая доля,
Папракнуць каб потым не змаглі,
Бо назад не вернуцца ніколі
*1966* Ў родны горад тыя караблі.

## ВЯРТАННЕ

*З народнага*

Сінь-дарогай раннем,
Як жыццё, даўгою
Я нясу каханне
З жалем і тугою.

Добры,
  любы краю,
Родная хаціна!
Там мяне чакае
Маці-сірaціна.

Я прыйду з дарогі —
Цішыня якая!—
Сяду ля парога.
Маці запытае:

— Дзе ж, мая дачушка,
Ў свеце прападала,
Пералётнай птушкай
Доўга вандравала?

Ты па што хадзіла,
З кім любоў вадзіла?
Колькі напаткала?
Колькі цалавала?

— Мама, мая мама!
Не кажы нікому,
Свайго шчасця мала
Зберагла для дому.

Колькі я схадзіла
Сцежак-пeравалаў...
Колькі напаткала,
Столькі цалавала.

Ды адно спатканне
Пракляла сама я,
I сваё каханне
На руках трымаю.

*1965*

## ЛЕТНІЯ ГРАМЫ

Адшапацелі летнія грамы,
І свежа так,
і лёгка стала,
І востра адчуваем мы,
Як шчасця, прыгажосці мала.
Аб чым гавораць летнія грамы?
Якую будзяць рэчаіснасць?—
Нібы праводзяць у дамы
Яны нанова электрычнасць.
Бяжыш, узняўшы ўгору твар,
І кроплі колюцца, як голкі,
Бяжыш пад шаты сініх хмар,
Як пад шчаслівую вясёлку.
Я ліўні першыя люблю,
Як любяць дрэвы аднаўленне,
І ночы летнія не сплю:
Яны прыносяць летуценні.
Так першы раз пасля зімы
Вадой вясновай мыеш вочы.
І доўга летнія грамы
Аб нечым радасным вуркочуць.

*1966*

* * *

Дзень канчаецца.
Цяплынь якая!
Трава разгладжвае
маршчыны,
Сонца
ад дзяцей
за гароды ўцякае,
Зачапілася за воблака, лёгкае,
як імя жанчыны.

Смага.
Стома.
Далоні ад працы
Ныюць.
Калі ўглядацца —
У іх увесь дзень
адлюстраваны,
Доўгі — як годы.
Ляжу пад яблыняй.
Бабка нясе смятану
Ў халодным гарлачыку.
Асалода!
Вочы закрыю.
Адразу думкі тонуць.
Недзе,
на далёкай планеце, горад,
Прыгожы, зыбкі.
Там
нарадзілася дзяўчынка, для каторай
Конікі ніколі не гралі
на скрыпках.

*1965*

* * *

Усё ў жыцці здаецца проста,
На ўсё вы знойдзеце прычыны.
Як гэта цяжка быць дарослай,
Як гэта цяжка быць жанчынай.

Насустрач плёткам і абразам
Пранесці горда твар прыгожы,
Затое быць з каханым разам,
І ў гэтым толькі шчасце, можа.

А потым старасць, потым восень,
Хаваеш першыя маршчыны.
Хоць уваччу ўсё тая ж просінь,
Ды сэрца ные без прычыны.

Дачка сама адрэжа косы,
І расказаць ёй немагчыма,
Як будзе цяжка жыць дарослай,
*1963* І ў колькі раз цяжэй — жанчынай.

## ДАРОГІ

Дарогі,
дарогі
З роднага дому,
Як лёгкія мары,
спяшаюцца
Далёка,
далёка.
Не ўбачыш, вядома,
Дзе маладосць
канчаецца.

Дарога ў школу —
Яе не забыла,
Дарога на працу,
Якую любіла...
Як вас было многа,
Дарогі, дарогі,
У кожным каханні,
У кожным расстанні!

Калі азірнуцца,
Так хочаш вярнуцца

Дарогай знаёмай
Дадому, дадому.
А глянеш у далі —
І цягне ўсё далей...

Мне так было добра,
Мне так было шчасна.
Вам дзякуй, дарогі,
За свет непагасны,

За радасць
кожную,
За дні
дарагія,
За тое,
што сходжана
І што пройдуць
другія.

*1962*

* * *

Вясна блакітная!
Неба
глядзіцца
ў твары,
Сонца адбітак —
У лужыне
на тратуары.
Тралейбусы —
поўныя,
Вязуць
усмешкі,
прыветы,
Кандуктары цудоўныя:

Не бяруць
                  грошай
                              за білеты.
Дні натхнёныя.
Вершы
            нараджаюцца
                                    самыя   лепшыя,
Як лісточкі зялёныя,
Самыя першыя.
А ноччу не спіш,
                              нібы ў дарозе,
Слухаеш,
               як кропля
                                 кроплю гукае,
Верыцца:
               ў трывозе
Хтосьці
            цябе чакае.
І сніцца лета,
                        доўгае,
                                   з росамі,
З рыжымі
               вяснушкамі,
Тонкімі
            русымі косамі
І каляровымі
                      стужкамі.

*1962*

## САКАВІК

Сакавік, сакавік,
Да бярозы прынік.
Набіраюцца сонца крыніцы.
— Чараўнік, чараўнік,

Не згубі чаравік,—
Запрашаюць у госці сініцы.

Гэта месяц-вястун,
Гэта хлопец-пястун,
Легкадумны і звонкі, як птушка.
Яшчэ ўчора зіма —
Сёння снегу няма,
І ў снягурачкі нос у вяснушках.

Пачынаецца год,
Крыгалом, крыгаход,
Рунь зямлю на світанні свідруе.
І канчаецца сон
Маладых маіх дзён,
*1963* Калі сэрца прадвесне пачуе.

## ПОРЫ ГОДА

Жнівень,
мой жнівень!
Сонечны лівень!
У жыцці
усё паўтараецца.
Жыццё,
як прырода,
І поры года
Ў ім часта мяняюцца.

Вясна топіць.
Вясной —
я кропля,
Што з даху
вось-вось сарвецца.

Да сонца цягнуцца
залатыя ніці,
І ў маім маленькім блакіце
Б'ецца вялікае
вясенняе сэрца.

Лета!
Доўгачаканае лета.
Да зямлі прытуліцца б сагрэтай,
Там, у жыце,
якое не паспела наліцца.
Слухаць зямлі магутны голас,
Калі вырастае колас,
Жыцця напіцца.

Восень журботная!
Сястра-журавінка!
Увосень —
я тонкая арабінка,
Пад акно тваё
прыйшла басанож.
Толькі з табой даўно другая,
Апошні агеньчык мой дагарае.
І студзіць
і нудзіць
асенні дождж.

Зімы не ведаю,
не разумею.
Выбегу ў дзверы,
у вецер-завею,
Дні віхурацца
хуткія.
Мне нельга застынуць,
Мне нельга загінуць.
*1963* Зіма — гэта ветразь бялюткі.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег у Маскве, першы снег,
Бестурботны і лёгкі, як смех,
На зямлі, ну куды ні зірні —
Толькі снег, белы снег і агні.

І такая вакол чысціня.
І такая вакол цішыня,
Што няма раўнадушных людзей —
Выпаў снег, белы снег надзей.

Я люблю гэты снег, як траву,
Як прыбраную ў свята Маскву.
Прыгарнуўшы тваю галаву,
Першы снег — гэты сон назаву.

Застануцца мае сляды,
Каб вярнулася зноў сюды.
І, адзіны са светлых уцех,
Валіць снег, першы снег, добры снег.

*1962*

* * *

Сябе як помню ад калыскі —
У нас вялікая сям'я,
Але была карова Лыска
Адна карміліца мая.
Усю вайну мяне паілі
Салодкім, смачным малаком.
Суседзі потым гаварылі:
— Ну, дзеўка, вырасла, як ком.
Аб ёй адной жылі здаровы
І, як надзею, бераглі

Амаль адзiную карову
На сто двароў, на сто сялiб.
Ледзь набрынялi гронкi бэзу,
Каб немец не напаў на след —
Карову вырашыў зарэзаць
I натачыў касу мой дзед.
Сусед, глынуўшы самагонкi,
Пачаў жывёлiну хвалiць,
I цётка, бразнуўшы даёнкай,
Пайшла ў апошнi раз даiць.
Ды зразумела наша Лыска
Смяротны час сваiх жалоб,
Глядзiць у вочы блiзка-блiзка,
А слёзы коцяцца, як боб.
I адступiлi цiха людзi
На двор пад веснi маладзiк,
Так болем надарваў iм грудзi
*1962* Цягучы развiтальны рык.

## АЛЕНI

Гулялi завеi
Ўсю ноч па алеях,
А ранкам у пене
Паўсталi аленi.

Закiнуўшы рогi,
Куды без дарогi
Яны, як аблокi,
Iмчалi далёка?

Аленi iмчалi,
Вятры iм крычалi:

— Алені, алені!
Саб'еце калені!

Хацелася ў высі
За воблачным краем,
Ды так засталіся
1963 Бярозавым гаем.

## Я СУМУЮ ПА МОРЫ

Калі пачынаецца мелодыя
Птушынага хору,
Калі горад настоен водарам
Летняга бору,
А лета
яшчэ не надыходзіла,
Я сумую па моры.
Я сумую па моры,
як рыба глыбінная,
Я сумую па колеру
зялёна-сіняму,
Я сумую аб часе,
што адмервае маятнік прыбою,
Я сумую аб шчасці,
калі стану сама сабою.
Я сумую па моры, па забыцці,
Якое прыходзіць так рэдка ў жыцці,
Калі выблытваешся з былога,
як з павуціння,
Выплываеш новай лодкай у пуціну.
Выплываеш у хвалі,
У зялёныя далі,
Ад берага гарачага,
Ад кахання страчанага.

Я сумую па моры, як птушка па дому,
Сумую сумам па ўсяму зямному,
Што прыходзіць і адыдзе,
у зямлю ляжа,
Пра што мы не ведаем, і мора не скажа.
Я так люблю свой горад!
1966 І сумую па моры...

* * *

— Не любіце жанчын па міласці,—
Паўтараю каторы раз,
Я званю па адной справядлівасці,
Я званю, каб убачыць вас.

Я іду, між падобных пакорная,
Абганяючы словы і час,
А сцяжынка ляціць над прорваю.
Я іду, каб убачыць вас.

Колькі гора яшчэ паспробую,
Колькі слёз... Колькі дум, колькі мар!
Колькі бруду баб'ё тупалобае
У пяшчотны мне выплесне твар!

Я жыву легкадумна, паспешліва,
І няма апраўдання ў адказ.
Адкажу на папрокі усмешкаю:
1966 — Я жыву, каб убачыць вас.

* * *

Пялёсткі кволыя сціскаюцца
У кулачкі вільготныя.
Цюльпаны ўноч абараняюцца,
Душу хаваючы пяшчотную.
Калі перад люстэркам грошавым
Здымаю маскі я штодзённыя
З усмешкамі,
што каштуюць дзёшава,
З жартамі і паклонамі.
Нічога мне не помніцца,
І нішто ў сэрцы не месціцца,
Толькі вочы твае,
дакору поўныя,
Як у сумнага месяца.
Што рабіць мне з папрокамі?
Выслухаю бездапаможнай
дзяўчынкай,—
А дарога між намі далёкая,
Чыстая,
*1966* як слязінка.

* * *

Слёзы, слёзы, слёзанькі!
Божая раса.
Ці збярэш ты, Божанька,
Тыя слёзы сам?

Колькі я праплакала
Ў раннюю пару!
Высахла, як макаўка.
Думала: памру.

Толькі б не уведаў ён,
Адвяду душу.
Не засну, не снедаю.
Сяду — галашу.

Так ён не даведаўся,
Так ён не пачуў...
Загасіў, не гледзячы,
*1966* Шчасце, як свячу.

## ЯБЛЫНЯ

Я хацела пасадзіць яблыню
белую-белую
Ля хаты на кручы высокай,
Каб сонца і яблыня
парой сцішэлай
Глядзеліся ў вокны.
Дзе той дом,
у якім шукала спакою,
Салаўіныя гаі,
вясновыя спевы?
Прытуліўшыся
дзіцячай шчакою,
Стаю ля дрэва.
Мары перабляталіся з яўным.
На далёкім прадвесні
Засталася ты, мая яблыня,
*1966* Лебядзіная песня.

## РАЗУМЕННЕ

Нібы глыбіннае свячэнне,
Душы маўклівае агонь.
Усё зямное азначэнне —
Твая сяброўская далонь.

Я — за такое разуменне,
Якому верыш толькі раз.
Яго чакаеш, як збаўлення,
Пытанне носіш, як адказ.

Усё праходзіць, як імгненне...
І мучыць горкая віна:
За годы непаразумення —
Хвіліна ісціны адна.

*1966*

* * *

Яшчэ нічога не сказана
Аб самым сваім,
                    галоўным.
Ісціна —
            вочы завязаны —
Абыходзіць з кубкам поўным.
Яшчэ нічога не пражыта.
Кожны раз адкрываеш нанова:
І зямлю гэтую,
                    і дрэвы,
                                і жыта,
Адкрываеш новыя словы.
Адкрываеш чалавека іншага,
Якога не ведаў дагэтуль,
І хочацца ператварыцца ў вішню,

Абсыпаную першацветам.
О, шчасце маладосці дзіўнае!
Глыбокае, як неба.
О, сэрца маё наіўнае!
*1966* Луста духмянага хлеба...

* * *

Тоненькая Тоня пасвіць коней,
Тоненькую песеньку вядзе.
Сонца адбіваецца ў далонях,
Лета човен гойдае ў вадзе.
Ходзяць коні, белыя туманы,
Грыў калматых серабрысты дым.
За далёкім морам-акіянам
Казачна сінеюць гарады.
Клічуць сны вясковую дзяўчынку.
За сялом такі вялікі свет!
Тоня, Тоня, лёгкая пушынка,
Пасажырка будучых ракет.
Не спяшайся, прыйдуць твае казкі
І адыдуць залатыя сны.
Хлапчукі, цыбатыя падпаскі,
За цябе пагоняць табуны.
Смеючыся, пражывеш да скону
Ў радасці вялікай і бядзе.
Не заўважыш, як растануць коні
*1966* Маладых нястрачаных надзей.

* * *

Там, у багатых ружамі далінах,
Дзе госціць восень,
нібы светлы дзень,
Дзе неба ўзнеслі дрэвы на галінах,
Уранку плакаў малады алень.

Я так хацела тою стаць гарою,
Адкуль ручай пачаўся з яго слёз,
Куды аднойчы ранняю парою
Ён першы смутак у жыцці прынёс.

Гады майго маленства прамінулі,
Але на твар кладзецца суму цень,
Калі пачую шэрую зязюлю...
Аб чым ты плакаў,
малады алень?

*1963*

## БАЛАДА АБ САДЗЕ

Я ведаю вёску адну за Дзвіною,
З бярозавым гаем злілася вясною,
У студзень і ліпень, у дождж і марозы —
За ціхаю вёскай бялеюць бярозы.
У колер бярозы быў дзед закаханы
І белыя яблыні песціў старанна,
Нібыта у садзе ён цешыў надзею,
Любіў дзед вясною між яблынь завею.

Сад высеклі немцы і хату спалілі,
А бацьку ў першым баі забілі.
Бабуліны вочы дагэтуль цярусіць,
Убачыць унучку:
— Пятрусь мой, Пятрусік!—
Цалуе мне вочы
і лашчыць мне бровы.
— Усё гэта,— кажа,— ў яе Петрусёва.
Ну жыў мой сыночак з усмешкаю гэткай,
На ніжняй губе тая ж самая метка!..
О, яблыні белыя,
вясновыя, ў дыме!
З маленства —
вы сімвал маёй радзімы.
Люблю белы колер,
колер надзеі,
Вясны і зімы —
дваіх чарадзеяў.
Я з гэтай зямлі,
што з крыві і хлеба,
Ў вачах маіх стыне
бацькоўскае неба.

*1964*

* * *

Вечар шэры, як дзядуля,
Пылу воблака атрос,
Пад бярозай люльку курыць,
Як на палубе матрос.

— Вечар, вечар, дай мне човен,
Паплыву я між бяроз
За імглістай зоркай-поўняй
Ў срэбры палыновых рос.

Так з маленства палюбіла
Гэты край, як дзедаў сад,
Што з любых старонак мілых
Ўсё вяртаюся назад

Пад халодныя крыніцы,
Каля родных берагоў
Каб спачыць, вады напіцца,
Каб забыцца пра любоў.

Я — вясковая дзяўчына,
Як галінка між імшар,
І дрыготкая каліна
Носіць мой прыгожы твар.

Тут мая любоў і шчырасць
Нарадзіліся ў пару,
Тут, забыўшыся на вырай,
*1964* Пеўчай птушкаю памру.

## МАМА

Любіла расчэсваць косы,
Як сасна пры дарозе самай.
Ты і са мной не была дарослаю,
Мама,
        мая юная мама.
Пальцы ў вайну абмарожвала,
Акопы капала старанна.
Ты і ў горы была прыгожая,
Мама,
        мая бедная мама!
Трымалася з дзявочай сілай,
Калі хлеб выдавалі на грамы.

Ты і ўдавой нічога не папрасіла,
Мама,
        мая гордая мама!
Сама ступаючы па сцяжынках,
Мяне вяла на дарогу прама.
Смяялася над першымі маршчынкамі
Мама,
        мая добрая мама!
Як мы ў жыцці размінуліся —
Не разумею таксама,
Жыве на другой вуліцы
Мама,
        мая разумная мама!
Абцасікі скіну звонкія,
Прыйду да матчынага храма.
Рукі ў цябе добрыя, тонкія,
*1964* Літасцівая мама!

* * *

Няма дзіцяці, каб з калыскі
Любоўна песціць, гадаваць.
Няма сястры да сэрца блізкай,
Яе б вучыць і шкадаваць.
І толькі ты, мая радзіна,
Самотнай удавой пры мне,
Адна, як горкая рабіна
Ў зялёным лесе па вясне.
З табой за шэры дзень грымотны
Спакою бачу берагі,—
Ля белых рук тваіх пяшчотных,
Вачэй, гаручых ад тугі.
Я пакідаю сум і стому,
Выношу ў свет, у навізну
Святло твайго старога дому,

Твой чысты твар і сівізну.
Ад слоў тваіх, чулліва строгіх,
Нібыта робіцца цяплей.
І чым сталей мая дарога,
*1966* Тым вобраз чысты твой мілей.

## МАЯ ВУЛІЦА

Вось і канчаецца,
відаць, развітальны
Гэткі
блакітны
дзень.
Восень
у чаравічках крыштальных
Вуліцай светлай ідзе,
Вуліцай ціхай,
маёй улюбёнай,
Дзе помню я кожны дом;
Ліхтарыкі
на клёнах зялёных
Успыхваюць жоўтым агнём.
Вуліцай-лесвіцай
світаннем
Кожны раз спяшалася заўжды,
Вуліцай-равесніцай
кахання,
Па якой адыходзілі гады.
Днямі бясконцымі,
з працай, з надзеямі
Аб ёй успамін
нашу у грудзях:
Нібы ручнікамі,
ўсцілае завеямі
*1965* Мой самы шчаслівы шлях.

* * *

А можа,—
сама не здзіўлюся
(Ну што ў свеце нязменна?) —
І я з сям'ёю ўжывуся
У чатырох сценах.
Буду варыць абеды
У дождж
і зімовую сцюжу,
Забыўшыся
на свае беды:
Ёсць беды мужа.
І будуць знаёмыя рады,
А маці ім не нахвáліцца:
Усёй сям'ёй слухаем радыё —
Перадачу
«Добрай раніцы».
— Ах Вера!
Якая Вера? —
Ніхто ўжо мне не паверыць,
І ты — што цябе любіла
І ледзь абаіх не згубіла,
Што бегла на рэйкі,
на поезд,
У нейкі далёкі горад...
Тапіце ж мяне, тапіце
Ў здаровым мяшчанскім быце!..
Ніколі сама не здзіўлюся.
Ну што ў свеце нязменна?
Змянюся і я...
Пасмяюся
З новай сваёй перамены.

*1965*

* * *

За ўдзячнасць гэтае сустрэчы,
За асалоду пачуцця
Пражыта столькі недарэчных,
Балючых дзён майго жыцця.
Я назаву сябе шчаслівай
За пробліск сонечны надзей.
Ёсць у кахання справядлівасць,
Якой нямнога — у людзей.
Ёсць у кахання паслядоўнасць,
І глыбіня, і вышыня.
А мы так любім павярхоўна
Ў турботах сённяшняга дня.
Страх недарэмна сэрца мучыць,
Што памыляешся часцей.
Я знаю: ты мяне навучыш
Быць і сур'ёзней, і прасцей.
І будзе мне з тваім каханнем
У колькі раз пражыць цяжэй.
Ты гэтым толькі больш жаданы,
Бо шчасце з горам даражэй.

*1966*

## ЧЫРВОНЫЯ КАМЕННІ[1]

*Юрыю*

Мора прачыналася ціхае-ціхае
У сонечных струменях.
За аленем ішла аляніха
Па чырвоных каменнях.

---

[1] Чырвоныя каменні — аленевы запаведнік паблізу Ялты.

Горды алень пакутаваў моўчкі,
Несучы галаву ў праменнях,
Яна ж ніжэй хіліла галоўку
Да чырвоных каменняў.

Стаміліся абое рана,
І, тоячы ласкавае імгненне,
Яна залізвала яму раны
На чырвоных каменнях.

Хто больш за аленя любіць волю?
Войны адгрымелі, адышлі ў цені.
Раскажуць аб аленевым болі
Чырвоныя каменні.

І мы за развітаннем скорым
Прыйшлі сюды, дзе канчаюцца
летуценні,
Глядзець на блакітнае мора
З чырвоных каменняў.

І зноў у прыродзе ціхай-ціхай
Ранак шукае натхнення.
Пайду за табой маладой аляніхай
Па чырвоных каменнях.

Пайду, шукаючы справядлівасць —
Любві адзінай, нязменнай,
Жанчынай самай шчаслівай
*1964* На чырвоных каменнях.

## РУЖЫ

Як напісаць табе, мой дружа? —
Загінулі ў дарозе ружы.
Заснулі — і завяла лета
Ў далонях, вераснем сагрэтых.

Схіляюся над імі ў горы —
Маўчаць, халодныя, як зоры,
Ляжаць без подыху расінкі
Прыгожыя, як твар дзяўчынкі.

Ад берагоў зялёных Крыма
Я везла на сваю радзіму,
Цераз даліны і абшары
Я везла ружы, нібы мары.

І, беражна раскрыўшы рукі,
Пялёсткі слухала, як гукі,
Было мне водару гучанне,
Як паўзабытае каханне.

Прапахла ружамі машына,
А я, ва ўладзе успамінаў,
Смяялася, закрыўшы вочы,
Са шчасця баючыся збочыць.

Амаль ля кожнае крыніцы
Спынялася, каб ім напіцца...
Загінулі дарогай ружы.
*1965* Як напісаць табе, мой дружа?

* * *

Сумую я у восень звонкую
У павуцінні русых кос.
Абцасікі знасіўшы тонкія,
Хаджу па свеце басанож.

За што любіць нам, мілы, выпала?
За што каханне берагчы?
Неперажытае, нязвыклае,
Як дзікі голуб на плячы.

Перабіраю ўсё у памяці,
Як светлы міг, як летні сон,
Нібы плыву па белай замеці
За сіняй лодкай наўздагон.

Парады зведаўшы разумныя,
Імкнуся змалку да агню,
Сябрую з гарадамі шумнымі
І ненавіджу цішыню.

Мы на зямлі — такая розніца!
Аб чым цяпер я папрашу?
Гляджу, разгубленая модніца,
Ў тваю дзіцячую душу.

О, маладосць мая гаручая!
Світальных колаў перастук.
Ўпаду адной слязой балючаю
На прывакзальны мяккі брук.

Мы развіталіся самотныя,
Уносіць час пачуцці прэч.
Запомні ж ты мяне пяшчотнаю
У чысціні апошніх стрэч.

*1965*

* * *

Калі пачынаецца каханне?
Наіўнае пытанне!
Хто ў гэтым разумее?
І я сустракаю,
чакаю,
забываю,
І, пэўна,
кахаць не умею.
Толькі думаю
(з якой прычыны?)
Пра чалавека
з такімі сумнымі вачыма.
Чаму я нарадзілася так позна?
Аб вайне мне расказваюць абеліскі.
Васільковым полем
у кананаду грозную
*1966* Прайшла дзяўчына ля маёй калыскі.

## ВЕРЫ ХАРУЖАЙ

Пра юбілей пісаць
не суджана,
Тым больш,
я не люблю экспромт...
Аб чым ты думала,
Харужая,
Як выпраўлялася
на фронт?
Галодны Віцебск...
Мачты шыбеніц...
Як пераджыць усё
за год?

Зямлю тваю,
сады і выганы
Таптаў тупы
нямецкі бот.
О памяць —
дум і часу сховішча
Ад самых маладых
надзей:
Вайна з бандытам
Булаховічам,
Камуны мінскай
першы дзень...
Гады твае,
гады
са стратамі
Былых
загінуўшых сяброў
У барацьбе,
турме
за кратамі,
Без сонца і без дактароў.
Жыццё,
жыццё тваё падпольнае!
І дні
і ночы —
як шпікі.
Сасніцца дом
гадзінай вольнаю,
Галоўка русая дачкі.
Пякучы боль душы засмучанай
У тую
цяжкую пару!..
Была знявечана,
замучана
Не ты,
а наша Беларусь.

Пагляд
характару
упартага,
Твар самы просты, малады.
Не ты была такой, а партыя,
Якой ты верыла
1965 заўжды.

* * *

Прыйшлі былыя партызаны,
Зрабілі лагер у бары.
І вечар зажурыўся рана,
На тыя гледзячы кастры.

А мы, хто жах вайны не помніў,
Сядзелі побач ля агню
І слухалі, як б'ецца поўнач
І рвуць гарматы цішыню.

Тут стракаталі аўтаматы,
Касілі ўсё перад сабой.
І падымаліся салдаты
У свой апошні правы бой.

Мы, схамянуўшыся, глядзелі
У твары строгія жывых,
Нібы шукаючы з надзеяй
1965 Бацькоў загінуўшых сваіх.

## АЛЕСЯ

*А. Нікалаевай*

Чамусьці нараклі Алесяй
Дзяўчынку з горада Масквы,
Яна ж не ведае Палесся,
Ні паху красак лугавых.
Яна не чула нашай мовы
І звону песень у пакос,
А светлыя хмурынкі-бровы
Набеглі на кірпаты нос.
— Алеся,— чуецца,— Алеся.
На пляжы тонуць галасы.
Алеся — для мяне, як песня.
Імя шапочуць каласы.
Адкуль, вясковая сунічка,
Чаромхі нераскрытай бель,
Прыбегла модная спаднічка
У самы модны Кактэбель?
Адкуль, як кужаль, твае косы
І сінь вясновая вачэй? —
Нібы хадзіла ў жыце росным
Купаллем чэрвеньскіх начэй.
Нібы расла пад тым жа небам,
Дзе за балотам небакрай,
І сырадой любіла з хлебам,
Чакала, як надзею, май.
Ты не рабі паклонаў модзе,
Насі імя, як дабрату,
Як песню аб маім народзе,
Яго любоў і прастату.

*1965*

## КАЗКІ

Бабуся стала гараджанкай,
Пакінула вясковы дом
І ходзіць з моднаю бляшанкай
Штораніцы за малаком.

Даўно павырасталі ўнукі,
Кранула сівізна дачок,
Ужо не слухаюцца рукі,
Калі разматваюць клубок.

Ды поўны вочы сіняй ласкі.
Увечары яе прашу:
— Бабуся, раскажы мне казку,
Пацеш, як некалі, душу.

У цішыні начэй кароткіх
Пытанні чую мастака:
— Табе пра дзеўчыну-сіротку
Ці пра Івана-бедака?

— Якую хочаш, усё роўна!
Я мрою ў ціхія часы,
Калі яна рукой чароўнай
Сівыя чэша валасы.

Тут кожны лёс неспадзяваны,
Кранае выдумка да слёз,
І смерць ліхога атамана,
Як песня сумная бяроз.

Тут чараўнічыя пярсцёнкі,
Красуня у палоне чар,
Мая далёкая старонка
Дзіцячых запаветных мар!..

І засынаю, як калісьці,
З дзіцячай светлаю тугой,
Нібы яна маю калыску
1965 Калыша босаю нагой.

* * *

У свеце такіх не адзінкі.
Дзяўчына
на зборцы гадзіннікаў,
Робіць яна калёсікі —
Дэталь нумар
0-38.
Тры тысячы
трэба
штозменна,
Шэсць тысяч
робіць
штодзённа.
Шэсць тысяч!
Якая праца!
А дома
хворая маці
Чакае
абед не сагрэты...
Хіба цікава пра гэта?..
І мы
гадзіннікі тыя,
Пад нікелем
і залатыя,

Прывычна
                заўсёды
                        носім
З дэталлю
            0-38,
З участка таго паліроўкі,
Дзе схілены
1965                    профіль галоўкі.

* * *

Бабкі, Праскоўя з Марыляю,
Хто не дагледзеў дзяўчынку?
Кашай мяне накармілі вы,
А праглынула смяшынку.

Колькі мне свет і помніцца,
Суму не знала ніколі,
Смех з бядою не роўніцы,
Толькі смяялася ўволю.

— Смейся ж, смейся, мілая,
Так, як смяешся ўранні! —
Словы твае забыла я,
Помню адно каханне.

Шчасце маё шалёнае!
Колкае, як ільдзінка...
Вочы ад слёз салёныя,
1965 А на губах смяшынка.

* * *

За Новым годам
                    карагодам
Лятуць бязлітасныя дні,
А з імі — радасці, нягоды
Гартуюць сэрца на агні.

Не асудзіце гэтак строга:
Я толькі сэрцам і жыву,
Мая адзіная дарога
Бяжыць да мілага ў Маскву.

Трымаю сталасць, быццам вуду,
І дачакаюцца ў пару —
Пра маладосць пісаць забуду,
Пра лес, пра летнюю зару...

Не новай скончу і не першай,
І я ў юнацтве толькі госць,
Ды застануцца тыя вершы,
*1965* Дзе ўся любоў і маладосць.

* * *

На пачатку маладосці мілай
Не хачу чужых перасцярог,—
Не лічыце дарагіх памылак.
Не шукайце для мяне дарог.

Каб самому блізка ўбачыць неба,
Каб запомніць родную зямлю,
Навучыцца самастойна трэба
Маладому лётаць жураўлю.

Ад лясоў, ад берагоў зялёных
Я прыму і шчасце і бяду,—
Толькі тыя, што мае да скону,
Толькі тыя, што сама знайду.

*1965*

## БЕЛЫЯ ПІСЬМЫ

*Паэма*

Я кожны дзень нібы губляю
Сваю ранейшую душу,
І новаю сябе ўяўляю,
І пісьмы белыя пішу.

Я думкі ля агню сагрэю:
Хто б напісаць адказ мне мог?
І толькі белая завея
Лісты прыносіць на парог.

Над верасамі і лясамі
Гудуць працяжна правады,
Нібыта будзяць галасамі
Маю хацінку
Гарады.

Як невядомая дарога,
Бягу ў бярозавую даль,
Уся — надзея і трывога,
Далёкі смутак, лёгкі жаль.

Чаго спяшаюся, шукаю,
Таго не ведаю сама.
Неспадзявана вёсны таюць,
І зноў наперадзе зіма.

Я тым пішу, каго забыла,
Каго заснежылі гады,
Каго я год назад любіла,
Яшчэ не верачы тады.

Як перапёлчын крык у жыце,
Лаўлю юначую душу.
Паслухайце, дапамажыце!
Я вас прашу, я вам пішу!

## ПІСЬМО ДА БАЦЬКІ

Калі б я вярнуцца пасмела
У мінулае, адбалелае,
Я б выменяла шчасце дружнае
І выбрала сэрца мужнае.
Насіла б высока гора,
Салёнае, нібы мора,
Я б радасць чакаць умела,
Як чакаюць сукенку белую,
Каб надзець яе, лебядзіную,
Хаця б на адну гадзіну.

Ноч адчаліць
за днём учарашнім.
Не сплю начамі:
тата, мне страшна!
Углядаюся ў восень,
шукаю выйсця,—
Восень косіць
жоўтае лісце.
Чакаю раніцы,
весткі крылатай.
Боль туманіцца.
Мне цяжка, тата!

Так сякуць тапары,
б'юць бярозу у грудзі,
Лес дрыжыць на зары,
захлынаецца ў гудзе.
Адгукнецца ў бары
прадсмяротным адчаем...
Дваццаць тры —
без пары
паміраю
начамі.

З маленства прывыкшы да страты,
Я слова не ведала «тата».
«З вайны не вярнуўся дадому»,—
Адно, што было вядома.
Бабуля на картах варожыць,
Бабуля не плакаць не можа:
«Пятрусю, сыночак, салоўка,
Дзе склаў ты, гаротны, галоўку?»
Мне снілася кожнае лета,
Пакуль не паверыла ў гэта:
Між сонцам паўднёвым і жытам
Ідзеш ты, жывы, незабіты,
Да ціхае нівы, да хаты,
Без каскі, без аўтамата...
Зламаліся белыя крылы
Галубак, надзей маіх мілых.
Туга атруціла чаканне,
Ні шчасця няма, ні кахання...
Мой шлях ад крыніц і вытокаў,
Дзе явар стаіць адзінока.
Я вырасла з сонца і жыта —
Іхні і твой адбітак.
Нібыта галінка ракою,
Плыву я,
не знаю спакою,

І боль мяне мучыць і страта...
— Як жыць? —
адкажы мне, тата...
Вы, родныя хаты, і нівы,
І явар маленства шчаслівы!
Бягу запаветнаю сцежкай,
Глытаючы слёзы з усмешкай,
Як птушка, заб'юся ў блакіце:
— Мой тата вярнуўся! Глядзіце!

**КАХАНАМУ**

Ну, як жывецца ў цішыні
Без вершаў і прыгод?
Не надакучыў — дзень пры дні —
Сямейны карагод?

Шматпакаёвы моцны быт
Стаіць, як Усць-Ілім,
Далёка ад усіх арбіт.
А шчасце ёсць у ім?

Сняданне ў час, абед і квас —
Заслужаны рэжым.
Патроху забываю вас
Праз папяросны дым.

Ну, як глядзіцца з вышыні
Адказнае з пасад?
Гараць маскоўскія агні,
Як дзень, як год назад.

Засыпаў снег апошні след
І рыжую траву,
Мы падзялілі гэты свет —
Адзіную Маскву.

Жывіце, памагай вам Бог,
Без лішняе бяды,
Без маладых маіх трывог,
Таропкае хады.

Без перамен і пачуцця,
Без радасцей жывых.
Шкада мне вашага жыцця,
А шкадавалі вы?

У мешаніне дзён і страў
Што значыць вобраз мой?
Забыты плыт на плыні спраў,
Зялёны луг зімой.

Спяшаецца да схілу дзён
Жыццё маё далей,
І вобраз ваш — дзіцячы сон,
Усё бялей, бялей...

## ЛІСТ ДА СОНЦА

За што я люблю сонца?
Не знаю.
Можа, за тое, што нарадзілася
У блакітным азёрным краі,
Дзе сонца
у кожным рамонку
апоўдзень засынае.
Чаму я люблю сонца,
хто знае?
Нястач абганяю зграю,
Прагнучы яго чысціні,
Пакутуючы на ягоным агні.
Сонца,
маё сонца!

Антонаўка на ўслонку,
Жоўтая, печаная,
летам мечаная...
Я спяшаюся за табой усё жыццё,
Несучы ўдзячнасці пачуццё.
З маленства памятаю:
Сонца чырвонае —
да небакраю,
Ліецца, цёплае,
Што сырадою кроплі.
Збіраю цяпло жменькамі,
Птушка разморана ценькае,
Цвыркун у траве сакоча...
Сонца спаць не хоча.
Жыццё распускаецца шчаслівае
Ў далонях маці
і ў бэзавай гронцы.
Я веру у справядлівасць,
Пакуль над зямлёй сонца.
І ты, маё першае каханне,
Б'ешся промнем у тумане.
Ліся свабодна, светла,
Як сонца над планетай.
Недзе ў далёкім краі
Мора сонца купае.
Там не бывае снегу,
У студзені —
яблыкі на пацеху.
Блакітнымі начамі
Лодкі калышуцца на прычале.
Забудзь пра гора,
Слухай мора.
Сонца будзіць рана
Ласкавымі рукамі.
Салёная, адшліфаваная,
Ляжу на беразе на камені.

«Плыві з намі,—
                    просяць хвалі,—
Ад берага далей...»
А я прасіла сонца,
                    друга адзінага:
«Пойдзем на маю радзіму,
На дняпроўскія тоні,
Дзе пасуцца коні,
У пушчы грозныя,
У хаты пад бярозамі...»
Я прасіла у сонца шчасця
Для сябе і сваіх дзяцей,—
Яно ж усміхалася
                    на маёй шчацэ.
«Не журыся,— гаварыла,—
                    не журыся...»
Зіма паставіла кросны,
Тчэ коўдру пад ногі соснам.
У хаце маёй вясны промень.
Я сонца помню.

## УНУКАМ МАІХ УНУКАЎ

Адыдзем
          залатымі пожнямі,
Днямі юнацтва апошнімі
У шчодрае лона зямлі,
Станем азёрамі, барвамі,
Ляжам зялёнымі фарбамі
На палі.
Шкада пакідаць гэты свет і ў старасці,
А сёння,
          калі не хапае сталасці,
Смяюся ў твар смерці.
Але заціхнеш і ты, мілае,
Легкадумнае, легкакрылае,

Трапяткое сэрца.
Куды паверне мая сцяжынка?
Куды паплыве мая крывінка —
Дзяўчынка з пабітымі каленкамі?
Цягнецца да шчырага сонца
Зайчык у мурзатай далоньцы...
Маленькая!
Якім ты будзеш,
новае пакаленне?
У чым новае?
Я не з тых,
што шукаюць імгнення —
Апляваць непатрэбнымі словамі.
Не выступаю з трыбуны,
Але думаю
пра нашчадкаў далёкіх:
Што з імі будзе
На планетах лёгкіх?
Наіўнае маё старанне
Перадаць трывогу тым людзям:
«Людзі!
Не забудзьце каханне!
Хай
яно
будзе».
Унук унука —
Працяг майго роду,
Чуеш сэрца майго грукат
У каляндарных ходзіках?
Няўдачы твае і радасці,
Пошукі і надзеі —
Сёння нашу без адраса,
Пісьмы пішу ў завею.
Шляхі людскія, бясконцыя.
Урадлівай зямлі нівы.
Ціха адыду да сонца

Днём веснавым шчаслівым.
Будуць цвісці рамонкі,
Жураўлі вернуцца з выраю...
Час разгорне старонку
Новага жыцця і шчырасці.

## ДАРОГАМ КРЫМА

Ці забудзеш на дарогі Крыма,
З берагамі салёных хваль,
Горкія
ад пялёсткаў і дыму,
Светлыя,
як далёкі жаль?..
Выведзі мяне,
выведзі на любую
Дарогу шырокую,
як марскі прастор,
Пад сонцам ранішнім залатую,
Што ўзвілася да самых зор.
Туды, дзе арлы гняздзяцца горныя
І хмары хаваюцца ад гарачыні,
Сэрца ляціць маё непакорнае,
Прагнучы вышыні.
Дарогі пачынаюцца з самага важнага,
З нечага прыгожага на зямлі,
Дарогі пераходзяць у неабсяжнае,
Там, дзе канчацца яны б маглі.
То схіляецца нечакана над морам,
То разганяецца ўвысь —
Дарога ласкавая і пакорная,
Дарога нечаканая, як рысь.
Забываюцца думкі трывожныя,
Зачароўвае дарожная даль,
Сніцца пасцель пад небам мурожная,
Чуецца музыка ў гомане хваль.

Колькі аб'ездзіла, колькі схадзіла —
Толькі ў дарозе шчаслівай была,
З ветрам салёным, з гарачым пылам
Кубак халоднай вады піла.
Дыхала морам і шчасцем уволю,
Яркаю казкай паўднёвых гор.
Дарога кожная — нібыта доля,
Не кінеш ні слова ў дакор.
І ты, мой далёкі,
харошы дружа,—
У памяці тонкі абрыс.
Адцвітаюць буйныя ружы,
Высока шуміць кіпарыс.
Еду з табой, летуценная,
Засынаючы на дарозе ўначы,
Валасы рассыпаўшы пенаю
*1965* На тваім плячы.

## ВЫСАКОСНЫ ГОД

Агнём маланкі, крыльцам матылька,
Вячэрнім смуткам прыварожыш скроні.
Мой высакосны год —
як шчодрая рука.
Неўтаймаваныя нясуцца коні.

Бяру дары, не даючы ўзамен,
І страты прыгадаю ў асалодзе,
Святло і цень жыццёвых перамен —
Як маладзік у высакосным годзе.

Хай ападаюць дні мае на жвір
Пажоўклым лісцем і асеннім пылам,
Я выплываю у халодны вір,
Аддаўшы дрэвам залатыя крылы.

Хвала табе, мой высакосны год,
Не даў мне шчасця — падарыў надзею.
Мой сон ляціць у зорны карагод,
Малюся мудрасці і дабрадзеям.

Вясне і сонцу гімны адслужы,
Дык не шкадуй жа развітальных спеваў.
Я застануся на адной мяжы,
Як перунамі спаленае дрэва.

*1968*

## МОЙ ДОМ

Мой дом на вольных берагах
Ля возера расы,
Дзе лета сум і ветру пах
Прыносяць верасы.

Мой дом спакою і цяпла
У засені сасны,
Дзе вянуць на мяжы сяла
Травою дзікай сны.

У час неспадзяваных дум —
Да новых перамен.
Дажджу грымотны мяккі шум
За цішынёю сцен.

Разлука — ў даўжыні дарог.
Будзённы век машын —
Мой дом прытульна убярог
Вясновы дзень душы.

І я, адвыкшы ад бяды,
Забыўшы пра гасцей,
Праводжу дні і халады
Зязюляю часцей.

Я успрымаю на ляту
Прыроды чысты рух
І адчуваю прастату,
Як дотык мілых рук.

*1968*

* * *

Ты пакідаеш свет рэальны,
Здзяйсненне незабыўных мар,
Блакітнай птушкаю світальнай
Ты б'ешся раніцай між хмар.
Сыходзіш вузкаю палоскай,
Разрэзаўшы глухую ціш,
Далёкай белаю бярозкай
У сінім марыве гарыш,
Як адыходжу я ў дарогу
Мінулых дзён і забыцця,
Адчуўшы горкую трывогу
Свайго пражытага жыцця.
Прытулак дум неспадзяваны,
Даўно не выберу другі,
Маленства яблыневы ганак,
Рачулкі ціхай берагі.
Вяртаюся цераз нягоды
Да ісцін першаадкрыцця,
Да непачатасці прыроды
І таямніцы пачуцця.
А ты, сляпая рэчаіснасць,
Прысуды гордыя вяршыш,
Калі над лесам урачыстым —
Святло бярозавых вяршынь,
Калі лугамі косіць лета
Траву бабуліных прыкмет
І стыне на зямлі сагрэтай
*1968* Нязвыклы мой і лёгкі след.

* * *

Адлятаюць мае вёсны,
Асыпаюць пялёсткі.
А я не заўважаю.
Адлятаюць у край,
дзе блакітныя сосны
З сонцам разважаюць,
Дзе сны мае
адлічвае зязюля
І туманамі
плача верасень,
Дзе вецер
сушыць кашулю
На высокім беразе.
І некалі ўспомніць, уздумаць —
Спяшаюся
па замкнутаму колу...
Адлятаюць
з апошнім сумам
*1967* Вёсны мае вясёлыя.

* * *

Гэта ж нашага лета не стала.
У далоні ляціць павуцінка,
І зялёнае рэха прапала
У стракатым прыполе дзяўчынкі.

Лес шуміць недаверлівым шумам,
І глядзіцца вярба у ваду.
Пахілілася з горкаю думай,
Адчуваючы сэрцам бяду.

Ад расквечаных долаў вясёлых
Засталася легенда надзей,
І наіўна-шчаслівы мой голас
*1967* Прытаміўся, як летні дзень.

## ВЯСНОВЫЯ ДАЖДЖЫ

Дарогамі,
полем,
дзе празаічная доля
І летуценнае жыццё
сустрэнуцца на мяжы,
Спяшаюцца юныя,
сонечныя і свавольныя
Мае вясновыя,
мае дажджы.
Прачынаюцца людзі ў адзіноце,
Слухаюць песню вады,
Як птушкі,
што заблудзіліся на балоце,
Стукаюць у вокны гады.
Чаго ж ты, сэрца,
неспадзяванага хочаш,
У вясновую ноч глядзіш?
А ў ночы сумныя вочы,
Глыбокія, як ціш.
І нясе
імклівая ручаінка,
Перабіраючы тонкімі ножкамі,
Салёную
першую дажджынку
На залатыя пожні.
Як хочацца дакрануцца
да гэтай радасці,

Ступіць басаніж
у нязвыклую чысціню
І напіцца
з маладой прагнасцю
Вясновага агню.
Як хочацца адчыніць
шкляныя дзверы
У свет забыты
пары шчаслівай,
І верыць,
і любіць без меры,
Не палохаючыся дзён імклівых.

Дарогамі,
полем,
дзе празаічная доля
І летуценнае жыццё
сустрэнуцца на мяжы,
Спяшаюцца юныя,
сонечныя
і свавольныя
Мае вясновыя,
1967 мае дажджы.

* * *

Не ашуквайце лёгкай спакусай
Галубінай сяброўкі — вясны.
Ў валасах маіх попельна-русых
З юных дзён прыгавор сівізны.

Невядомая сніцца дарога
Ад ускраін старога сяла,
З перажытага так нямнога
1967 Засталося у сэрцы цяпла.

* * *

Вам пісьмы пісаць не буду —
Чытайце вершы мае.
На пісьмы не хопіць мужнасці
І часу так не стае.
У пісьмах больш афіцыйнасці,
А значыць, менш пачуцця,
У пісьмах баюся пільнасці,
Староннягa выкрыцця.
Відаць, на вяку адмерана
Каханне маё бядой,
На пісьмы не хопіць вернасці
Ў мяне, такой маладой.
А вершы лёгка складаюцца
У самы кароткі час,
А вершы ў свет дасылаюцца
Нібыта зусім не для вас.
Дык будзьце ж у строгай важнасці
Да шчырасці ласкавей.
Чакайце, чытайце ўважліва,
Як пісьмы, вершы мае.

*1966*

* * *

Беражыце нервы,
беражыце!
Нам і дня без нерваў не пражыць.
Сэрца — птушка,
збітая ў блакіце,
Падае
і жаласна дрыжыць.
Сэрца маё!
Паміраць не трэба.

Ты ў мяне
на цэлы век адно.
Як адно над галавою неба,
Пад нагамі
земляное дно.
Разарвецца нерва провад тонкі,
Горла сцісне спазмаю адчай.
Мне б пражыць
яшчэ хвіліну толькі.
Сэрца маё, пачакай!
Спалена, абкрадзена, як ліпка,
Ты — жывы
няўмольны камячок,
Сэрца маё — тоненькая скрыпка,
Меншая
за кулачок.
Берагла
ад радасці і гора.
Ды, відаць, не ўмею берагчы.
І памру я,
як узыдуць зоры,
1967 Перапёлкай, на чужым плячы...

* * *

Пусты мой горад,
і адзінока
На людных вуліцах яго,
І цішыня, і сум навокал
Без чалавека
без аднаго.
Не парушаю правіл руху,
Жыву — без часу, без гадзін.
Няма каму душу паслухаць —

Далёка
чалавек адзін.
І што мне радасць,
міг удачы —
На ўсё,
на ўсё адзін адказ,
Каб толькі зноў яго пабачыць,
Пабачыць
1967 у апошні раз.

* * *

Ты, мой адзіны горад,
Любы з маленства да болю!
Кран пражэктарам гордым
Высіцца над таполяй.

Будуеш, ускраіна мілая,
Дамы, што без назвы і стылю,
Сабакі, рудыя ад пылу,
Брэшуць на аўтамабілі.

Тут атам і стронцый не лічаць
Вышэйшай праблемай Сусвету.
Пад сонцам адным шчасця зычым
Народжаным песням паэтаў.

Тут праўда ў шаноўным законе,
Хоць крыўда вартуе ля брамы.
На вуліцы, як на далоні,
Жыццёвыя будні і драмы.

Як лодка да ціхага порту,
Як птушка, што марыць пра волю,

Прыходжу ахвярай камфорту,
Шукаючы ласку і долю.

Дзіцячай усмешкай застыну,
Калі прыгадаецца ранак,
Забытая горыч палыну,
1968 Драўляны даверлівы ганак.

* * *

Гульнёй блакітных светаценяў,
Чароўным колам летуценняў,
Я помню сны твае, каханы,
Вясновым вогнішчам туману.

Я помню сны, таму што болей
Мне засціць памяць церпкім болем
У днях на вечныя турботы
Прывід няўмольны адзіноты.

Прынесла стому мне змаганне,
З бездапаможнасцю кахання
Гляджу, як цешацца пачвары,
На іх лысеючыя твары.

За крык душы безабароннай,
Мая святочная карона,
Цябе пасеклі, як бярозу,
Блішчаць на тапарышчы слёзы.

На колер ільнянога поля
Я атаснюся ціхім болем,
На памяць раніцы і неба,
1968 На чысціню зямлі і хлеба.

## ПЕСНЯ ЗІМОВАГА ЛЕСУ

Ведаю —
скончацца вясновыя спевы,
Восень летняе рэха разнесла.
А мне будзе сніцца,
і буду плакаць, напэўна,
Над песняй зімовага лесу.
Як матуля,
тая песня гушкала —
Незразумела, міла,
І быў лес зімовы,
як мудрая птушка,
Склаўшая белыя крылы.
У цішыню
хадзіла закаханая
Пад ялінамі імглістымі,
Незнаёмаму пачуццю адданая,
Лясной урачыстасці.
Думала, кранаючы дрэвы рукою:
Адкуль у прыродзе столькі прастаты,
Адвечнага
мудрага спакою,
Амаль чалавечай дабраты?
Стаяла, як маленькая дзяўчынка
На пачатку новага жыцця,
І клубілася белая сцяжынка
Да першага адкрыцця.
Ведаю,
скончацца спевы веснія,
Я сустрэну лета і восень, як долю,
Але песню зімовага лесу
1967 Не забуду ніколі.

* * *

Сумуе дома
Сэрца незразумелае.
Рвецца ў кут незнаёмы,
Туды, дзе хмурынка белая
Тоне ў хвалях прыбою,
Дзе ўсё пераплялося:
Лета, восень,
Радасць з журбою.
Дзе людзям прысвечана мода
І рознакаляровыя
                    дні бясконцыя,
Дзе свет
          падзяліла прырода
На мора і сонца.
Хочацца ўздыхнуць глыбока,
Боль адчуць адзінока
На беразе,
          дзе мора злізвае каменне
Салёным язычком імгнення.
Хочацца зліцца з ласкавай вадою
І не мець іншага жадання,
Забыцца тугой маладою,
Шчасцем рання,
Маўчаць і слухаць дзень цэлы,
Сонцу аддаўшы цела,
Як хваля хітрая вуркоча
Стагоддзі, дні, ночы...

*1968*

* * *

Есць у мяне
сяброўка
(Іншыя каб не чулі),
Схілі на плячо галоўку,
Сівенькая зязюля.

Што ты кукуеш на восень,
Цешыш тугою грудзі?
Забуду,
што адбылося,
Ведаю,
што будзе.

Дзе ж ты, тая дарога,
Лёгкая,
без адчаю?
Сэрца маё надоўга
Пакідае мяне
начамі.

Словы сентыментальныя,
Горшага не падумай,
Заўсёды пара развітальная
Прыносіць хвіліну сумную.

Адлічваеш ты размерана,
Пэўна, шчаслівую долю мне,
Як прадракальніца верная,
Птушка лясная, вольная.

*1965*

* * *

За што вы толькі не судзілі —
А я па-свойму ўсё раблю.
На зайздрасць вам мяне любілі,
І я на зайздрасць вам — люблю.

Пакінулі свой след капытны
На маладой маёй душы,
Мой вобраз юны абабіты,
Як слуп аб'яўны ля шашы.

Наперакор не толькі лёсу
Нясу высока галаву.
Мой смех на зорах і на плёсах;
Такая ж, юная, жыву.

І некаму мне крыўду скласці,
І некалі прыняць дакор.
Жыву і прычакаю шчасця
*1967* Усім чарцям наперакор.

## ХАРУЖАЙ

Я пайшла па слядах тваіх
у свет нязнаны
Па гаючай памяці,
незагоеных ранах,
У лёс загадкавы, у вочы прамяністыя.
Я пайшла па слядах тваіх,
як па слязінках чыстых.
За небакраем гадоў ты усміхаешся.
Я пайшла па слядах тваіх,
а ты аддаляешся.

І я ўсміхаюся
з нязвыклай стомай,
Боль мой новы, радасць незнаёмая.
Я іду па слядах тваіх
у росным тумане
Да пакут нечалавечых
і чалавечага кахання,
Схіляюся
над жыццём тваім і смерцю
Кожнай крывінкай маладога сэрца.
Ну, скажы мне хоць слова гаротнае
Скрозь усмешку, як боль, пяшчотную,
Хоць адну
дай параду строгую
На цярністы твой лёс-дарогу.
Я іду па слядах тваіх
за справядлівасцю і мужнасцю,
За высокай гордасцю і дружнасцю.
Кожны крок мой — на белай паперы,
Я дайду да цябе,
*1967* мая Вера!

* * *

Дзень сённяшні і заўтрашні —
таварышы,
Прыходзяць да мяне ўначы,
Схіляюцца, як дзеці, рукі спарыўшы,
І раяцца, як добрыя ўрачы.

А я ляжу, баюся зварухнуцца,
Каб не ўстрывожыць заўтрашні свой дзень,
Каб сённяшні не захацеў вярнуцца,
*1966* Пераступіўшы сонечны прамень.

* * *

На высокае сяброўства
Рукі белыя падай...

*Алесь Жаўрук*

Да чаго ж усё
перамёнліва,
І жыццёвы дзень —
калаўрот.
Ты забудзь мяне —
перамелецца.
А выходзіць
наадварот.
Хіба ведала,
акунаючы
Ногі босыя
ў росны луг,—
Летнім досвіткам
засынаючы,
Пазаву цябе —добры друг.
І ты вернешся
вернай птахаю,
Пакладзеш крыло
на траву
І на рукі мне,
як на плаху,
Непавінную галаву.
Можа, першы раз
закахаемся
Позняй яваю
сноў маіх,
Не тужы цяпер.
Развітаемся...
Усё роўна мы —
удваіх.

*1967*

* * *

Няўжо гэты снег,
такі глыбокі і белы,
Растане настолькі бясследна,
Што не застанецца ручаінкі,
самай нясмелай,
Сцяжынкі, самай беднай?..
Няўжо гэта чалавек,
якому столькі часу і сэрца
Аддала, не задумваючыся,
з упартасцю мяцежнай,
Няўжо гэты чалавек
з памяці маёй сатрэцца?
І тое, і другое —
непазбежна.

*1967*

## МЕТЭАРЫТЫ

Гаворым аб месцы ў літаратуры,
А хіба пісьменнік
шукае тое месца?
Праносіцца
ў жыццёвай віхуры
Вогненным метэарытам ля Месяца.
Праносіцца,
абганяючы
Зоркі вялікія і маленькія,
Рассейваючы і асвятляючы
Людскія шляхі-праменьчыкі.

Нязвыклы,
              як новая камета
Пароды
          самай чыстай,
Згарае, нібы ціхае лета,
Проста і ўрачыста.
Прыйдуць,
              абступяць,
                        быццам што разумеюць,
Дзівяцца на сонца адбітак.
Непатрэбныя,
              ляжаць у музеях
1966 Мёртвыя метэарыты.

## КАЛІНА

*Ліра-паэма*

Перамераю ноч хвілінкамі,
Перачэрпаю памяць да дна,
У далонях засну ручаінкаю,
А паміж намі —
              вайна.

Над зямлёй, зруйнаванай, знявечанай,
Развітальнага плачу струна.
І кахаю я дрэвам падсечаным,
А паміж намі —
              вайна.

Пацяклі мае вочы туманамі,
Мае вусны асмяглі, як соль.

Толькі сэрца жыве, закаханае,
Бо не можа памерці ў ім боль.

Закуюць заржавелымі путамі,
Загартуюць
тупыя нажы.
Я люблю цябе ўсімі пакутамі,
А пакуты не знаюць мяжы.

Працягнула з былымі нястачамі,
З перажытай наіўнай журбой
Я празрыстыя рукі дзіцячыя
Над вайною і над табой.

Не пакінь паўзабытымі словамі,
Як пакінула восень палі,
Хай курлычуць імя васільковае,
Адлятаючы, жураўлі.

Не забудзь хоць імгненне адзінае,
Адплываючы на вякі,
Дай мне шчасце зацішнай гадзінаю
Да тваёй прытуліцца шчакі.

Адыходжу дарогаю колкаю,
Як на верную смерць, басанож
Летуценнай і добрай вясёлкаю
Пад вясновы і цёплы дождж.

Раннім золакам ты адгукаешся,
Летуценняў былых старана.
— Я адна,
любы мой,
развітаемся...
Прыязджай, любы мой,
я адна...

## РАДЗІМА

> Травою дзікай спавіліся
> Сляды забытых пуцявін,
> Дзе кроў сачылыся калісьці
> Слязьмі халодных журавін.
>
> *Паўлюк Трус*

Шуміць, апавядае вёска
Лістотай памяці вайны,
Сівее белая бярозка
На месцы дзедавай труны.

Запала гора горкай мятай,
Палын-травою на мяжы,
Але стаяць над кожнай хатай
Вайны мінулае крыжы.

На бацькаўшчыне хлеб так родзіць
І рунь красуецца штогод —
Зямлю на цэлае стагоддзе
Крывёю напаіў народ.

На бацькаўшчыне столькі спеваў
Хаваюць мудрыя лясы —
Як паміралі людзі,— дрэвам
Перадавалі галасы.

І дзед мой лёгкую калыску
Зрабіў з такіх пявучых дрэў,
Як грукат кананады блізкай
То набліжаўся,
то цішэў.

Калыска песень знала многа,
Ды так не ўспомню ні адну,
Ні хату дзедаву — нябогу,
Ні тую жорсткую вайну.

Прымі ж удзячнасці вяршэнства,
Бярозавы мой сіні кут,
Што ты ўбярог маё маленства
Ад слёз дарослых і пакут;

Што ты прыняў біяду руплівa
Ў заўсёды шчодрыя палі
За частку дзён маіх шчаслівых
На гэтай гордае зямлі;

Што ты душу мне цешыў рана
Узорам сціплай пекнаты,
У сэрцы захаваў старанна
Хоць кроплю чыстай дабраты;

Што я жыву тваёю доляй
Высокіх мар і светлых дум,
Як рэчка ціхая ці поле,
Як маладой бярозы сум.

Тваіх пажарышчаў і дыму
Хоць рэшту горычы ўбяру,
Мая жалобная радзіма,
Мая святая Беларусь!

Шуміць, апавядае вёска
Лістотай памяці вайны.
І звоняць сосны і бярозкі,
Як векапомныя званы.

Плыве прачысты звон суровы
За жураўліным клінам дзён,
Сказаць якое хоча слова,
Аб чым забыць не можа ён?

І, адчуваючы трывогу,
Яго паслухаю адна,

Як пераэкыта намі многа!
Няўжо ты вернешся, вайна,

У гэты край, жывы і мілы,
Купальскіх песень і вянкоў,
На тыя ж хаты і магілы
Маіх загінуўшых бацькоў?

А я яшчэ не адлюбіла,
А [redacted] яшчэ не пражыла
І долі нават не згубіла
Свайго юнацкага цяпла.

Што памылялася так рана,
Смяяцца думала часцей,
Не знала радасці з каханнем,
Не мела ад яго дзяцей.

І крыкам немым і галодным
Ад болю чорнага крычу:
— О краю мой, святлісты,
родны,
Я гэтак жыць яшчэ хачу!

## СМЕРЦЬ СЯРГЕЯ КАРНІЛАВА

— Что о мертвых жалеть нам!
Мне мертвых нисколько не жаль!
Пожалейте меня!
Мне еще предстоит умереть!

*М. Святлоў*

Такія высокія травы
пад вёскай Галева
І густое жыта.
Як добра спачыць там, напэўна,
Жывым
і забітым.

А неба такое глыбокае,
Зоры гарачыя!
І цішыня навокал
Нерастрачаная.
Неба схіляецца ў вочы,
Неба сказаць нешта хоча,
І падаюць зоры на грудзі,
Цябе, нежывога, будзяць.
Што ж вы нарабілі, зоры?
Прапалілі, як кулі,
Новую кашулю,
Прабілі сэрца
смерцю,
І ўпаў ён у жыта
Самалётам збітым...
Цурчыць кроў з раны,
Стыне
цела маладое,
Напіліся коні-туманы
Крывёй, як вадою.
Паднялося жыта ў красе,
У крывавай расе,
Ад крыві
тваёй непакорнай
Неба стала чорным.

А ты ляжыш,
і нічога табе не трэба,
І не шкадуеш крыві
ні для зямлі,
ні для неба,
Ні для жыта,
што стане хлебам.
Вятры прагаласілі над табой дружна,
Хмарка
слязой пакацілася...

Добры чалавек і мужны,
Што табе снілася?
Поўначы
снягі бясконцыя,
Эскадрыля сталёвая,
Сосны,
што пахнуць сонцам,
Сады Магілёва?
Ты паміраў
так несправядліва,
Не адведаўшы
кароткага шчасця,
Абняўшы
неба імклівае,
Перад тым,
як на зямлю ўпасці.
Ты паміраў,
пакідаў жанчыну любую,
Сына,
што не паспеў нарадзіцца,
Высока
жураўліныя трубы
Спявалі пра цябе бліскавіцам,
Сціхалі
перадсмяротныя мукі,
Схілялі
дрэвы верхавіны.
Раскінуўшы дужыя рукі,
Ты клікаў
жонку і сына.
Клікаў,
пра былое адмарыўшы,
Сэрцам адчаю жывога,
Ні жонкі тваёй,
ні таварышаў —
Побач не было нікога.

Тоўпіліся
у небе
метэарыты
Ліпеньскай талакой,
Шапацела
бездапаможна жыта,
Цёплае,
як малако.
Добрая вёска
і людзі,
Пра смерць яго раскажыце.
Маліннікам
вылечылі грудзі,
А ён
памёр у жыце.
Пасля —
дротам канцлагерным скручвайце,
Вочы агнём паліце,
Смерць
адзін раз адмучыла,
Калі
паміраў
у жыце.
Пісала Харужая,
верыла як апантаная:
— Дзе муж мой, адкажыце?
Ён быў цяжка паранены.
А ты
памёр у жыце.
Загінуў за Веру,
за сына,
За невядомую вёску Галева.
Прыняла цябе
зямля Айчыны,
Як кроплю крыві
і гневу.

## ЖАНЧЫНЫ

Ехалі з песнямі. Дуся запявала. Памятаю — «Малады кулямётчык».— Дуся, чаму ты спяваеш так сумна? — пыталіся ў яе некаторыя з групы. І я запыталася.— Таму што ■ ў апошні раз спяваю на сваёй радзіме,— адказвала яна. Калі мы пад'ехалі да ваеннага праверачнага пункта, воддаль стаялі стары і бабуля. Пачуўшы гэту песню, бабуля заплакала і пытаецца: — Дачушка, куды вы едзеце? — Едзем,— толькі адказала Дуся і заспявала. Бабуля стаіць, горка плача і кажа: — І сын мой там, куды вы едзеце.

*З успамінаў Ганны Піліпаўны*
*Шалахавай, члена спецгрупы*
*В. Харужай*

Калінавым цветам,
слязою палыннай
Ваш смех перапеты
крылом галубіным,
Ваш след перавіты
забытаю песняй,
Дарогаю збітай,
зямлянкаю цеснай.
Высокія косы,
салдацкія боты,
За лугам пакосным —
гадамі суметы,
Як дым прыгажосці,
галовы сівыя,
Былой маладосцю
вы сёння жывыя.
Марусі і Тоні — імёнамі мілых
Рассыпалі промні
рамонкавым пылам.
У тонкіх дзяўчынак
азёрныя вочы,

Плыве з павуцінак
ваш голас дзявочы.
Мяшчанства палюе
на спальні, як чашы,
Мяшчанства гандлюе
памяццю вашай.
Стаіце вы, гордыя,
ў полымі рання,
За права на годнасць,
за шчасце кахання.
Ніколі не сцерці
мінулага цені,
Ішлі вы за смерцю,
нібы летуценні,
Пад чорныя кулі
паклалі пяшчоту
Жанчыны-матулі,
любві-адзіноты,
Ты — рана-атрута,
ты — песня-каліна,
Стаіш, як пакута,
між намі,
жанчына,
Між часам і смерцю —
як тоненькі колас,
Зязюляй у сэрцы —
далёкі твой голас.
Стаіш з непакрытай,
як дзень,
галавою,
І лёс твой забыты
сям'ёй франтавою.
Пад сонцам і градам
згубілася сцежка.
Агнём кананады
на вуснах усмешка.

Хай сыпле шыпшына
пялёсткі на грудзі,
І памяць жанчыны
хай вечнаю будзе,
Травою паўстане
над зорнай магілай
За боль і каханне
нязмеранай сілы,
За слёзы і росы,
за вашыя мукі,
За русыя косы
і белыя рукі,
Хай вашая радасць
ніколі не стыне
У чырвані ягад
на горкай каліне.

## ПРЫПЯЦЬ

У жніўні 1941 года Вера Харужая пераплыла Прыпяць, калі пераходзіла лінію фронту. Яна была на сёмым месяцы цяжарнасці.

Ты нясеш
між лясамі і хатамі
За цягучыя берагі
Хмары шэрыя
з буслянятамі,
Пералівы чужой тугі.
Рэчка тонкая
за галінкамі
Заблудзілася між бяроз,
Рэчка смешная —
за дзяўчынкамі
Босай выбегла
на мароз.

Твае косы
зліліся крыніцамі,
Дзе вясновы
палошчацца дзень.
Цемнавокія хвоі
іголіцамі
Натыкаюцца
на прамень.
Калі што і было
беларускае —
Гэта твой
пазабыты напеў,
Як чаўны разыходзяцца
вузкія,
Падымаючы
хваляй гнеў,
Каб жа выпала
нарадзіцца мне
Ля тваёй неўміручай вады
І з крыніцы жывой напіцца
На далёкія,
на гады.
Ці памерці
на гэтым беразе
Пад маланкавы нож
і крыж,
Каб схілілася
белым ветразем
Над магілаю маёй
ціш.
Дай мне долю сваю
гаючую,
Дай блакітную
чысціню,
Я да сонца цягнуся
над кручаю,

Хоць пакутаю
ад агню.
Шырыню тваю
век не змераю,
Астудзі ж маю галаву!
Ўсё здаецца мне:
з таго берага
Ноччу цёмнаю
я плыву.
За ваду тваю
халадзей няма,
Думкі мрояцца ў забыцці,
Што плыву і ўслед
за надзеямі
І нясу з сабой
два жыцці.
Мае ножанькі
як закутыя,
Рукі просяцца на траву.
І плыву я ўслед
за пакутамі,
І не веру, што
даплыву.
Ты прымі мяне
рыбкай блізкаю,
Сеткай мяккаю падлаві,
Стань апошняю
мне калыскаю
Позняй радасці і любві.
Ты нясі мяне
перакатамі
На пажарышча,
дзе сяло...
Беражы маё буслянятка!
А было гэта —
як сплыло...

## ВЕРА

Для майго пакалення вайна — гісторыя. Але гібель Веры Харужай здаецца жывым уяўленнем. Пакуты яе жыцця перапляліся з мукамі смерці.

І вайна паўстала перада мной болем і гневам цэлага народа.

Разбіраючы архіўныя дакументы, [redacted] ўспаміналa расказ адной жанчыны, якая адкапала труну свайго маленькага сына, каб перанесці на новыя могілкі. Урач забараніў ёй адкрываць труну, але яна адкрыла і зазірнула. Адтуль вылецелі жудасныя мухі.

Цяжка перадаць, што адбылося і са мной, калі [redacted] выбірала факты, падымаючы накрыўку невядомага.

Што паслужыла прычынай правалу групы Харужай у Віцебску — ніхто не ведае. Але гэта не значыць, што прычыну нельга ўстанавіць нават пасля прайшоўшага часу.

Расказваюць, што Ганна Васільева, якая апазнала Веру на допыце ў гестапа, вярнуўшыся дадому, захварэла на сэрца і заказала паніхіду па яшчэ жывых падпольшчыцах.

Яны загінулі, верачы ў справядлівасць, уславіўшы Беларусь. Іх смерць — не толькі помнік гераізму, яна дакор нам, жывым. Яе нельга забыць, усклаўшы на магілу вянок з кветак. І калі народ стварае гісторыю, ён павінен яе ведаць.

Адслужыце па ёй паніхіду —
Галубінай душы памін,
Морам сонечнага краявіду,
Прыдарожнай журбой галін.
Адслужыце,
            лясы і дубровы,
Задуменны рачны чарот,

Паніхіду на роднай мове,
Каб прыслухаўся ўвесь народ.

Нараджэннем шчаслівага рання
Аб ёй добрыя словы жывуць,
Яна склала так шчыра, так рана
Летуценную галаву.

Над жаночай пакутлівай доляй
Чыстым імем, як струнны гук,
Плачуць гнуткія вербы ў полі
На ўспамін яе радасных рук.

Вобраз твой паміж сонцам і пылам
Не развеяўся ў лёгкі прах,
Над тваёй невядомай магілай
Кружыць ліецце апошні шлях.

Адбялёным вясковым абрусам
Сыпле снегам узімку сасна,
Ў валасах тваіх попельна-русых
Маладая смяецца вясна.

На зямлі тыя ж дрэвы, парогі,
Тое ж неба, што помніла ты,
І вяртаюцца людзі з дарогі,
Пераходзячы мост дабраты.

Затухаюць блакітныя ночы,
Зачынаецца дзень пачуцця,
І глядзяць твае сумныя вочы
На праявы законаў жыцця.

Ты любіла жыцця аднаўленне,
Хоць палілі цябе перуны.
Нараджаецца зноў пакаленне,
Што не помніць ніводнай вайны.

Аддала яму з сэрцам і болем
Ты апошнюю кроплю крыві,
Перажытую славу і волю,
Дарагія пачуцці любві.

Аддала
за святое імкненне,
Не задумаўшыся
пра вякі.
Белы голуб ляціць летуценны
Прывітаннем тваёй рукі.

За гісторыяй — памяццю страты
Твайго сэрца мне чуецца стук.
На марозе стаіш распятай,
Размахнуўшы крыламі рук.

У вачах — ні тугі,
ні пакуты,
Стыне сіверам шэрая даль.
І гады вырастаюць
з мінуты,
Успамінам даверыўшы жаль.

## ВЕТРАЗЬ НА ЛУЗЕ

— Вы еще стары,
А мы уже юными стали,
Хоть мы узнали
Самую старую боль.

*Навела Мацвеева*

Ветразь на лузе,
мой ветразь!
Белай вясны берагі,
Б'ешся галінкаю ветру,
Радасцю дзён дарагіх.

Веючы горкай парфумай,
Стань на квяцісты мурог,
Прыйдуць
зацішныя думы
Сумам шчаслівых дарог.

Што ж, калі раптам заплачу,—
Я не шкадую вясны.
Ветразь мой,
ветразь удачы,
Лёгкі, як голуб лясны.

Стань пад высокія струны,
Як пад былыя гады,
Вобраз гарэзлівы, юны,
Што не баяўся нуды.

Як ты імчаўся за песняй
Тоненькім промнем святла!
Казкай прыгожай і веснай
Лодка на лузе плыла.

Лодку блакітную, новую
Секлі агнём тапары,
І адгукаліся словы
Рэхам у цёмным бары.

Нібы падстрэлены куляй,
Ветразь упаў на мурог,
Крыкнула ўдовай зязюляй:
— Я не ўбачу яго!

Я не ўбачу ніколі,
Як без яго пражыву?
Цешыла жытняе поле
Сонцам маю галаву.

Як запытаць у імгнення:
— Дзе ты, мой добры друг?
Ветразь маіх летуценняў
Больш не вярнуўся на луг.

Так я чакаю і веру,
Моўчкі жыву між людзей.
Б'ецца аб сонечны бераг
*1967* Ветразь маіх надзей.

* * *

«Жыві з надзеяй!»—
казку лепей скласці,
Калі ў запасе вечнасці няма,
А толькі дні, няўлоўныя, як шчасце,
І двое крыл, як белая зіма.

Плыві ў разводдзе радасці вясновай
Мой карабель — высокая карма.
У цішыні запозненае слова
І двое крыл, як белая зіма.

За небакраем далеч халадзее,
Прыстанак доўгі выберу сама.
Перажывуць мяне мая надзея
І двое крыл, як белая зіма.

Любоў мая! Я свет табе пакіну
Неўтаймаванай воляю дарма.
Хай нада мной застынуць слёзы сына
*1973* І двое крыл, як белая зіма.

* * *

На Новы год, у сон гарачы
Зачэрпну талае вады
І плечы апускаю з плачам,
Тваё шукаючы сляды.
Над ціхім полем, над узгоркам,

Над снамі белымі ялін
Пачуй мой голас сумам горкі,
Паданнем лесу і былін.
У час спаткання пераняты
Я выйду зноў у халады
І паўтару, як горыч страты,
Былое слова: назаўжды.
І міг застыне ад пагрозы,
І сэрца сцісне ад бяды...
Пачуў мой голас у марозы,
1973 Перабіраючы гады.

* * *

Хутка і мы пастарэем.
Што ж пасля нас застанецца?
Ў холадзе снежнай завеі
Сонечным промнем — дзеці.
Крыкні, маленства птушка,
Стракаты трымаю мячык.
Лапоча аб нечым дачушка,
Хлопчык па хаце скача.
І па чыіх запаветах
Часта гадзінай самотнай
Я ўспамінаю дагэтуль
Твар маёй маці пяшчотны.
Што адпакутуеш, сэрца,
Можна забыць і сцерці.
Хай застануцца дзеці
Пасля нашай смерці.
Дзеткі, мае галубочкі,
Гора маё і надзея!
Дождж вас гадуй, як грыбочкі,
1969 Свет — не спалі сухавеем.

* * *

Па вясне, як у сне —
нечаканага многа,
Толькі ў радасці дзён
мімаволі тужу:
Цераз сэрца маё
ты прайшоў, як дарога,
І размыты твой шлях
каляінай дажджу.

*1969*

* * *

Неспадзяваныя турботы
І пераблытаныя сны,
Калі штодзённая работа
У стылым водгуку вясны,

Ляжаць за памяці парогам
Мае расквечаныя дні,
Вясёлым грукатам дарога
Бяжыць насустрач цішыні.

Усё адкрыецца нанова
Па новым рэчышчы ракой,
Як неразлічаныя словы,
На дальнім беразе спакой.

І дум прыемная самота
Над веснавою галавой,
Як боль, як першая пяшчота,
Прыходзіць мілы вобраз твой.

*1969*

## ЛЯСНАЯ ДАРОГА

Дзе ж тое сховішча? —
                    А мроіцца многа:
Дымнае вогнішча. Лясная дарога.
Як пераплецены карані сасновыя!
Бабіна лецейка —
                    доля вясновая.
Дзень разбяжыцца
                    гарэзлівым школьнікам
Па стромкіх ігліцах
                    зялёнага хвойніка,
І на дарозе сонца пакоціцца
Пад корань бярозе,
                    па вербныя коцікі.
Цягне зямля
                    яшчэ золкам і холадам,
Агонь да галля
                    падбіраецца з голаду,
На роздум — трывога ад горкага дыму,
Лясная дарога!
                    Вясна і радзіма.

*1969*

* * *

Па латаку
                    на сум бярозе
Цурчыць, як з раны, сок салодкі.
Ты прыгубі яго ў знямозе,
Маёй любві
                    адзнач угодкі.
Бяроза плача на туманы,
Жыцця шкадуючы вытокі,

А сок бяжыць з глыбокай раны —
Гладыш напоўніўся высокі.
Перажыві
на страту хутка
Ты,
дрэва гордай прыгажосці,
Я з тонкіх рук тваіх бялюткіх
П'ю сілу новай маладосці.
У шчасце, можа, я паверу,
Твае прыняўшы з болем слёзы.
Мой любы востраю сякерай
1969 Падсек мяне, а не бярозу.

## ЛЕСВІЦА СЛАВЫ

Як ля вакзала Беларускага
Чаргу мне выстаяць журбой?
Імчыць таксі
палоскай вузкаю,
А дзень нагадвае прыбой.

Хвіліну помню непаўторную:
Між геніяў і блудных пар —
Як вокліч,
вочы непакорныя,
Твой раўнадушна сцяты твар.

Я пад святлом і ззяннем месяца
Жыла без нерваў і гадзін.
А ты ішоў бліскучай лесвіцай
Шырока,
высака —
адзін.

Пасуньце столікі іграпьныя,
Літаратуры звузьце круг.
На стрэчы гэтай развітальнае
Кайсын Куліеў —
лепшы друг.

Ён мне расказвае гісторыі,
Якія ведаю даўно,
А я сачу за траекторыяй,
І на губах маіх віно.

Зашмат гадоў пераіначана!
І думку горкую лаўлю:
Я так даўно цябе не бачыла,
Што забывала, як люблю.

Ты, галаву схіліўшы гордую,
Вітаеш стрымана здалёк.
І разрываецца міжгорадам
Жыццём аглушаны званок.

*1973*

* * *

Мінулае —
непераемна.
І, мабыць,
пасля трыццаці
Я напішу паэму
Аб нашым з табой жыцці.
Адкінуўшы путы граматык,
Спрагаючы слова «з табой»,
Як алавяны салдацік,
Кінуся першая ў бой.

Не смерць
прынясе пакаранне.
Жыццё я аддам недарма.
Навек
у радках скрыжаванне:
Тваё і маё імя.
Пройдуць дажджы і марозы,
І мы застанёмся адны.
Дэталі сумеснае прозы —
1973 Вядомай любві і вайны.

* * *

У непаўторнасці світання
Дзень затрымаўся малады —
Глыток вясны і боль дыхання
У рытме гарадской хады.
Якая, мабыць, асалода
Забыцца некалькі хвілін
Пад шум лясное прахалоды
І цень аголеных галін,
З яловых шышак і бяросты
Касцёр на тоненькім агні.
І слова адшукаць не проста,
Каб не парушыць чысціні.
Сказаць: «кахаю» быццам позна,
А прамаўчаць — як бы лягчэй.
Міне ў чаканні дзень трывожны,
А сум не горнецца з вачэй.
І толькі боль нясе прадвесне.
Калі ўжо скончыцца яно!
Нібы забыла словы песні,
1973 Якія ведала даўно...

* * *

За прагай перамены
Сачу бяскрыўдны лёс.
Нястрыманай антэнай
Цягнуся да нябёс.

Нягнуткая пад градам,
Нязгасная ў агні.
На кончыку зарада
Маланкавыя дні.

І так стаю, трываю,
Заняўшы зрок і слых.
Ляціць мая прамая
*1973* У вечнасці, як міг.

* * *

Турботы скінуўшы радзіны,
Я, праца, б'ю табе чалом,
Папрацаваўшы хоць гадзіну
За гэтым нізенькім сталом.

Мой верш — мой час, мая трывога,
І перад імі я ў даўгу.
Бывае, што гадзіны многа,
Знайсці гадзіну не магу.

У нашай існасці надзённай,
Як стомай сцішаны хадок,
Гартаючы жыццёвы дзённік,
Змяняла б тыдзень на радок.

Гадзіну я прашу нягорда
Ў світальна-шчодрай цішыні,
Калі ў тумане гасіць горад
Будзённа-шэрыя агні.

Калі здалёку нечакана
Паклічуць водарам лясы,
Я чую галасы каханых,
Сяброў забытых галасы.

Я чую іх прысуд суровы
За дзень, пражыты без патрэб.
І кожны верш мой, нават слова —
Мой час, мой дзень, мой боль і хлеб.

*1973*

* * *

А гэтых год магло не стацца —
Скупы любві быў правіянт.
Ішла з вясны, было мне дваццаць.
А ты — з вайны, мой лейтэнант.

Калі забыў, не дакараю,
Прыдумала ўсё, акрамя,
Што дзесяць год я паўтараю
Адзінае тваё імя.

І, звыкшыся з няроўнай доляй,
Бягу насустрач, напрасткі.
Сціскае сон забытым болем
Тваёй параненай рукі.

*1973*

* * *

Не, я ўспаміны не слаўлю,
Былога заблытаўшы ніць.
А сэрца маё, як жураўлік
У восеньскім небе крычыць.

Ці помніў мяне, ці ведаў?
Таропкай ідзеш хадой.
І ўсё ж за табою следам —
*1973* Крыўдай, трывогай, бядой.

* * *

Туманам ранішняга плёса,
Смугой і золатам грады
Вітаюць сны трывожным лёсам
Загадкавыя гарады.

За міг кароткага паўстанка
У сінім марыве, зімой,
Душой вясковай, гараджанка,
Я прадчуваю горад мой.

Ягоны рытм рабочай змены,
І лістапад, і крыгалом.
Палёт касмічнае антэны
Над ціхім голуба крылом,

Лістоты пошум і завею,
Агнёў нязгасную спіраль
І, як бясконцую надзею,
Асфальтавую магістраль.

5. Зак. 673

Дзе тапалёк высокі, тонкі
Глядзіць у далячынь шашы,
Імчыць загружана трохтонка
На страх шафёрскае душы.

Як транспарант нябачны мая,
Адкрыты ветру і смузе,
Руку насустрач падымаю —
1973 Вось спыніцца і падвязе...

* * *

Гады бягуць у халады
На сум чаромхавай завеі,
Не прадчуваючы бяды,
Не пакідаючы надзеі.

А я стаю на бальшаку,
На скрыжаванні між гадамі,
Былінкай тонкай на вяку
1969 І вечнасць кратаю рукамі.

## МАЯ МАЛЕНЬКАЯ ПЛАНЕТА

*З нізкі вершаў пра сына*

### I

Лес абудзіў ласіны рык,
Зазімкі адгулялі рана.
А я, як вечны мацярык,
Што просіць хваль у акіяна.

І колькі год трымаю крык
У сэрцы на сустрэчу гэту,
Ты — акіян,
                    я — мацярык,
Мой сын —
                    маленькая планета.

## II

Над брудам подласці і смецця
Не падніму збалела скронь,
Адно, што чыстым застанецца,—
Твая ма́ленькая далонь.

Я свет нанова адкрываю
У сонцы, у вачах людзей,
Але з адчаем прыціскаю
Далоні сына да грудзей.

## III

Свядомасць мовы бясконца
Будзіла людзей спакваля.
Ў бязмернасці слова
                              «сонца»,
Ў адвечнасці слова
                              «зямля».

Ад бессмяротнасці самай
Мог нарадзіцца твой гук,
Пяшчотнае слова
                              «мама» —
З сонца,
              зямлі
                    і мук.

## IV

За вокнамі плача адліга,
І я не засну давідна.
Сямейнае шчасце — што крыга,
Якую пагнала вясна.

Сын вырашыў сваркі і спрэчкі
Яшчэ як не ўмеў гаварыць.
Цяпельца, як бакен над рэчкай,
Аб нашым каханні гарыць.

## V

Нацяты векам, як струной,—
Скарочаны мой дзень з гадзін.
На развітанне — за труной —
Я папрашу: ідзі адзін.

Сынок! Нясмертны песні гук,
Ці зразумееш ты яе?
Размераны рыдлёўкі стук,
А далакоп... усё пяе.

## VI

Ці каленку пакалечыў,
Ці згубіў свой мяч —
Плач, мой мілы чалавечак,
Я пачую — плач.

У мяне адна, мой сынку,
Радасць між нястач:
Асушыць тваю слязінку,
Твой суцешыць плач.

VII

Ваўчыцай пераскочу поле —
Усе спазнаюць, хто не звык,
Спалох і помсту без патолі
За твой адзін слабенькі крык.

Я мёртвай выпаўзу з магілы,
Падстаўлю грудзі пад кап'ё
За пальчык, невыказна мілы,
За цельца чыстае тваё.

Ты мой — як цуд і свет маленства,
Пакуль мне сэрцам гаварыць,
Да плачу, болю і шаленства
Любоў адвечная гарыць.

Калі б не ты — і памяць сумнай
Любое радасці была.
У днях аднолькавых і тлумных —
Кругаварот твайго цяпла.

Калі б не ты — кахання мала
Без матчынага пачуцця.
Я б сэрца пад тапор паклала
За першы дзень твайго быцця.

За першы крок, такі няпэўны,
Суцішыла б я рух зямлі
І сонца прыпыніла б гнеўна,
Каб промні сон твой не пяклі.

І ўсё, што ў будучым спазнаю,
Я назаву павечна: «сын».
Памру — а след твой адшукаю
Слязінкай ранішняй расы.

VIII

## КАЛЫХАНКА

Нібы верасень да мая
Прытулілася, пяю,
У бяссонніцы трымаю
Ручку-ручаньку тваю.

Цэлы свет і адзінота
Ад змяркання давідна,
Незвычайнаю пяшчотай
Трызню ў памяці адна.

Я схіляюся так нізка,
Быццам ластаўка на ток,
Над маленькаю калыскай,
Дзе гарласты мой раток.

Заманіла сон дзіцяці
Ноч у схованкі свае.
Я люляю дзень у хаце —
Ноч на крок не адстае.

Калышу, забыўшы стому,
У палоне млелых рук.
Песні гэтае знаёмай
Даўні-даўні помню гук.

Адкувалі ўсе зязюлі
На зары ды па расе,
На жніво мяне матуля
Ціхай раніцай нясе.

Краскі вянуць у прыполе,
Хмарка сходзіць бальшаком.
Пахне сонцам горка поле,
Пахне жыта малаком.

Без канца і без пачатку
Песня — птушкай у руцэ.
Спі, сынок, маё дзіцятка.
*1972—1973* ...Чэзне човен на рацэ...

* * *

Надзеі жыцця і змагання
Згубіліся ў плыні гадоў,
А словы любві і прызнання,
Як лісце, апалі на дол.

І я пасміхаюся зноўку,
На сэрцы адчуўшы спакой,
І русую лашчу галоўку
*1972* На сон летуценны рукой.

* * *

Вось, мой сынок, твой новы тата.
Ён будзе шкадаваць цябе...
Нібы няўмольная расплата —
Маршчынка першая на лбе.

І хмура позірк засцярожыў...
Я ручкі тонкія лаўлю,—
О, мой адзіны спадарожнік!
*1977* Нікога я не палюблю...

## ПЕНСІЯНЕРЫ

Пагожым днём, заўваж, на скверы —
Лагодным поўднем найчасцей —
Збіраюцца пенсіянеры,
Былыя копіі дзяцей.
Хай вуліца гудзе, як вулей,
Ад цішыні схавацца дзе?
Ім забаўкі дзіцячых гульняў
Смяюцца вечнасцю надзей.
Пагорбілі ад стомы плечы
Ці ў задуменнасці якой...
У вочы зазірні, сустрэчны,
Спагада ў позірку, спакой.
Ці разумеюць нас, ці верацъ?
А час і век не зварушыў —
Дыстанцыя зьліжае меры
Дзіцячай і старой душы.
Праходзім раўнадушным крокам,
Не прадчуваючы свой шлях,
І доўга ўслед глядзіць глыбока
*1973* Стары з унукам на руках.

* * *

Мне падары тыя пацеркі,
Што снегіры не склявалі.
Стану рабінай у мацеркі,
Выгнуўшы шыю ў каралях.

Як у разводдзе патоплены
Вёсны, што долі не склалі.
Горка змяшаліся кроплямі
Кроў мая, сонца, каралі...

Клікні гады паняверкаю —
Вернуцца, можа, паслухаюць.
Твар нахілю над люстэркам я —
*1973* Птушкамі ў вокны пастукаюць.

## З НАРОДНАГА

Як у полі
Чыстая нядзелька,
Толькі статак
Выйшаў на жалейку.
Пастух новы
Жаласна так грае.
У гародзе
Ружа прападае.
А па што ты
Прападаеш, ружа?
— Маладзіца
Пахавала мужа.
Не ў магілу,
Не ў зямлю сырую
Пахавала —
Палюбіў другую.
Была дзеўкай —
Пра каханне знала,
Маладзіцай —
Веры не давала.
Аўдавела —
Як бы ўсё згубіла,
Як не мела,
*1973* Як і не любіла...

* * *

На межах дзён і сутарэння,
Дзе запыніцца час гатоў,
Гарыць святло, як прызначэнне,
Маіх шаснаццаці гадоў.

І круг завершаны прыроды —
Узмах юнацкага вясла —
Мне не вярнуцца ў тыя годы,
Не дакрануцца да святла.

Сівее памяць, быццам колас,
З цяжарам гнецца да зямлі.
Паўторыць рэхам нечы голас,
*1973* Што мы каханымі былі...

* * *

Сябры мае паэты —
пастарэлі,
Равеснікі студэнцкіх вечароў.
Спыніліся вясёлыя арэлі,
Забыліся прыстанішчы кастроў.

Цярплівыя, з разважнасцю вясковай
Яны прыйшлі ў жыццёвую з навук,
Пяшчотныя ад матчынага слова,
Няўтольныя — ад працавітых рук.

Калі тугой, як лёсам чалавечым,
Знаёмы твар засвеціцца парой,
Стамлёны позірк спыніцца на нечым,
Як спадарожнік ціхі пад гарой.

Я знаю, ў чым ім хочацца прызнацца,
Несправядлівы зведаўшы дакор:
Жыве між нас, як спадчына, юнацтва,
1973 Як бусляня сярод касмічных зор.

* * *

Здаецца, мала так пражыта,
Каторы год на рубяжы,
І бласлаўляе ніва жыта,
Маё юнацтва на мяжы.
Не палячу за небакраем,
Як мара ў лепшую пару,
Сваю надзею не шукаю,
Высокім шчасцем не гару.
Я без адчаю адзіноты
У цішыні спазнаю гром,
Жыву з мужчынскае работы —
На здзек паперы над пяром.
Я — сціплы памагаты працы,
І не заўважаны мой крок.
І будзе лепшым заставацца
Той, ненапісаны, радок
Са слоў адзінага прызнання
Таго, каго не існуе,
Парой вясны, жальбой кахання
1974 На рукі слабыя мае.

* * *

Вясны не ўдарылі стазвоны,
Не снілі цёплыя дажджы,
А рушыў час на плытагоны,
Бярозавыя капяжы.

Звініць пад ветрам чарацінка,
Апоўдзень водарам прапах,
У кроплі — сонца залацінка,
Туманіцца далёка шлях.
Я адчыню на поўдзень дзверы,
Рукамі ловячы прамень,
Я прагна ў будучыню веру,
Прыкметы чую перамен.
Гары, прадвесня дзень высокі!
Яшчэ стагоддзі не сплылі,
Чый лёс прыб'ецца адзінокі
На грудзі горкія зямлі?
А час ва ўладзе аднаўлення
За долю шчасную маю,
І чарацінкай у здзіўленні
*1974* Пад ветрам гнуся і пяю.

* * *

З макам
маленства ляпёшка,
Ты разгані
леваруч
Высака ў свет,
басаножка,
Сонечны лёгкі абруч.
Ён і пакоціцца рэхам,
Гукам струны-сінявы,
Шчасцем дзяцей
на пацеху,
Смехам
шаўковым
травы.

Нібы
страла
у трымценні
Сэрца праб'е навылёт,—
Гэта гады
на імгненне
Свой запынілі
палёт.
Одум
будзённай
работы
І раўнадушны
спакой
Вырві
за крык адзіноты
Сціслай
маленькай
рукой.
Ты
прасачы,
як трывогу,
Шлях
ад вытокаў і круч,
Дзе
пакаціўся
ў дарогу
Сонечны
лёгкі
абруч.
Не пакідай
у зняверцы
Горкае
думкі тае:
«Ты натамілася, сэрца,
Як нам жыцця
не стае!»

*1974*

## СЭРЦА ПАЭТА

*А. Куляшову*

Ад пражытых,
ад пройдзеных дарог
Паэта сэрца
ў часе не прыстала.
Загартаваў
і воляю збярог —
Мацней жыцця,
вышэй за славу стала.
Яно было
пяшчотней за траву,
Адкрытае
пакутам
і сусвету.
Схілі ў пашане
ціха галаву,
Таму што сэрца —
гэта чэсць паэта.
Не нам судзіць
ні слёз яго,
ні мук,
Яго любві
ў бязмежнасці гарэцца.
Той шчодры будзе
ў вечнасці,
каму
Аддаў цяпло
палаючага сэрца.
Не шкадаваў, а вынесла гады,
Спяшаўся, замаруджаны хадою,
І з-за Дубровы, белае грады,
Ляціць за марай
сэрца маладое.

І дзень, як бой,
і сэрца —
як салдат,
Што сцяг прымацаваў
на барыкады,
Пад смерцю
несціхаючых гармат
Адзіны,
несмяротны
сцяг брыгады.

*1974*

## СІНЯЯ БУХТА

*Паэма*
*дайняга кахання*

### I

Ля Сіняй бухты хваляй чулай
Туман да берага паўзе.
О, блаславёны мой прытулак
На чыстым ветры і смузе!

Высокія ў спакоі горы
Стаяць у велічы пашы,
І векавым прыбоем мора
Мне адгукаецца ў душы.

На волю дзён і сутарэння
Адчую блізкасць небыцця,
Мой лёгкі крок, зямлі вярчэнне
І неадоленасць жыцця.

Пражытыя з цяжарам годы
Далёкія, як горны пік,

Мне гэты час — як міг свабоды,
Як адзінокі чайкі крык.

За краем шчасця і трывогі —
Абмыты хвалямі парог,
Мне маладзік схіліўся строгі
У яве пройдзеных дарог.

За боль затоены прызнання
Святлом юнацкае пары
Ізноў паклікала каханне —
Як песня мора на зары.

Быў свет адпушчаны, як мера,
Незразумелая табой,
Як залаты ў палёце бераг
На стылы восеньскі прыбой.

Не перакрэсліў час, на гора,
Зямную сутнасць пачуцця,
І адраджэння просіць мора,
І просіць мора забыцця.

Прыйдзі ў засмучаныя далі
Такім, як сам сабе відзён,—
Прыветнасцю адданай хвалі,
Пяшчотаю апошніх дзён.

Прыйдзі радком забытай прозы
У пераблытаныя сны,
У свет рэальны і цвярозы
Расчараванняў і вясны.

На одум слоў і успамінаў,
Як дотык вернасці былой,
За непазбежнасцю адзінай
Сустрэчы гэтаю парой.

Цераз выгары і пагоркі
Мой след лунае на пяску,
Я абмываю пылам зоркі
Тваю надзею на вяку.

Я пакланюся доле нізка
У непрытоенай жальбе,
Мая дарога — нібы рыска
Глыбокай памяці на лбе.

А чайкі волю адкрычалі,
Агонь бязлітасна ачах...
Прымі парыў майго адчаю,
Прымі давер мой у вачах.

Праменныя звязаўшы ніці,
Блакітна-зорна на плячы,
Далёкае ў бяздумным быце
Гарыць святло маёй начы.

Прыходзіць серабрыстым ценем
Світанне кволай сінявы.
І толькі покруж летуценняў
Ды непрытульнасць галавы...

Святлісты поўдзень мой увосень!
Як павуцінне, валасы...
Ты быў?.. Мне гэта падалося,—
Ты зваў — прапалі галасы.

Малюся я твайму спакою —
Ураўнаважанай рацэ.
Калі замружанай шчакою
Смуткую па тваёй руцэ.

Ля Сіняй бухты, на выгнанні,
Я тонкім ветразем стаю.

— А ці было яно, каханне? —
Пытаю чаіцу маю.

Ад блізкай буры пад вятрыскам
У полі гнецца каласок...
Мой сын маленькі у калысцы
Рассыпаў плачам галасок.

Як нескончоныя турботы,
Сціскае горлам успамін,
Я б'юся ў сцены адзіноты
Бяссільным гневам ручаін.

Зрываюся бяскрыла з кручы,
Па вастрыні іду ляза
У днях няпрошана балючых,
Як мацярынская сляза.

А ты — за даллю міжпланетнай —
Куточак казачны зямлі,
Дзе маладосці запаветнай
Мяне страчалі караблі.

Сюды штогод і недарэчы
Вяртаю лёс маіх дарог,
Дзе мора прагне да сустрэчы,
А зоры плешчуцца ля ног.

Дзе ў голас страсны непагоды
Сівее штормамі зіма,
Дзе з дасканаласці прыроды
І я змянілася сама.

Любві няздзейснены прыстанак!
Ад сініх гор — хмурынак бель...
Імгліцца хваль тваіх світанак,
Мой лепшы сон, мой Кактэбель!

II

Збіраюць сонечнаігліцы
У лесе сумныя дажджы.
Спалілі лета бліскавіцы
У жытнім полі на мяжы.

І час бруіцца прахалодай,
Як спеў крынічны пад гарой,
І грудзі дыхаюць свабодай
Перад халоднаю зарой.

Мой дом, як вечар бесклапотны,
Стаіць на восеньскіх вятрах,
І вокны, мроячы дрыготна,
Даносяць палыновы пах.

Імжыць заплакана з адлігі,
Зазімкі грукаюць прысуд...
Маўклівыя, чакаюць кнігі
У рэчах адмаўлення цуд.

Збярог мой стол паперы вартасць,
Як суцяшэнне навізны,
І прагі гордую упартасць
Праз попел дзён і сівізны.

Пакояў гулкіх запусценне
Яшчэ згадае даўні сум,
І незакончанасць імкнення,
І незавершанасць задум.

Вось тут праходзіла трывала
Жыцця прывычная з арбіт,
Калі няўпэўненасць трымала
Бязгрошавы бязладны быт.

І без адчаю прымірэння
Ў заканамернасці нягод
Сцвярджалася пераўтварэнне
Надзей шчаслівых юных год.

Адбіўся крок дарожным пылам
Пад буру шчодрых навальніц.
І чыйсьці твар, дзіцяча мілы,
Глядзіцца ў светласці грамніц.

Як лёгкасць чыстай аблачыны
Мне голас ранішні прынёс,
Хай усміхнуся без прычыны
У марнасці бяскрыўдных слёз...

Мне рух мінулага знаёмы,
Я струны слухаю хвілін,
А сонца блытаецца ў стромах
Высакавольтных вершалін.

Нашто чакаць перасцярогі,—
Цямнее болем уваччу,
Несправядлівасць дапамогі
За абыякавым адчуць.

Я свет прайшла замкнутым колам,
Змяшаўся час з крывёю вен,
Журыўся дом у снах вясёлых
На роспач новых перамен.

Я сніла любага употай,
Як мора — дзікую сасну,
За днямі катаржнай работы
Ў другую верыла вясну.

Пагорбіўшы ад стомы плечы,
Нягоды вынесла лягчэй,

Як захавалі нават рэчы
Бяссонніцу маіх начэй.

Крыламі струджана і мулка
Світанне білася аб столь,
Са скроні жылка, як рачулка,
Пульсуючы, цякла на стол.

Быў зорны мой дыван квяцісты,
І нескончоным — неба мук,
У ззянні месяца празрыста
Свяціліся галінкі рук.

І, можа, той щчаслівай воляй
Блукае памяць старaной,
Я нахіляюся над доляй,
А месяц чысты — нада мной.

Набыўся год маіх вандровак,
Вачэй заўважны халадок,
І друг нязменны мой — аловак,
Суддзя адзіны — мой радок.

Нам разам быць да самай смерці
У сонцы, ў мроку дажджавым,
Адной дарогай — цераз сэрцы
Ў жаданні радасці жывым.

Хай трудны шлях былых ваганняў
Наканаваны без пары,
Каб жыць нанова мець жаданне —
Я лёс хацела б паўтарыць.

Падзей уяўную нязначнасць
Не павялічыць у працяг.
Я зберагла душой удзячнасць
Да перажытага з жыцця.

За мары і расчараванні,
За ўсё, што здолела забыць,
За нерастрачанасць кахання,
Якое выпала згубіць.

Ці не таму выходжу ў восень,
Нібы шукаючы прыкмет.
Нас толькі двое засталося
На ўвесь вялікі гэты свет.

Нас толькі двое, як калісьці,
І голас мой на схіле дня
Журботай падае на лісце,
Маўклівае, як цішыня.

III

З дарог пялёсткавых ад Крыма
Спяшаюся ў былой журбе...
Не ўсе шляхі вядуць да Рыма,
Мае ж — імкнуцца да цябе.

Сустрэчы нашы, як паўстанкі...
І забываюцца гады,
Як тыя сцішаныя ўранку,
Чужыя доляй, гарады.

А ты, нязвыклы, як паэма,
Бязмоўны, нібы ліст травы,
Разгублены, як свет багемы,
Ў адчаі буйнай галавы.

Пяшчотай вобраз твой размыты,
Як вуліцы начной абрыс.
Стаіш за межамі арбіты
Над часам — горкі кіпарыс.

Пякучы воч тваіх абдымак
Яшчэ не выпіты да дна
У берагах вясны і дыму,
У горы добрага віна.

Тваё імя шапчу нанова
І паўтараю шчэбет дня,
Калі злавіла, нібы слова,
За грыву белага каня.

Далоні зорнае сячэнне
І абяцанняў дзікі сад...
Малю за новае імгненне,
За развітальны твой пагляд.

Скажы «люблю» на мове мукі,
На мове неба і зямлі,
Палётам расхінуўшы рукі
Самотныя, як жураўлі.

Я затрымаюся над светам
І, абагнаўшы ветралом,
Цябе крануся, як камета,
Адным апаленым крылом.

Як дождж вясновы з сіняй хмары,
Што сонца ў кропельцы збярог.
Я на тваім спынюся твары
Тугой і роспаччу дарог.

І не адрозніш новым раннем
Маю слязінку ад вады,
Вачэй журботнае змярканне,
Чакання даўняга сляды.

Дай праўду рукой дрыготна
Між намі часу баразну.

Ты мой — і ціхі, і грымотны,
Наканаваны ў сівізну.

У непрыкмечаным «сягоння»
Часіны той не забывай,
Дзе безназоўна стынуць гоні
І дзень ляціць за небакрай.

Яго у міжпланетным гудзе
Яшчэ туманяць верасы.
Спакой і сон табе на грудзі
Ва ўсе бязмежныя часы.

Не пераступіш двойчы долі.
І я надзеі не таю
З жаночай крыўды і паталі
На непрыкаянасць тваю.

Жыццё спасцігнуўшы старанна,
Мы знаем добра, што рабіць.
Ці не таму старэем рана,
Што развучыліся любіць?

Сябры, сям'я — усё прывычна,
Як поры года, кругаверць,
І мы хварэем метадычна
Там, дзе прызначана гарэць.

Як нашых сэрцаў існаванне
Не парушай у забыцці!
І напамінак пра каханне —
Неверагоднае ў жыцці...

І за штодзённаю работай,
Паблытаўшы сурова час,
Жывучай марай, як істотай,
Туга па ім турбуе нас.

Мінаецца праз дні і стому,
У назвах мрой і гарадоў,
Вярбой маленства,
                                родным домам,
Тваіх шаснаццаці гадоў.

І захавала толькі сэрца
Адбітак светлы юных мар.
Гадам не вытравіць, не сцерці
У памяці забыты твар.

Жыве каханне нашым ценем.
Дугой маленькага вясла
Плыві, мой ветразь, летуценны,
Забытым дотыкам цяпла.

Павырасталі нашы дзеці,
І не здзіўляе сівізна,
А маладосць мая па свеце
Блукае досвіткам адна.

Пабіў грымотамі ў маланках
Мяне мой невыказны лёс.
Пяю над сынам калыханку
Вачмі нявыплаканых слёз.

Я ўсё табой жыву і помню,
Не ўсведамляючы мяжы,
Іду, спяшаюся па промню,
Як па наточаным нажы.

**IV**

У дні вясёлыя паводак
Я славу буднямі пяю,
Між каміноў і пяцігодак
Травінкай слабаю стаю.

Я сонца кратаю рукамі,
Як цёплы дзікі вінаград,
І мой балкон, як белы камень
У дзіўным слове «Београд».

І галасамі ніцых вербаў
Я па радзіме боль глушу,
І разумеюць сумна сербы
Маю славянскую душу.

Другое сонца на чужыне!
І вянуць пылам валасы.
А мне б прабегчы па ажыне
У зіхатлівыя лясы.

Я падару табе нямнога,
Заўсёды шчасця не стае.
Адно жыццё, адна дарога —
Да роднай вёсачкі мае...

Журбой бяду тваю падвою,
Бяссонным полымем гарыш.
Мне б выпіць кварту сырадою
За твой надуманы Парыж.

А ты ў здзіўленні хмурыш бровы,
Неперакананы з паслоў,
Я ж карані шукаю мовы
У вечнасці славянскіх слоў.

Мне сінь замружанага вока,
Як неба роднае зямлі,
Куды высокія аблокі
Без візы ціха паплылі.

Сустрэчай мары выпадковай
Не завяршай сумнення круг.

Перакладзі на вернасць словы —
І зразумееш слова «друг».

Далінай шчодра абагрэтай
Застынуць думкі найчасцей.
І цудам рэчанька Нярэтва,
А беларускія — часцей.

Дзе донца жоўтае ў каменьчык,
Паабмялелі берагі,
Святлее месяцам струменьчык,
Павольна дыхаюць лугі.

І выбегла далёка ў поле
Чародка мілая бяроз.
Ім ногі босыя паколе
Іржэўнік злосны ці мароз.

А мне сюды вяртацца горка,
Пакінуўшы за морам даль,
Да невысокага пагорка,
Дзе пахаваны дзед-каваль.

Дзе з памяці вайны суровай
Нязвыклая пануе ціш,
Стаіць парэпаны, дубовы,
Нікім не фарбаваны крыж.

Перапаўняй кілішак вузкі
На шыты золатам абрус.
Мая цярплівасць беларускі
Таму, што дзед быў беларус.

Лясоў няхітрае убранства
І сум пакошаных лугоў...
Вазьмі з пачуццяў — пастаянства
Народа сціплага майго.

Прымі руку майго даверу.
Я адчуваю на губах
Маленства слодыччу аеру,
Дарожны палыновы пах.

За візантыйскай агароджай,
Збуцвелай шэрасцю драбін,
Мой голас нагадае, можа,
Лістота ціхая рабін.

Шляхі з далёкага прычала
Між лістападаў і азёр
Я на далоні прыкмячаю
Сцямнелай, як вяршыні гор.

І, можа, за табой вярнуся,
Не перайду вялікі свет,
Пакуль гарыць над Белай Руссю
Шчымлівы жураўліны след.

Як сонца выбеліць пракосы,
А восень высушыць сады,
І запляце бяроза косы
Ля схаладнелае вады.

Не апускай з дакорам плечы
У задуменную з далін.
Я запытаюся аб нечым
За шчасце некалькіх хвілін.

Пакуль што-небудзь словы значаць,
Маўчанне выказаць лягчэй.
Я ў белай квецені паплачу
Бяздоннасцю тваіх вачэй.

Яшчэ саб'е расою сцежка
Маёй радзімы горкі дым,

І дагарыць мая усмешка
Ў лістку бярозы маладым.

Калі зарою спалымнее
Блакіту шызае крыло,
Ты сам аднойчы зразумееш:
*1973—1974* Мяне ніколі не было...

## ПАДАЛІСТ

*Паэма*

### I

З дажджамі мінулася лета,
А можа, яго не было?
І толькі ў далоні сагрэтай,
Як сонечны зайчык, цяпло.

Як дворык за нізкім парканам,
Пусцее лістотаю сад.
І вокны сінеюць туманам,
Прыспешыў пару лістапад.

Так восень, прывычная рухам,
Заводзіць турбіны машын,
І сніцца за горадам грукат
У прорве бяздоннай шашы.

Сяброўку маю, журавінку,
Імклівая лечыць язда.
Ці ж вецер суцешыць галінку,
Як падае яблык з гнязда?..

І я распляту яе косы —
Сцякуць ручаём да зямлі.
Што смутак хаваеш увосень?
А мы ж легкадумна жылі...

Яшчэ залацее з усходу
Твой чысты дзявочы пакой,
Працяг невядомае оды —
Карункі пад белай рукой.

І твар задумення прачысты,
Глыбокія вочы святла.
Тваёй прыгажосці ўрачыстай
Якая хвала не ішла?

Таму не люблю твае змены,
Што восень прыносіць парой,
Як лісце, пажоўклае тленам,
Вішнёваю плача зарой.

Дамы нашы побач завулкам.
Сустрэча у думках імчыць.
Гаворка твая, як рачулка,
Па голых каменнях цурчыць.

Ты косіш гарачае вока,
Караеш рукой валасы.
А горад нас кліча далёка,
Званіцы прабілі часы.

Нас вуліца ў шуме палошча.
Планеты расплюшчаны дыск —
Парадам адкрытая плошча
І памяць вайны — абеліск.

У рытме рабочых кварталаў
Мы пешай хадой — напрасткі,

Пад бронзавы позірк Купалы,
Да ліп безразважна густых.

Паэту сялянскае долі,
Крывавага поту і слёз
Не стаць пад вятрыскам у полі
У замеці белай бяроз.

І бачны праменні далёка
У сонцы яго галавы.
Бусліны пачуецца клёкат
Паданняў адвечна жывых.

Яму ў прахалодзе крынічнай
Спачыць ад пакут і дарог,
Свой велічны лёс і трагічны
Не кожны нашчадкам збярог.

Праз царскія турмы-аховы,
Пад сумныя думы лугоў
Пранёс сваю родную мову
І песню народа свайго.

Часы, як вясновыя крыгі,
Яму не пашкодзілі зрок.
На век старажытнай Нямігі
Паэта друкуецца крок.

Шэдэўр падабенствам удалы...
А помнік і майстру з рукі.
Давай паглядзім на Купалу.
Дзяўчаты сплятаюць вянкі.

А ты, ці спазнаеш нядолі?..
І сочыш у горкай красе,
Як восень у жоўтым падоле
Чырвоныя кветкі нясе.

Туга, асцярожная птушка,
За сэрца сціскае радзей.
Табе б дзеля ўцехі дачушку,
Яе прытуліць да грудзей.

Якое б ні трапіла гора,
А ты — усміхайся часцей,
Як гэты адноўлены горад
Усмешкай здзіўляе гасцей.

Калі ў запаветных алеях
Панікнуць на холад лісты
І шэрым асфальтам ссівеюць
Дарогі жыцця і масты,

Не бойся пары адзіноты,
Цяжару адпушчаных дум,
Дадому прыйшоўшы з работы,
Прывычны адсунуўшы тлум.

Яшчэ твае лепшыя годы
Паклічуць вясной у бары.
Дыханне магутных заводаў
Абудзіць цябе на зары.

Нам жыць без надзеі не варта,
Нам некалі сёння старэць.
У празе жыццёвай упарта —
Здзіўляцца, шукаць і гарэць.

II

А горад у буднях і справах
Не ведае стомы на дні.
Запальвае вечар рухава
У вокнах блакітных агні.

Радзее чарга ў магазінах,
Мне некуды сёння спяшыць.
Не шоргаюць мяккія шыны
Па рэчышчы гулкім шашы.

Зямля не паспела астынуць,
А вільгаццю цягне з ракі,
Прыемнасцю шарай гадзіны,
Якую змяняюць вякі.

І колькі разоў паўставала
Мінулае ў водсвітах хмар,
Дружына часоў Усяслава
І дзікія твары татар.

Князь полацкі, прагнучы славы,
Пад Мінскам не чуяў бяды.
І стала Няміга крывавай,
Змываючы продкаў сляды.

Сыны Яраслава не кінуць
Пагоні яму наўздагон,
А спаляць на помсту дзядзінец,
Жанчын павядуць у палон.

І колькі шляхоў праз імшары
Касцямі прамылі дажджы.
Палілі вякі і пажары...
А горад няскораны жыў.

Кіруючы воляй і страхам,
Змясіўшы балотную гразь,
Глеб выйшаў на суд Манамаха,
Памёр у палоне той князь.

Гняла езуітаў указка,
Душыў каталіцкі раздор,

І сквапнасць Літоўскага княства,
І Богам ніспасланы мор.

І быў цягавіты, сялянскі,
Таму і цярплівы наш род.
Адкрытасцю — шчыра славянскі,
У мужнасці горды народ.

Ад рэк нашы сінія вочы,
Ад ніў залатых — валасы,
Стан-чарацінка — дзявочы,
А слёзы — ад чыстай расы.

Таму ў прыгажосці, мінчанка,
Нагадваеш ты мне часцей
Палонную песню славянкі,
Што ў горы раджала дзяцей.

Пад небам і сумам Балканаў
У пышным гарэме сувой,
І знак сырамятны аркана
На шыі пяшчотнай тваёй.

О, маці мая беларуска!
Твой твар, як з іконы, ярчэй,—
Сцямнелы з гадамі і вузкі,
З разрэзам глыбокіх вачэй...

Стаіш, як прарок абвяшчэння,
У долі ліхой на таку.
Ад болю ці ў згодзе хрышчэння
Паклала на грудзі руку.

Мне шлях не вярнуць перажыты,
Сцяжынка ў нябыце сплыла.
Твой голас, разгублены ў жыта,
Хусцінка ці хмарка была?

І знікла далёка над полем
Гарачая песня жніва,
Калыска з-пад нізкае столі,
Спавітая ў снах галава.

Іржэўнік галодны і стромкі
Ты жала, сагнуўшы спіну.
На плечы ўзваліўшы хатомку,
Сабой засланіла вайну.

І холад, і гора нястачы,
Пажарышча з'едлівы дым
Схлынулася ў плачы дзіцячым,
У слове спрадвечным тваім.

Змяняць бы ў галоту хаціну
На месяца жоўты мядзяк,
Ў навуку праводзіла сына,
Апошні сабраўшы праснак.

Малодшы, ён выжыве, можа.
Забрала вайна ажно тры...
Стаяла ўначы раздарожжа
На золі, на голым вятры.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быў хутка адроджаны горад.
Яго збудавалі сыны.
Як птушку, пусцілі ў прастору,
Былі маладыя яны.

А мы чым за працу аддзячым,
Равеснікі слаўных падзей,
За памяць ахвярную маці,
За мір каласоў і надзей?

Нібыта па карце гісторый,
Па вуліцы светлай іду.
Мой горад, як новы лекторый,
Гаворку з эпохай вяду.

Мне бачна — над часам трывожным
Як зоркі гарыць вастрыё,
І б'ецца у днях пераможных
Шчаслівае сэрца маё.

III

Куток дарагі мне маленькі,
Дзе сцішаны фарбы ў спакой,
Дзе сын мой апоўзаў каленкі,
У свет пранікае рукой.

Ён вывучыў крок асцярожна
Між рэчаў цяжкіх і задач,
Гучыць адкрыццём пераможным
Прызыў самастойнасці — плач.

Ён словы спрабуе, як гуслі,
На новы патрапіўшы гук,
Ён вырас, а я ўсё баюся,
Калі адлучаю ад рук.

Як вецер у вокны казыча
І месяц засніць на сцяне,
Мой слых launpatомлены кліча
Дыханне дзіцяці ва сне.

Ў палоне няяснай трывогі,
Калі нахілюся над ім,
Жаданне любой дапамогі
Прыспешана рухам адным.

І, коўдру паправіўшы, зноўку,
Сабраўшы ўсе цацкі у кут,
Я трызню над русай галоўкай
Бяссонніцай дум і пакут.

Яшчэ ён са мной. Забываю
Сусвет як пагрозу бяды.
А нітачка квола трывае,
Каб нас раз'яднаць назаўжды.

Яшчэ так даверліва ў вочы
Глядзіцца з пытаннем на дні,
І сэрца паранена хоча
Забыцца ў вірах глыбіні.

Ні словам, ні рухам, ні зрокам
Не выказаць болю тугой,
Народзіцца песня далёка,
Як будучыня яго.

А мне так адмерана многа
За будучыню маю.
Былінка адна і дарога.
Ля каменя ў полі стаю.

Працяг маіх думак і волі,
Майго існавання працяг.
І мне не змірыцца ніколі
З няўмольнасцю пачуцця,

Што ён перад светам няроўным —
Адзіны закон у суддзі.
Пад сонцам і небам цудоўным
У светлае пойдзе адзін.

На дальні замроены бераг,
Дзе вербы скарыліся ніц.

Ён будзе смяяцца і верыць,
Пакутаваць і любіць.

Ці стане дарослым ён рана,
Ці сябра паспее забыць?..
Сумненне ў грудзях, нібы рана,
У восень сырую баліць.

Сваім прадчуваннем сагрэта,
Усцешуся з думкі тае —
Хай некалі ручанька гэта
Мне вочы закрые мае.

І я не шкадую бяссмерця
Між кушчаў і райскіх лугоў.
Крывінка мая ў яго сэрцы,
Каханне — ва ўсмешцы яго.

І дзіўная казка маленства
Глядзіцца з намечаных рыс.
Мой твар ці яго падабенства?
Ці іншага часу абрыс?

Я веру ў жыцця несканчонасць,
У шчасце паверу лягчэй.
Маланка разбіла будзённасць
Блакітам дзіцячых вачэй.

І што пражыла і схадзіла —
Хай вянуць у днях верасы.
Пад ветрам расправіла крылы
Буслінае воблака — сын.

У марах і песнях лунацца,
У горы тужыць саладзей,
А я прыцiскаю багацце
Адзінае — для надзей.

Глядзі — днююць зоры ў блакіце,
Асфальт прабівае трава,
Імчыць карабель па арбіце,
Якую у снах адкрываў.

Сусвет — ад расінкі да мора,
Ад елачкі ў ціхім бары
Да трасы ў касмічнай прасторы —
Тваё, мой маленькі, бяры.

Натхненне і даўнюю шчодрасць
На горкіх дарогах заві,
Сыду я ў зямлі першароднасць,
Мой колас перажыві.

Развучыш у памяці скора
Мелодыі песенны марш,
Збудуеш ты казачны горад,
Яшчэ прыгажэйшы за наш.

На шлях твой у далечы яснай
Мой дзень развітанне сказаў.
Як зорка бязвесная згасне,
У дол спапяліцца сляза.

## IV

Павёў лістапад купалінку,
Замоўклі ў лясах ручаі,
Пакінулі нашу хацінку
Зязюлі і салаўі.

Зара пачынаецца позна,
Раса апячэ, як змяя.
Курлыча над стылаю пожняй
Асенняя песня мая.

Што лепей за гэту часіну! —
Спакой вечаровай пары,
Чырвоная вільгаць каліны,
На ўзлеску касцёр баравы.

Бабуля, былая сялянка,
Я чую твой голас крыві
На чорнай зямлі пад маланкай,
Што дуб расшчапіла крывы.

Маркотна мне ў горадзе цесным,
Я прагну палёў шырыні,
Свабоднага сонца прадвесня
І восеньскай цішыні.

Куды ў невядомае кліча
Вандровак узмылены конь
І лес, скамянелы язычнік,
Свяшчэнны, як продкаў агонь?

Пад шаты і рыжыя цені
Забытую стому схілю.
Праменнае гукаў трымценне
Калыша, як люльку, зямлю.

Пасецца туман з балаціны,
Сцяжынку заблытаў гушчар,
Нябачны узор павуціння
Здзіўленнем кладзецца на твар.

Прабіліся сосны за хмары,
Ссушыла ім рукі туга,
Нібыта рыхтуюць ахвяры
Нясмертным і мудрым багам.

Калі, страсянуўшы ігліцы,
Нікчэмны стрымаю свой крык,

Малюся ўгару на званіцы,
Прыроды ўсвядоміўшы лік.

У рабстве выгод і паркета,
Прасторы загублены рух.
Хмурынкай у бабіна лета
Лячу, абганяючы пух.

Лячу наўздагон за гадамі,
Што вечнасць не дадае,
Бруснічнікам і грыбамі
Прапахлі далоні мае.

Прымі мяне ў лона, сястрыца,
Сасонка на схіле гары,
Слязінка твая, як жывіца,
Сцякае смалой на кары.

Гадала шмат год, як вярнуся
У царства пад назваю бор,
Пад неба паўночнае ў скрусе
З халоднай пяшчотаю зор.

Ты дай мне напіцца, дажджынка,
Каб смагі не зведала горш.
Маленства маё, як дзяўчынка,
Ідзе наўздагад басанож.

Мы доўга жывём і чакаем,
Не знаючы да пары,
Што час, як вар'ят, высякае
Любімыя нашы бары.

Змяняецца ўсё, што нятленна
Трымалі пад сховай вякі.
На матчы, слупы і антэны
Згубілі лясы сваякі.

А я у нязменнае веру —
Абудзіць дзіцячыя сны,
Пустэчу халоднай кватэры
Настоены водар сасны.

Патухлага вогнішча прысак
Знайду ў запаветным бары.
Хай дрэвы сякуць на калыскі
Пявучыя тапары.

Мой край старажытны лясамі,
Яны зберaглі гарады,
Гаючымі верасамі
У сховішчах ад бяды.

І лес пасівеў, як матуля,
Над кожным жыццём маладым.
Адлічвае толькі зязюля
Няспраўджаныя гады.

І памяць адвечную бавіць
З-пад кораня студных крыніц.
Глухую сцяжынку крывавіць
У сок пераспелых брусніц.

Стаіце на мір успаміны,
Браты мае ў праўдзе надзей!
Трымайце гады, верхаліны,
Падораныя ад людзей.

Вы, строгія ў чыстым імкненні,
Жыццё ратавалі спрадвек.
І чэрпае моц аднаўлення
*1974* Ад роднай зямлі чалавек.

## НОВЫ ГОД

Мой Новы год — як ліст паперы,
Раскрыты будучаму дню,
Сатканы з памяці і веры
І чыстых водбліскаў агню.

А памяць хутка састарэе.
Растраціш веру ад нягод.
Агонь, як міг, не абагрэе —
І застанецца Новы год.

Я зноў схілюся над паперай,
Нібы гартаючы часы.
Майго жыцця салёны бераг
Пазначаць вершаў галасы.

Хай слова нашае нявечна,
Ды несмяротны мовы гук,
Жыццёвай існасці бясспрэчнай
Не аднавіць пражытых мук.

І той радок, што захавае
Маёй душы і дзён працяг,
Няўтольна ў словах паўтарае
Жывую прагу пачуцця.

Калі, удзячная без меры,
Адчую крок і часу ход,
Са мной, як белы ліст паперы,
*1977* Парог высокі — Новы год.

**ХАЎТУРЫ**

Так непазбежна
развітальныя,
Як з долу стылага
пясок,
Цяклі прамовы пахавальныя,
Павольна,
што з бярозы сок.
На ціхіх могілках,
за лесам,
Каля сырой яшчэ
труны
Хавалі людзі
паэтэсу,
Не ўсведамляючы віны,
Не разумеючы
расстання,
Спалохана
на той мяжы,
Як адышла яна,
ў світанне,
А кожны з іх
чамусьці
жыў.
І набліжаўся,
хто адразу
Ад хвалявання пасмялеў,
Каб прачытаць
прысуд адказу
На твары
маладым яе.
І міг адчаю
гэты скрушны
Усіх наблізіў
да святла —

Сяброў,
і родных,
і двурушных,
Тых,
хто жанчыне
зычыў зла,
Хто мераў з ёй
жыццё і сілы,
Хто ненавідзеў
і любіў,
Цяпер
праводзіў
да магілы...
О, чалавечнасці парыў!
Быллё
адчай прыглушыць звыкла,
Ды ўзнікне
з Дантавых кругоў
Вам сын яе,
нямы ад крыку,
Як свечка,
шыйка
тонкая яго.

*1977*

* * *

Дзесяцігоддзі
прамінулі,
Але не спіць
стары салдат,
Трывожыць дзень,
як посвіст кулі,
У скроні б'ецца,
як набат,

Калі выходзяць ветэраны
На плошчы у святочны дзень,
На вочы ўдоў і закаханых,
Шчаслівых маладых людзей.

Іх сівізна забытым жалем
Напомніць іншы далягляд,
Старыя ў золаце медалі
І строгі ў гордасці пагляд.

Што выпала ім развітацца,
Не далічыць былых сяброў,
Жывымі на зямлі застацца,
Аддаўшы сэрцы, мары, кроў.

А твары свецяцца ў праменні,
І свет яўляе новы цуд.
Схіліся нізка, пакаленне,
*1977* Іх жыцці — марнаце прысуд.

* * *

Назвы
не помню
вуліцы —
Свежае,
як лісцё.
Ліхтар
адзінока туліцца,
Светлае забыццё.
Выходзіла
так даверліва,
Засмучана
ўдалячынь

За радасцю
перамянлівай,
І раніца —
на плячы.
Хвіліны мае,
струменьчыкі,
Разбегліся
капяжы
Па вуліцы,
па каменьчыках
У верасні
і дажджы...
Што пройдзена
і нясходжана,
Па памяці
я злажу,
На вуліцу
заварожана
Употайкі
пагляджу.
Бяжыць яна
за праменнямі
Ранейшая
ўдалячынь
З трывогамі
і сумненнямі,
І раніца —
на плячы,
Дзіўлюся,
зачараваная,
Раўнуючы
весялосць,
Забытая,
закаханая,
Вяртаюся
ў маладосць.

*1977*

* * *

Я
пазнаю́
тваё сэрца
Ў кожным
лістку
трапяткім.
Што
напалам
разарвецца
Ад неабачнай
рукі.
Я
пазнаю
тваё сэрца
Ў першым
праменьчыку
дня.
Што
на блакіце
заб'ецца
Ў свеце
без краю
і дна.
Там,
дзе агню
разгарэцца,
Кропля
расы
апячэ,
Я
пазнаю
тваё сэрца,
Напаўжывое
яшчэ.

Я
пазнаю яго
горка,
Ўзяць
баючыся
з рук,
Як
невядомую
зорку
Шчасця,
надзеі,
мук.

*1977*

* * *

Мае неадасланыя пісьмы,
Ненапісаныя
паэмы!..
Развеяны
зорны прысак
Пражытага
і дарэмнага.
Як дзеці,
ненароджаныя,
У смутку
жаданыя,
Словамі
растрывожаныя,
Амытыя
туманамі...
Учынкі мае
недарэчныя,
Сустрэчы
балючыя...

У памяці
супярэчлівай
Сумленне саваё
мучаю.
Што следу
ў жыцці
не пакінулі,
Нервовыя,
раскіданыя,
У невядомае
зрынулі,
Пакрыўджаныя,
ненапісаныя.
Цяпер
шкадаванне прыхоўваю:
Мінулае,
што не крыкнула?
Замяняю
пачуцці словамі.
А пісьмы пісаць
не прывыкну.

*1977*

* * *

Сонца
ў сасновай развілцы
Рыжы
ўшчаміла
бачок.
Ручкі
раскінуў,
як крылцы.
Спі,
залаты светлячок!

Я
над табой
прасціраю,
Як засланяю
агонь,
Ад невядомага краю
Чыстую
ў леце
далонь.
Вось
ад цябе адыходжу
Смехам,
дарогай,
вадой.
Помні мяне
прыгожай,
Помні, сынок,
маладой.
Ты —
маё шчасце ў бязмежжы.
Голас,
падораны
дню.
Што мне
жыцця незалежнасць?
Знаю:
сыду ў цішыню...
Толькі
асветлены тварык,
Сіняе
неба
з краёў —
У цемры —
адзіны ліхтарык.
Беднае
сэрца маё!..

*1977*

* * *

Без назваў
дні мае і вершы.
І што запомніцца ў канцы? —
Апошні бой
ці пройгрыш першы,
Надзея
ў горасным вянцы?..

А можа, ты,
маё каханне,
З якім нядоля развяла,
Што прыняла без пакарання,
Бо слабай
у жыцці была...

Калісьці
ў ціхую гадзіну
Малюся я
за свой спакой:
— Пакінь мне, Божа,
толькі сына
Пад міласэрнаю рукой.

*1977*

* * *

А ёсць каханыя,
якім не здрадзіш,
Чый успамін выносіш, як пажар,
Як белы колер
у вясновым садзе,
Як насланнё і патаемны дар.

Не звадзіць муж,
і дзеці не прытомяць,
Мае гады,
што кропелькі крыві.
Не пакідай.
Пакінуўшы — успомні.
Хоць перад смерцю шэптам пазаві.

Вярнуся [redacted] нячутна, бездакорна,
З мінулых дзён
і вобразаў былых.
Схілюся [redacted] да ног тваіх пакорна
І прыпаду да любых рук тваіх.

Мы памыляліся абое часта.
Хто ж вымярэнне наша абарваў?
А я твая загубленая частка...
Калі любіў,
чаму ж не дараваў?..

Быў мудры той,
хто вырашыў над светам,
Што удваіх
ніколі нам не жыць,
Што немагчыма
шчасце для паэтаў —
Не падзяліць і разам не злажыць.

Вось адыду,
далёкая,
над полем
Ніжэй зямлі і запылёных траў
І паўтару
над вечнасцю і болем:
Калі любіў,
чаму ж не дараваў?..

*1977*

* * *

І навальніцы
і грамы,
Жыццёвы ўсплеск
і рып уключын...
З прыродай адчуваем мы
Ўсю непазбежнасць рэвалюцый.
Лясны заслон
маўклівых хвой,
Смуга бяроз
і голас буры —
Удалеч клічуць
за ракой,
Дзе нараджаюцца віхуры.
Азораны маланкай плёс —
Пакінуты,
пусты,
раптоўны,
Як чалавечы
час
і лёс,
Як міг паэзіі
чароўны.
А ў горадзе
плывуць дамы
І дождж
у шале нізвяржэння,
Бяжым
пад хмары і грамы
У цуд адвечны
адраджэння.

*1977*

* * *

Мрою часта
скрозь радасць, сон і адчай,
Калі прачынаюся
раніцай мглістай —
Ля дома майго
звініць ручай
Нечаканы,
чысты.
Вось акунуся
ў даўні сум
У невядомым «сёння»,
Твар нахілю
ў празрысты шум,
У ваду —
далоні.
Ад прахалоды
быццам лягчэй.
Рукі ў ваду апускаю,
Цяжар неад'емны мой
стане лягчэй,
Туга знікае.
Слухаю песню старую вады,
Верачы
плыні імклівай,
Быццам не зведала
новай бяды,
Заўсёды была
шчаслівай.
Быццам маленства майго гады
Зноў павярнуліся кругам,
Спакой і блакіт
у люстэрку вады,
Вясёлка
над росным лугам.

*1977*

* * *

Што падарыць змагу за сэрца,
За гэту любасць дабраты?
Адно жаданне —
абагрэцца,
Адтаць з халоднай нематы.

Майго спакою не парушыш.
Я выйду на тваё святло.
Завея студзеня цярушыць,
Хай замятае,
што было.

Цябе праводжу і страчаю,
Падумаю,
што назаўжды.
І крыкнуць
птушкамі адчаю
1977 Мае шчаслівыя гады...

* * *

Я глыбы дзён крышу,
што крыгі,
Не заўважаючы крыві.
Як цяжка
пішацца мне
кніга
Сумненняў
страчанай любві.
З надзеяй
сэрцам абнаўляю,

Што забываць пара
даўно,
Апошні боль свой
бласлаўляю,
Адстоены,
нібы віно.
Прыгу́блю,
як расчараванне,
Салодкі ў часе
успамін
І слова позняе кахання,
Акрэсленае між галін.
Я вобраз мілы
забываю
Ці намагаюся забыць,
Стаю над прорваю,
над краем,
Дзе немагчыма ўжо любіць.
Дзе наслаіліся
штодзённа
Сям'я
і горкі дабрабыт,
І праімчаў
мой конь шалёны,
І пасівеў
тугой
блакіт.
Даруй за ўсё,
за боль
і холад,
За квецень,
што рассыпаў май.
Трымай каня
за срэбны повад,
Не азірнуўшыся.
Бывай!..

*1977*

* * *

Усё, што мы маем, карысна,
Толькі б чаго не згубіць.
Гора
        і роспачы прысмак —
Цяжка такое забыць.

А немата адзіноты,
Здрада няверных сяброў...
Толькі б хапіла ахвоты —
Сцены паставіш з муроў.

Так, як будуецца крэпасць,
Так, як гартуецца сплаў,
Нас вывяралі на крэпасць,
Хто пераможца — паўстаў.

І забываюцца годы,
Хтосьці затрубіць адбой.
Толькі наперад заўсёды.
Заўтрашні дзень — гэта бой.

*1977*

## ГАЗЕТА

Пракураным
                у цемры
                        калідорам,
Дзе смерч бы да куродыму
                                прырос,
Імчыць кур'ер
                сваім раскладам скорым
На свежы след
                адціснутых палос.

Дзе за дзвярмі
канчаецца паўсвета,
Нязвыклага
збянтэжыць антураж,
Без продыху
вярстаецца газета,
Бесперапынна
курыць метранпаж.
Дзе слова быццам падае
ў разоры,
Нібыта марш,
гучыць станочны грук,
Дзе чарадзейнасць
і жыццё набора,
Што не паверыць немагчыма
ў друк.
Праходзілі тут
дні мае
і ночы
З натхненнем
і на поснага жыўца
Паміж сяброў
і між старых рабочых
На прастаце
краплёнага слаўца.
І лёгкі час,
нібыта ад прычала,
Тут адрываўся,
ловячы палёт,
Цярпліва сэрца
ўпершыню змаўчала,
Параненае
словам навылёт.
Тут вывярала
нашых дзён садружнасць
Нялёгкае работы забыццё

І паўставала
перамогі мужнасць
За лепшы час,
за новае жыццё.
Пад ціхі рып
старэнькае планеты
Маіх гадоў
збіраецца лістаж,
І як раней
вярстаецца газета,
Бесперапынна
курыць метранпаж.

*1977*

* * *

Цвітуць сады на Беларусі.
І раніцай
скрозь белы сон
Адчайна сэрца прагне ў скрусе
Па маладому свету дзён.

Цвітуць сады
маёй радзімы.
Як разліліся берагі
Вясновай квецені і дыма,
Шчымлівай радаснай тугі!

Калі пакліча
дзень прывычна,
Такі звычайны ў халады,
У шматгалоссі змен фабрычных
Мне помніцца —
цвітуць сады.

І верыцца —
ў будзённай працы
Таксама ёсць
шчаслівы плён,
Душы абноўленай багацце,
Вясновы кліч
і мары звон.

*1977*

* * *

Старую выберу рыдлёўку,
Як слова мілае знайду,
Каб ускапаць спагадна зноўку
На долю новую граду.

У камяках зямля сухая.
Я з непрывычкі гну спіну,
Старое лісце атрасаю
І зноў капаю даўніну.

Хоць сад чужы,
але вясновы,
Адпачываю на камлі
У асалодзе працы новай
І цёплым дотыку зямлі.

Я чую
лёгкае трымценне
Галін у гомане лясным,
І чыстых воблакаў свячэнне,
І ласку ціхую вясны.

Спакой і змор
ад працы простай,
Калі пазнаць хачу зямлю,

Шчаку да белае бяросты
Неспадзявана прытулю.

Маіх нястач
і дум бярэма
Кудысьці знікне ў заняпад.
Якія могуць быць праблемы,
Як дзівішся
на гэты сад?

Калі, як зайчык у далоньцы,
Пупышка першая дрыжыць,
Жывое
цягнецца да сонца
І сэрца поўніць прага жыць!..

Дзіцячай
свеціцца галоўкай,
Свет абуджаецца ад сну.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Я зноў хілюся
над рыдлёўкай,
*1977* Нібы капаю даўніну...

* * *

Не над табой я плачу —
над сабою,
Над маладым
і страчаным жыццём,
Над болем
з непрытомнасцю прыбою,
Над вечнасцю,
што парасце трысцём.

Аціхлаю
прытулена шчакою,
Як зведаўшы
адгадку нашых мук,
А ты адмежавалася
спакоем
І нерухомым
скрыжаваннем рук
Ад гэтых слоў,
акрыленых у вецце,
Ад існасці
і гордасці жыцця,
Ад хісткасці сяброў
і проста смецця
Стамілася
ці не знайшла працяг.
Прыходзіць смерць
раптоўна, непапраўна,
І немагчыма
страту зразумець.
Адной душой паменшала,
і ўяўна
Па кімсьці зорка
скончыла гарэць.
А мне адной
застацца без жадання,
Ісці бясконцым шляхам
у гады
На водсвет шчасця,
на мальбу кахання,
На адзінокі свет у халады.
І ціхі мой прытулак не пазначан.
Нібы згубіўшы
Арыядны ніць,
Не над табой — я над сабою плачу,
*1977* І сумна лес на могілках шуміць.

* * *

Два жыцці нашы —
дзве рачулкі,
Бягуць у яве цераз сны
Насустрач дням і шчасцю гулка.
Насуперак
гадам вясны.

То раўнадушна,
то гулліва
Пяюць каменьчыкі ў вадзе...
Ці размінуцца нам шчасліва,
Каб не пабачыцца нідзе?

Ці разам зліцца назаўсёды,
Каб век нядоўгі
так цячы
Да прыстані
на ціхіх водах,
Да зор
у яснае начы?

Але ж
у долі недарэчнай
Мы не зліёмся назаўжды.
Парогі нашае сустрэчы —
Абрывы гневу
і вады.

Паслухаўшы чужую волю,
Мы рвёмся
ў розныя бакі.
Не размінёмся мы ніколі,
Упартыя,
як дзве ракі.

7. Зак. 673

Мой мілы,
я душою стыну,
Мой гнеў расплёсканы ў вадзе.
Гады,
як дужыя плаціны,
Прыціснуліся да грудзей.

Павялі гордыя лілеі
Дажджамі восені ў журбе,
І берагі,
як дні,
змялелі,
*1977* Што не паслухала цябе.

* * *

О, мая найшчаслівая раніца!
Растрывож маё сэрца ў вясну.
Не заснула,
а быццам паранена,
Абарвала
ад болю струну.

Непрыкаяная
і няўтульная,
Я хаджу
ад сцяны да сцяны,
Як трывога па хаце матуліна,
Пакараная без віны.

Яшчэ сонца
завідна хмурылася.
Вецер лёгкія крылы злажыў,

Я хацела,
каб нешта змянілася,
Так чакалася! —
памажы...

Выглядала за вокнамі шэрымі,
Як прачнуліся буданы,
Засмучоная
ў горкім цераме
Без жаданае навіны.

Ты масты залатыя раскінула
Над бяздоннем
і болем начэй,
Прадчуванне
пакутліва згінула.
Я надзею вітаю яшчэ.

Як над полем і горам
трысціначка
Веснаходнай жывіцца вадой,
Я гару табой,
залаціначка,
*1977* Быццам некалі... Маладой...

* * *

Услаўім,
нарэшце,
пасрэднасць —
Заканамерную ў прыродзе,
Трывалую пераемнасць
Чалавечага асяроддзя.

Звычайныя людзі
і словы,
Звычайныя нашы парывы.
Я дзякую праўдзе суровай,
Пасрэднай
і крыху наіўнай.
Сваю
адчуваючы беднасць,
Хаваючы
бездапаможнасць,
Хілілася
ў непазбежнасць,
Цябе
не пабачыўшы, можа,
Але ж
у будзённасці шэрай
Хіба не спазнала б я сёння
Цябе,
запаветны мой бераг,
Калі б ты застаўся
штодзённым.
Калі б нарадзіўся
звычайным
І тварам,
і рухам звыклы
Без неразгаданасці
тайны,
Без наканаванай памылкі?
І свет
услаўляю, як дзіва,
Жыццю саступлю
і прыродзе.
Пасрэднасць,
што нас нарадзіла,—
З нязвыклым
у даўняй згодзе.

*1977*

* * *

Маё забытае маленства!
У полі стану на мяжы.
Вясна і летняе шаленства,
Такія цёплыя дажджы...

За луг,
у купіны парослы,
Распасціраўся далягляд.
Адкрыццi свету
і дарослых —
Нішто
не вернецца назад.

Цяпер усмешкай безназоўнай
Я развітаюся з табой.
Магчыма
сэрцу біцца роўна,
Калі суцешыцца журбой.

Люблю чамусьці
развітанні.
Праводзячы,
услед гляджу,
Нібыта кожнае спатканне
Згадае новую мяжу.

А я да страт
даўно прывыкла.
Адмецін часу
не лічу.
Ніхто
майго не чуе крыку,
Ды я
над болем не крычу.

Ну што з таго,
калі праводжу,
Калі страчаю
не яго?
А зразумець ніхто не можа,
Што я чакаю аднаго,

Што блытаю на падабенства,
Шукаючы адзіны твар,
І не адрозніць,
бы ў маленстве,
Мне яву простую
ад мар.

*1977*

* * *

Вось і скончылася чароўная
Казка нашых размоў
і прыкмет,
Загубілася,
як раптоўнае,
Між дарог
і далёкіх планет.

Абступіла надзвычай рэальнае,
Як разрэзала вастрыё,
І баліць
у радках развітальнае
Толькі слова і сэрца маё.

Толькі міг
у разрынутай памяці
Захаваў родны голас,
пагляд.

А жыццё ўсё цячэ,
не мяняецца,
Павярнуць немагчыма назад.

Застануся другой
ці ранейшаю,
Ці пазнаеш мяне праз гады? —
Па вясне —
як тугу саладзейшую,
Па зіме —
як звядуць халады?..

Золка ў хаце маёй разгараецца
Палахлівы агеньчык начы.
Ўсё шчаслівае —
паўтараецца,
Не дашуквайся да прычын.

Беражы,
калі гэта скончыцца,—
Успаміну былое цяпло.
Мне жыццю
так падзякаваць хочацца:
У другіх
*1977* і таго не было.

## АПОШНІ ВЕРАСЕНЬ

Верасень,
цёплая мая рака,
Лісце не абляцела.
Восені голас,
сонца шчака,
Маё залатое цела.

Зачаравана
ўдалеч гляджу,
Дзе сыходзяцца ўскрай дарогі.
Свежае поле,
подых дажджу,
Хвіліны перасцярогі.
Вось мне здаецца —
зноў палячу
Ў светлае падарожжа,
Лёгкае ў промні
слова «хачу»,
Горкая кропля —
«можна»...
Не нарадзіліся
слёзы яшчэ,
Усмешка блукае на твары.
Верасень цёплы
ракою цячэ,
Незразумелы,
як мары.

*1976*

## ТАДЖЫКІСТАН

І вось лячу я
цераз горы,
Унізе віднее туман,
І нестамлёныя матары
Нясуць мяне
ў Таджыкістан.
Як быццам радасць ад заручын
У лепшы свет
на схіле дня,
Дзе белы перс пад сіняй кручай
Купае белага каня.

І шлях мой
радасцю пазначан
У прадчуванні пекнаты,
Нібы падковы
след гарачы
Ля паднябеснай нематы.
Дом пакідаю з асалодай,
Хоць прагна часу не стае,
Каб сэрцам вечна
піць свабоду
І вочы чорныя твае.
Каб адрадзіцца на закланні
Вяршынь і траў,
дзе горны дух,
І паўтарыць адны жаданні —
Дзіцячы сон,
шчаслівы рух...
Калі над полем неабсяжным
Згасае
восені крыло,
Што будзе потым —
хіба важна,
І хто паверыць,
што было?..
Я абганяю
час і долю,
Ірвуся
з путаў
і надзей,
І веру ў шчасце,
як ніколі,
І спадзяюся
на людзей.
Хоць не змагу
табе адкрыцца,
Якой хвілінаю жыву,

І знікну ўслед за бліскавіцай
У спапялёную траву.
Ці стану
каменем гаючым
На той сцяжынцы,
дзе штодня
Мой белы перс
пад сіняй кручай
Купае
белага каня.

*1976*

* * *

Ці назаўжды?..— спытае любы.
І я спытаю — назаўжды?
Нібы да беражнае згубы
Вядуць глыбокія сляды.

Я дня твайго прыход вітаю,
Хаваю белую свячу.
У снах шчаслівая лятаю,
Але над кручаю лячу...

*1977*

## ПРАШЭННЕ

Як завяршэнне —
І я старэю...
Іду з прашэннем,
Прасіць не ўмею...
Акон праёмы,
Сінеюць словы,
Каўчэг прыёмнай,
Паркет дубовы,

Зноў перад Вамі
Стаю, як здрада,
Над берагамі
Сноў, зарапада.
Ці можна ўбачыць
Мяне так блізка?
Не многа страчу —
Схілюся нізка.
А Вам дзівіцца
З высокай мерай,
Каб не разбіцца
Ў маім зняверы,
Не падмануцца
Ў другім чаканні
Галінкай гнуткай
І смуткам рання.
Ваш позірк строгі
Не палымнее,
А твар з дарогі
Яшчэ цямнее.
Ускалыхнуся
На водар мая.
Каханне ў скрусе —
Усё, што маю.
Бунтуе ў вочы
Дакор і сіла —
Не, я не збочу!
Я Вас прасіла!..
І гром з-пад столі
У бліскавіцы.
Няўжо даволі?—
Прашу я ніцма.
Няўжо даволі?
Замест адказу
Пагляд, не болей,
Нібы абраза.

А можа, памяць
Ці шкадаванне?
Судзіце самі
Без пакарання,
Згадайце потым
На ўлонні лета
Мой шлях кароткі
*1976* Любві паэта.

* * *

Калі паэт каханнем ахвяруе?
Гартаю лірыкі любоўнай стос.
Зусім цябе я, мілы, не раўную.
*1976* Мой сад галінкі белыя атрос...

* * *

Даруйце ўсе,
каго я здзекам біла,
Хто затаіў
пагарду, крыўду, злосць.
Я плачу зноў, таму,
што разлюбіла,
Каторы раз
згубіла маладосць.

І юных дзён
з сабой не павяду я.
Як адгарэлі прыгажосці сны.
Я плачу зноў —
ніхто не пашкадуе.
Мне сто гадоў —
*1976* не верыць толькі сын.

* * *

А мы з табой —
як два метэарыты,
Сустрэліся ў касмічнае начы,
І зрушылі прывычныя арбіты,
Уздрыгнула зямная далячынь.

Якой прынукай лёсы нашы спарыць
І ядзерныя выбухі душы?
Сустрэчы нашы —
тысячы аварый
Нябачных трас блакітнае цішы.

А мы з табой —
як знакі задыяка —
Грываcты Леў
і лёгкі Казярог.
Дык падніміся велічна і ярка,
І царскі рык хай страсяне аблог.

Гарыць пажарам
ярасная грыва,
Ахвяры нема курчацца ля ног.
А Казярог
заўжды быў палахлівы,
І адзінокі
з веку Казярог...

*1976*

* * *

Не дакарай мяне, жанчыну,—
Я зведала кахання мала.
Усё адшукваю прычыны:
Чаму, чаму цябе спаткала?

Адрозні сам
ад плётак былі
Майго святла і раўнавагі.
Мяне так часта не любілі,
А можа,
толькі раўнавалі.

Даўно ўжо звыкла
з болем вецце.
Як дзічка ў полі на узмежку.
Ты азываешся,
як вецер,
На легкадумную усмешку...

І без цябе прадвесне мая
Апошняй зоркаю астыла.
Я толькі сына абдымаю
І сню цябе начамі,
мілы.

*1976*

* * *

Са слядамі былой прыгажосці,
У барознах грахоў і стыхіі
Ты здалёк нагадаеш кагосьці
Зманам вечнасці і небасхіла.

Разумею, кахаю няўрымсна,
І стаіць прад вачамі завеса —
Уладар і насмешнік Алімпа,
Жорсткі буйствам і прагай Зявеса!

Атруціў і замучыў каго ты,
І вазвысіўшы, потым нізрынуў?

Мне памроіцца вобраз пяшчоты,
Так баюся за гэту хвіліну...

Незвычайны. Не будзеш са мною.
Не адкупішся ў Бога за хабар.
Я ж навек застануся зямною,
*1976* Пакаронай, смяротнай і слабай.

* * *

Падаць руку на развітанне
І не парушыць
тым закон,
Нібыта ў горасным прызнанні
Пакінуць
ветлівы паклон.

Пакінуць рух
і радасць слова
За паваротам галавы,
У думках
аднавіць нанова
Вачэй пагляд да сінявы.

Прыстойнай звычкі
боль мінутны.
І хто заўважыць лёгкі крок,
З тваёй рукі
бяжыць нячутна
Нікім не разгаданы ток.

Як ты пацісне
асцярожна
Маю маленькую далонь,

Як углядаюся трывожна,
Нібы кідаюся ў агонь.

Ніхто не крыкне: «Сцеражыся!»
Калі скрыжуюцца мячы,
Расколе гром
нябёсаў высі,
Заб'ецца сэрца — памаўчы!..

Так пакляліся мы ў яднанні,
Пакінуўшы жыццё ўбаку.
Так развіталіся ў каханні.
Падай,
мой суджаны,
руку!

*1976*

* * *

Я не люблю цябе,
і ты нямілы.
Шалёная,
як снежны ком ляплю.
Я ненавіджу,
што цябе любіла,
І ненавіджу,
што не палюблю.

Апоўдзень мой увосень не замглёны.
За боль свабоды,
прадчування міг —
Ты мой праклён,
дык будзь жа бласлаўлёны,
Як першы ўздых
і прадсмяротны ўскрык.

*1976*

## У ГЭТЫ ГОД

У гэты год ляцела птушка,
Сівеў удалечы прасцяг.
Лёг гэты год жалобнай стужкай —
Дагэтуль на маіх вачах.

Быў гэты год.
І я адчула,
Як лёгка можна пастарэць,
І кожны дзень,
і час мінулы
Не аднавіць, не абагрэць.

Ужо з нягоды ці адчаю
Не чую болю, як даўней,
Усмешкай звыклаю страчаю,
Над чым смяялася раней.

Хай распачатае нязменна,
Мой мілы бог,
мой светлы цень!
Паўстань
у золаце праменным —
Імклівы восеньскі алень.

Яшчэ дыміцца
болем рана,
Не скончан твой апошні бой.
Дзіўлюся я зачаравана —
Загінуць
следам за табой.

*1976*

* * *

Як я жыву,
не ўміраю,
Сэрцам у днях халадзею...
Там,
за варотамі рая,
Бог не заменіць надзеі.

Смерць падкрадзецца уночы.
І пад крылом лебядзіным
Ціха паклічу:
сыночак!..
Шэптам і горка:
адзіны...

*1976*

* * *

Што свой характар
бачу ў сыне,
Я засмучаюся хутчэй.
Але ён вырасце
мужчынам —
І, значыць,
жыць яму лягчэй.

Дужэйшы пол —
высакародны.
Адкрыцця ў гэтым не рабіць.
Ён будзе
права мець свабодна
І ненавідзець,
і любіць.

Ён можа
у дробязным жаданні
Не спасылацца на багоў
І не баяцца
пакарання,
Бо найвышэйшы суд — яго.

Хіба асудзяць людзі годнасць,
Што так падводзіла жанчын?
Ва ўсім
мужчына першародны,
І мы прыгнечана маўчым.

Але ў адным пацешым сэрца,
Што дзеці —
лепшы наш працяг.
Мой твар у сыне адаб'ецца,
Як найвышэйшы сэнс жыцця.

У рысах на высокім зломе,
У вуснах,
дорачых палёт...
Знаёмы многім і нікому,
Пакутны,
*1977* як жаночы род.

* * *

О, гэты ранак павярхоўны —
Пад восень быццам халадзей.
Пачаўся новы дзень працоўны,
Звычайны,
непаўторны дзень.

Устань, сынок,
пачысці зубкі.
Сцяжынка ў часе павядзе.
Пяшчотай горкае галубкі
Цябе прыцісну да грудзей.

Твой шлях наперад,
смех шчаслівы,
І блізка так дзіцячы сад,
Ўвабралі вочы зіхатліва
Дажджы
і мяккі снегапад.

Сынок,
спяшайся ў светлы ранак
Сваёй сцяжынкай да людзей —
Упартых, добрых, паслухмяных,
Пад сонцам болю і надзей.

Твой доўгі век,
а дзень кароткі.
Якою б доля ні была —
Хай стане цёплым кожны дотык
Чужое ласкі і святла.

Праясніць зло
твой чысты розум,
А зайздрасць сэрца не кране,
Прыходзіць родны край на роздум
У незнаёмай старане.

Праводжу я цябе штодзённа,
Лічу слязінкі
і гады...
Пачаўся новы дзень будзённы.
Ты пойдзеш хутка назаўжды...

*1976*

## ГРАМАТЫКА

Сынок,
сабяры салдацікаў,
Бо час
неадступна ідзе.
Вучы старанна граматыку,
Каб разумець людзей.
У сшытку тваім,
як галачкі,
Што вылецелі
з-пад рукі,
Няўмела напісаны палачкі,
Вострыя,
як штыкі.
Пакуль
свядомасць прыхавана,
Выводзіш ты літары
ў бой,
На аркушы разлінаваным
Смяецца маленства
з табой.
Ты з дому
выходзіш прыгнечана
У восень
дажджоў
і хмар,
І ранец бліскучы за плечмі,
Зусім як дарослы цяжар.
Гляджу
невідушчымі зрэнкамі
Туды,
дзе шлях твой пралёг,
Які ты яшчэ маленькі,
Бездапаможны
здалёк.

І што
да жыццёвай навукі
Дадаць я табе
змагу? —
Хіба неадольныя мукі,
Забытую ў днях
тугу?..
Хіба што
адно памкненне
Пачатку
і адкрыцця...
Вучыся,
сынок, цярпенню
Ў граматыкі
і жыцця.

*1977*

## СНЕЖНАЯ ГОРКА

*Паэма*

Закалыхалася сірэна ў белых сецях,
Разбудзіўшы раніцу зімы.
На лядзянках коўзаюцца дзеці,
Як калісьці коўзаліся мы.

*Андрэй Александровіч*

Вясельны смех і сполах зоркі.
Стрывожана ў вачах застыг.
І я лячу са снежнай горкі
Незразумелая, як міг.

Гары, гары, мой свеце сіні,
Дым залаты над галавой...
Завеі, белыя вяргіні...
І санак бег па кругавой!..

Маіх вачэй дзіцячых промні
Не наталіў вясны агонь.
А я ўсё помню, я ўсё помню:
Кляновым лісцікам —
далонь...

Яшчэ зімы ігляцца ковы,
Трашчаць на рэках маразы,
І невядомай песні словы
Пяюць на сонцы палазы.

Лячу і падаю наўдачу
Пад беласнежны крыл узмах.
Як дзічка, змерзну, а не плачу.
Адзіны мой шчаслівы шлях!

Цяпер, сынок, калі бядую,
Нібы крануўшыся ляза,
Са страт усіх, што пашкадую —
Тваёе радасці сляза.

А ты штовечар шэпчаш горка
І просіш слёзна нада мной...
Як счаравала тая горка
Касмічнай трасай ледзяной.

Саджуся ў санкі пад прымусам —
Віхурыцца, іскрыцца пух.
Смяешся звонка, я смяюся...
Перабалелы дзень патух.

Мы зноў з табою ва ўспамінах
Свайго аціхлага жыцця.
Яшчэ наперадзе гадзіны
Маленства, шчасця, забыцця.

І непрадбачаная радасць,
І незасмучаны спакой,
І ласка, ціхая спагада
Пад мацярынскаю рукой.

Са снежнай горкі ў яр не збочыш,
Над намі неба зорны дах.
Ад страху ты заплюшчыў вочы —
Які ў дзяцей маленькі страх!

Прыму сустрэчна ветру хвалі,
Крутога часу градабой.
Ляці ж у будучыню далей,
А я — сцяжынкай за табой.

Хай шчокі ззяюць ад марозу
І сонцам шырыцца прасцяг.
Я для тваёй паэмы проза,
Калі ёсць проза у жыцця.

Згасае снег.
                Згасаюць znічкі.
Адчуўшы подых агнявы,
Я заплятаю дзве касічкі
Вакол вясновай галавы.

Ты дзе бярэш пачатак, доля?
Ад сына праўды не ўтаю.
Дажджы растуць,
                    шумяць над полем,
Дзе я на ростанях стаю.

Ці хмара сунецца над пожняй,
Ці конь, як хмара, варaны?..
Прыедзеш ты, кароль мой позні,
З чужой далёкай стараны.

Зазвоняць лёгкія падковы,
Ўпадуць са срэбра павады.
Здзіўлёныя нахмурыш бровы,
Не прыкмячаючы бяды.

Прывабнае зямное дзіва,
Паўсвету тоіць цішыня.
Калматая туману грыва
І цень крылатага каня.

Дзе ж тая мілая дзяўчынка
На ростанях перад бядой?

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Устань хутчэй, не плач, мой сынку,
Адзін павечна ты са мной.

Даволі саннае завеі —
Мы знойдзем лепшую з уцех,
Дай толькі ручкі адагрэю
І атрасу калючы снег.

Накалышу я сон да ранку,
Не заўважаючы ў журбе,
Як плачуць талым снегам санкі —
Маленечкі твой карабель.

Сасняцца новыя палёты
У зорных высях за сцяной.
Не бойся, сыне, адзіноты —
Адзін павечна ты са мной.

Хай будзе шчасце пераемна,
Табе хоць рэшту перадам:
Сваю вясну я недарэмна
Асыпала сівым снягам.

Ізноў імчу паштовым скорым,
Гудуць марозна правады,
Агні зліваюцца і морак...
Лясы... Паўстанкі... Ґарады...

Забудуцца згрызоты, звычкі,
Ды сэрца ўсё ж расколе ціш,
Дзе ты, згубіўшы рукавічкі,
Пад снежнай горкаю стаіш.

* * *

— Добры дзень! — У слове звычным
Колькі жалю спакваля...
— Добры дзень... Як паэтычна,
Быццам конус карабля.

Нібы ў сінія прасторы
Белы ветразь мой плыве.
Палахліва нікнуць зоры
У пакошанай траве.

— Добры дзень! — Як смутны вечар,
Штосьці памяць скалане:
Нагадае профіль нечы
І, як воблак, праміне.

— Добры дзень! — Сляза-дажджынка
Упадзе на валасы,
Пахілюся, як сцяблінка,
Ад гарачае касы.

У люстэрку пабялелым
Позірк выблісне ярчэй,
Падымаю я збалелыя
Доўга
        рукі да вачэй.

Пасміхнуся сабе горка,
Моўчкі ў келіх пагляджу.
Зноў не клеіцца гаворка,
Як завея да дажджу.

Як жыла і што рабіла...
Хіба збоку не відно?
Нібы голуба прыбіла
На высокае акно.

Падуладна слова стала
Толькі часу-разьбяру.
Можа, старасць, можа, сталасць...
Аніяк не разбяру.

Падразае ў лёце крылы
Ветру зімнага павеў.
Так і ты дачасна, мілы,
Памаркотнеў, пасівеў.

Нібы ўсё яно да месца,
Ды ручай замкнулі льды.
Гэта дружбаю завецца
Ў нашы роўныя гады.

Разматаеш на пачатак,
Як заблытаны клубок.
Адгукнецца каля хаты
Развітання сумны крок.

Юным рухам страпянуся —
Скокнуць зайчыкі пад столь.
У вачах тваіх баюся
Скалыхнуць знаёмы боль.

Неспакой змяню на стому,
Зазірну ў расінках слёз

У адзіна невядомы,
Пераблытаны твой лёс.

Колькі дбала і трывала
Перажыта на вяку!
Мне здавалася —
трымала
Літасцівую руку.

Колькі ў днях дарогі збітай
Лёс здаваўся мне мякчэй,
І свяціў, як дзень, адбітак
Дарагіх тваіх вачэй.

Шанавала, як надзею,
Самы цяжкі успамін...
Можа, сэрцам схаладзела?
Вінаваты, можа, сын?

Захад сонечны над плёсам,
Маладых жаданняў сны...
Адцвілі ў крамяных росах
Мроі-ластаўкі вясны.

Сабяру пялёсткі кволых,
Безнадзейна позніх руж.
Як смяешся невясёла —
Цішыню маю не руш!

Я з-за памяці былога
Не заснула б давідна.
Толькі доўгая дарога
Вельмі горкая цана...

Гэта шчасце за пакуты,
Гэта праўда — за мной,—

Дачакацца той мінуты,
Каб застацца зноў адной.

Па-за буднямі работы
Вобраз твой у яве знік,
Ты прыходзіш з адзіноты,
Як вясёлы маладзік.

Ты прыходзіш, як трывога
Безназоўная ў жыцці,
Каб шукаць сябе самога
І дзівіцца ў адкрыцці.

— Добры дзень, мая самота,
Свет не засці уваччу.
Як асенняя лістота,
Аблятаю, шамачу.

— Добры дзень! — У звон крыштальны
Ручаінкаю плыву.
Добры дзень, мой развітальны,—
Не бядуй — перажыву.

Сваё шчасце — як іначай? —
Прычакаю ў скрусе бед,
Усміхнуся ці заплачу —
Пакланіся нізка ўслед.

* * *

Люблю, на дзень адклаўшы справы,
Дзівіцца горадам з акна.
Так кожны выбера забаву,
Якую вырашыў здаўна.

З падхмарнага паверху ранак
Разнасцежыць мне на зары

Маленства цесныя двары —
Чаромхі цвет, драўляны ганак.

Здзіўлёная, жыву на свеце —
З вясны да холада зімы,
Паўторыцца маленства ў дзецях,
А ці заўважым гэта мы?

Рамонкі змыліся з сукенкі...
І лялькі некалі люляць...
А ўсё здаецца, што каленкі
Не загаіліся, баляць.

Мы лёталі па шэрых схілах —
Завулкаў шустрыя стрыжы.
Дзіцячы смех з дарожным пылам
У Свіслач сплавілі дажджы.

Бульдозер зрыў на тратуары
Кавалкі свету, што таіць...
І толькі дрэвы, нібы мары,
З асфальту нема просяць піць.

Ніхто бялізну там не сушыць.
Бяздомных знішчылі сабак.
І ссеклі разам з дзічкай-грушай
Арэлі босых забіяк.

Мае пагодкі — інжынеры.
Дзе той дамок, сівы, як млын?
Не ўчуеш з новае кватэры,
Як пахне горасна палын.

За цішынёю палахліва
Яшчэ гучыць маленства цуд,
І мы выносім справядлівасць
З гадоў дзіцячых, як прысуд.

Там босы след на схілах росных
Пасведчыць сённяшняму дню:
За ўсё як ёсць — карай дарослых,
Дзяцей ні ў чым не павіню.

Калі ж і вырас сын забойцам,
Калі каханую забыў —
Ты сам забіў кагосьці двойчы,
Ты сам ніколі не любіў.

Яны — наш час. Душы прадмова
Да славы, шчасця і... разлук.
Бяруць наш боль, паўтораць словы
І цеплыню руплівых рук.

Гарэзны тлум гульні дзіцячай
Няхай нікому не пячэ.
Зашкліце шыбу, кіньце мячык —
Усё паўторыцца яшчэ.

І будзе прасвятлелы тварам,
Не зведаўшы жыцця пакут,
Чакаць свой мяч на тратуары
З каленкам збітым шалапут.

Аслепіць сонца шчасця зрэнкі
І крыкам вырвецца раней,
Як задрыжаць яго каленкі
І ножкі зробяцца таней.

Руку спагады і спакою
Яму спашлі на галаву,
Дзіця асфальту гарадское,
Яно падобна на траву,

Што напаверх вясной імкнецца
Адкрыцца сонцу і дажджам.

І б'ецца, б'ецца, нібы сэрца,
Захутае у дым і гам.

Расце, і зелянее порстка,
І абганяе новы час.
Любоў, пяшчота, нават жорсткасць
Дзіцячыя — ці не ад нас?..

Мы нараджаемся нанова,
Каб сэрца выслухаць біццё,
Каб зразумець другую мову
І пражыць яшчэ жыццё.

Каб набывалі сэнс турботы
І апраўдаліся гады,
Каб прывід і маёй самоты
Скасіла шчасце назаўжды.

Я знаю працы асалоду,
Крануцца ж і майго жыцця:
— Што ты зрабіла для народа?..
Я гадавала вам дзіця.

Я прагну, каб у гул бяссонны
Мае гады плылі ярчэй
Світаннем мар, вясельным звонам,
Агнём маланкавых вачэй.

Грымяць світальна цэхі зборкі,
Шалеюць рэкі ля плацін.
А я лячу са снежнай горкі,
З якой пачаў дарогу сын.

Хай будзе гэты міг кароткі,
І стане вечным гэты міг.
Адчую шчасця боль салодкі
*1975* І дотык першых слоў сваіх.

## АЛЬФА

*Паэма*

І час —
　　　　пусты, як гук,
Разлука — нібы вечнасць,
І рух ласкавых рук —
Як міг і недарэчнасць.

Блукаю ў цішыні,
Паклікаць немагчыма,
У нескончоным дні
Не выплакаць вачыма.

За межамі святла,
У далечы маркотнай,
Твой профіль
　　　　　　　без крыла
І горды,
　　　　і пяшчотны.

Нявыказаных слоў
Яшчэ бруіцца ранне.
Размежаванне сноў,
Надзеі і спатканні...

На вогнішча ахвяр
Лёс выбера кагосьці.
Я твой запомню твар
І шчасце маладосці.

У промень
　　　　　залаты,
На хараство і мукі,
Я прашаптала: ты...
І працягнула рукі.

8. Зак. 673

* * *

Ты думаў пра мяне.
І ў ноч прыйшло бяссонне.
Плыла, нібыта ў сне,
У ціхае прадонне.

А месячкі на лбе
Прарэзалі барозны,
І клікалі цябе
Вясельныя бярозы,

Каб некалі бядой
За лісцем гэтым сумным
Прыйшла я маладой
І стратай неразумнай.

І за шчаслівы міг
Кароткага расстання
Ты здзіўлены застыг,
Паверыўшы ў каханне.

Асенні смутак мой!
Вясновая надзея...
Як жнівень, над табой
Гару і халадзею.

Як сонечны пажар,
З кавалачкаў бурштынка,
Я лёгкі твой цяжар,
Спагадная сцяжынка.

Пераступлю, як зруб,
Жыццё і шкадаванне
Да гэтых горкіх губ,
Бязгрэшнасці прызнання.

Не пашкадуеш ты,
А я паклала сэрца
Адчаем нематы,
З адданасцю зняверцы...

* * *

Каб толькі зноў цябе пабачыць!
Пазнаць твой незабыўны твар...
Відаць, апошні розум трачу
У полымі вычварных мар...

Непрымірымай памяць стала.
Не параўнаеш, каб хацеў —
Твайго аблічча дасканаласць,
Тваёй душы абрыў і гнеў.

Былых адносін дзень марозны.
Зноў акунуся ў тую стынь.
Ты — раўнадушны і цвярозы...
Вачэй стуманілася сінь...

Яшчэ хвіліны нашы помню,
Яшчэ смяюся, дарагі!
Адданы голас мой нязломны
І пацалунак без тугі.

Мы сустракаліся, як рэкі,
І нарадзіліся з ракі.
Пачуцці нашы, як спрадвеку,
Зліліся болем на вякі.

І словы нашы, як імгненні
Вясновых раніц і начэй,
І рукі, быццам летуценні,
Не разлучоныя яшчэ.

Перажываю дні нанова
І аднаўляю да драбніц,
Перад каханнем, як замовай,
Ўпаду знясіленая ніц.

Не пакідай, мой вечар ясны,
Зложыўшы крылы на зары,
Як месяц чысты, непагасны,
Як рэха летняе ў бары.

Не пакідай — мальбы празмернай
Ці захаваеш успамін?
І, можа, нагадае вернасць
Пара асенняя рабін?..

Далёкі мой і новы бераг,
Знаёмы даўняю журбой,
Пераплыву, таму што веру —
Неразлучоныя з табой.

* * *

У гэтым прыкрым дабрабыце
З абразай плётак і маршчын,
О, не любіце, не любіце!
І не прыдумвайце прычын...

Заведзены сямейным колам,
Шалёна круціць жорны час,
Бы жартаўнік і друг вясёлы,
Час не знадзеіў доляй нас.

Паміж адчаем і работай
Мінае хутка маладосць.
І толькі мудрасць адзіноты —
Спакой адзіны ў свеце ёсць.

Мне шмат чаго не даравалі
І не даруюць шмат яшчэ,
На кожным новым перавале
Я задыхаюся часцей.

У днях пражытых і астылых
Я трачу сілы і бяру
І паўтараю ціха: мілы...
Я й перад смерцю паўтару!

Мне б толькі выжыць, не упасці,
Каб свет стаіўся і глядзеў,—
Счакаць адну хвіліну шчасця —
Прыпасці да яго грудзей...

* * *

Ты думаў пра мяне.
І ў ноч прыйшло бяссонне.
Плыла, нібыта ў сне,
У ціхае прадонне.

О, колькі гэткіх сноў
Сплыло нябачнай сілай...
Я блытаю ізноў
Каханых і нямілых...

Яны пайшлі ў гады,
Пакінулі няспешна,
Без болю і бяды,
З ласкаваю усмешкай

У ціхай старане
Суцешу сум і стому.
Кахаў ці хто мяне? —
Не ведаю. Не помню.

Ці варта пакрывіць
Сумленнем паэтычным?
Мне выпала любіць,
Хоць гэта непрывычна...

У строгі, дзіўны век,
Растрачаны і пільны,
Вялікі чалавек —
І разам з тым — бяссільны.

Яго бяссільны гнеў
У смутку даравання,
Нібы птушыны спеў
Ці навальніца рання.

Што памяці сляза
Перад нябытам смерці?..
Што вастрыня ляза,
Калі сляпое сэрца!..

Па шляху за табой
Цярплю шыпы старанна,
Гатова да любой
Пякучай самай раны...

Гатовая да страт
І нематы магільнай...
Ўсё павярнуць назад —
Я не змагу няўхільна.

* * *

Ляці, мой лепшы сон,
У неба, на грамніцы,
У цішыню і звон
Вясновае сталіцы.

У першы крыгаход
І летуценнасць мая,
Мне зноў шаснаццаць год!
Я вечнасць абдымаю.

Калі ж і ёсць той бог,
Што злым хаваўся ценем,—
Хай ступіць на парог
1976 І стане на калені.

## НАТХНЕННЕ

*Паэма*

Дажджлівых раніц пазалота,
Нячутны сон у спеў травы...
І толькі ты, мая работа,
Як Млечны Шлях — да сінявы.

Адной табе служыла верай
І прысягала ў цяжкі дзень,
Калі схіляўся над паперай
Мой па-юначы светлы цень.

З табою мучыла бяссонне
Забытых, неспазнаных слоў,
І засынала над бяздоннем,
І абуджалася ізноў.

Завеі ў днях заледзянелых...
Калі вы клікалі? Куды?
Адзін радок надзеі белай,
Уратаваны за гады.

Спакоем цешыла употай,
І гартавала ад нуды,
І забывалася, што потым
Не адвярнула ад бяды,

Як засцілаўся ціхім болем
Мой недаверлівы пагляд,
Як сэрца рвалася на волю,
Туды, дзе днеўся далягляд.

Дзе ўсё было неспадзявана
І варта многа перажыць —
Прадвесні, восені туманы
І маладое шчасце жыць.

Што з працы дзень мой пачынаўся,
Няхай не вечнага пяра,
Што кожны ранак пасміхаўся,
Як незабыўная пара.

Хіба калі была няшчырай
Ці памылялася зашмат?
Надзей маіх залётны вырай
І маладзік — мой бедны брат.

Калі цяпер спакойна ўзважу,
То аддзяліць я не змагу
Ад клопатаў гадоў паклажу,
Ад радасці былой — тугу.

Што перажытае злілося
З наіўнасцю жыццёвых мар,
Перабалела і здалося
Як у чужым люстэрку твар.

Што я даўно зусім не тая,
Якой запомнілі мяне.

Блакіт вачэй растаў расстайна
У задуменнай сівізне.

Спакою, міру зычу дому,
Малю спачынку кожны год
Ад нескачонасці і стомы
Знаёмых будняў і турбот.

Пісьмовы стол цішэў маўкліва
У калаўроце марных дзён,
Ён час узважыў справядліва
І вызначыў жаданы плён.

Як на яго паверхні строгай,
Нібы далонь мая лягла,
Маршчынкамі мая дарога
Да маладосці і святла.

Мой друг аддданы і маўклівы
Трывог і радаснай пары,
У адзіноце зіхатлівы,
Даверлівы на вечары.

Гадзінай позняй і сцішэлай
З ім заставалася часцей
Паводле гутаркі нясмелай,
Забытая паміж гасцей.

Я спасцігала мову рэчаў,
Я існасць вызначыць магла,
Пасля учынкаў недарэчных,
Спазнання мудрасці і зла.

Знак барацьбы і прымірэння
Тут быў напісаны крывёй
Цаной жыцця, цаной натхнення
У працы катаржнай маёй.

Хай шлях паэта не пазначан
Высокім лёсам у багоў,
Людское слабасці нястачы
Здавён уклалі на яго.

За боль жыцця, загадку смерці —
Усё, што мучыла спрадвек,—
Пражыць паэту трэба сэрцам,
Таму кароткі ў песні век.

З прысуду вечнасці суровай
Хай забываюцца яны —
Неразлічоныя, як словы,
Неразгаданыя, як сны.

Я слаўлю дар вялікі мовы
З вяршынь высокага быцця,
Над светам будучыні новай
І чалавечага жыцця.

Памру. Не ўспомняць... Не паверацъ...
У непаўторнасці вясны
На гэты жоўклы ліст паперы
Ці адгукнешся ты, мой сын?

* * *

Мой друг стары, мой друг сардэчны,
Навошта ветласці парад?
Не прызнаю я ісцін вечных
І неаспрэчаных парад.

Прыйду, спакоем утрапёна,
І па шаноўнаму званку
Падам, прывычная, з паклонам
Для паслядоўнасці руку.

З усмешкай стану і прыветам
Ля безназоўнага стала.
Яшчэ мой смех гарыць над светам,
Яшчэ ў вачах маіх імгла.

І бесклапотна твар патухлы
Набліжу, гордая, ў мальбе.
Не выдам я ніводным рухам,
Неасцярожная, сябе.

За строгім сэнсам кабінета,
Адкуль не ўявіш далячынь,
Як перад вамі быць паэтам,
Згубіўшы логіку жанчын?

Але, змірыўшыся з размовай,
Услаўлю прыгажосці цуд,
І вашы сумныя вымовы,
І безнадзейны ваш прысуд.

Гляджу, саманадзейна, можа,
Як нас паэзія звяла,
Нібы акцёраў перад ложай
Ля рампы яркага святла,

І вы запомніце, як сцэны,
Гатовыя спыніць рукой,—
Вачэй і твараў перамены
І цень заслоны трапяткой.

І вы адчуеце свабоду,
Каб зноў душою зберагчы
Маўчанне слоў і асалоду,
Не разумеючы прычын.

Што лёс чужы непадуладны.
І, думак абарваўшы ніць,

Казённым словам і загадам
Яго нікому не змяніць.

Што я, як птушка, б'юся ў сеці
І не паверу вам спярша,
Што ў сіняках балючых мецін
Мая дзіцячая душа.

Так, адхіліўшы недарэчнасць
І паслядоўнасць на бакі,
Прыміце толькі чалавечнасць
У слабым поціску рукі.

І скрозь вясны і восень замець
Пайду, як воблак, ад акна.
Пакіну вас і вашу памяць
Не адзінокая — адна.

З цывілізацыі тыповай
Мы многае зрабіць маглі,
Данесці мусім дзецям мову,
Што нарадзілі нам палі,

Якую дзед складаў пакосам
І кляў Пярун перад дажджом,
Бабуля, што снавала кросны,
Дзявоцкім бавіла плачом.

Якую з малаком прымала,
Калі не ўмела гаварыць,
Як песню, што спявала мама,
Як сонца, што для нас гарыць,

Што з намі ўсе шляхі схадзіла
І засталася толькі тут —
У словах «маці» і «радзіма»,
У незабыўным «родны кут».

Быць не баюся старамоднай,
Пяю пра першую зару.
Я тым і звязана з народам,
Што роднай мовай гавару.

Калісьці ў міжпланетнай стыні
Гадоў зямных пакіну груз
І паўтаруся зноў у сыне,
Бо ён таксама беларус.

І зімы лютыя,
                і леты
З ім будуць днецца і зарыць,
Ён зможа моваю паэта
З краінай цэлай гаварыць.

І незабыўна след сатрэцца,
І кане голас у раку,
Ці будзе біцца гэта сэрца
У незавершаным радку?

Дзіця, прачніся новым ранкам,
У свет прыслухайся ізноў,
Пазнаеш словы калыханкі
Матуліных далёкіх сноў.

Не трэба славы і багацця,
Ды і ў каго яны былі?
Ўсё пачынаецца ад маці,
Ад мовы роднае зямлі.

* * *

Зёлкі на лекі любіла
Змалку бабуля збіраць.
Імі труну я накрыла,
Як надышло паміраць.

Ноч помню як перад Богам,
Як за мяжой небыцця,
Смерць.
                Цішыню за парогам,
Неразгаданасць жыцця.

Доўга трымала я ўпотай
Рукі старыя ўдавы.
Струджаныя ад работы,
Горкія —
                ад травы.

Днела палоскаю сіні
За нематою сцяны,
Як гэта рукі астынуць,
Заледзянеюць яны?

Вось і світанне растала.
Так пільнавала дарма.
Холад.
                Бабулі не стала,
Я зразумела: няма.

Шоргала жоўтае лісце
У скрыжаванні акон.
Хто ж мяне перахрысціць
Ля пачарнелых ікон?

Хто ж мяне гэтак усцешыць,
Будзе туліць да грудзей?
Стрэне ласкавай усмешкай,
Як пабрыду між людзей?

Даць мне параду захоча,
Выглядзіць з-пад рукі?
Ціха закрыліся вочы,
Як адцвілі васількі...

Твар свой аціхлы дрыготна
Як нахілю да яе?
Знаю цяпер,
        што смяротныя
Я і нашчадкі мае.

Што і ў жыцці гэтым цяжкім
Можна за ўсё даравань
Толькі за тое,
        што страшна
Ў муках балюча ўміраць.

З цемры пякельнай і тлену,
З гора людскога і зла
Бабка прайшла непісьменнай,
Знала,
    навошта жыла.

Знала адно —
        гэтак трэба,
Бо працавала часцей
Дзеля зямліцы і хлеба,
Дзеля няўдзячных дзяцей.

Вынесла годы
        і мукі —
Не палічыць усяго,
Потым жыла дзеля ўнукаў,—
Хто ж пасмяецца з таго?

Вось прынялі яе цела
Свет і адрынуты мір,
Так, як яна захацела —
Жоўты пясочак і жвір.

Я не малілася Богу.
Толькі адно папрашу —

Той, хто пазваў у дарогу,
Дай ёй спакой на душу.

Дай у спачынку паслухаць
Песню вясновай раллі.
Стане зямелька ёй пухам,
Бо яна выйшла з зямлі.

Я ж запалю —
гараджанка —
Як загадала, свячу.
Ў голасе чыстага ранку
Крыкам дзіцячым крычу.

Быццам мяне нарадзіла
Ў лоне зямлі і дажджу.
Ў свет,
найвялікшае дзіва,
Незразумела гляджу.

Шлях мой у шчасці пакутны.
Моўчкі схілю галаву.
Як ля дарогі трыпутнік,
Неспадзявана жыву.

Дай жа мне словы натхнення,
Сэрца і рукі твае!
Вечнасці толькі імгненне,—
Як мне цябе не стае!..

Каб за пражытыя годы
Ўслед зразумець спакваля —
Песні і мова народа:
*1976* Маці. Радзіма. Зямля.

## КРУГІ БЫЦЦЯ

Кругі быцця акрэслены, як мукі,
Неразгаданай існасцю вякоў.
Апошні круг — твае, напэўна, рукі,
Зачараваныя замест акоў.

Я лёс знайшла. І свет мяне адрынуў.
З табой і дня не пражыла маной.
Кругі быцця... Успомню вочы сына,
Што сочаць неадступныя за мной.

Кругі быцця... Ці бачны вы з вяршыні,
Адкуль глядзіш на маладосці луг?
Я, смеючыся, выгінаю шыю,
Нібы лаўлю выратавальны круг.

Кругі быцця вядомы, мабыць, зорам.
Жыццё ці смерць завершыць іх абрыс?
Ты для мяне як зменлівае мора,
Дзе сотняй рук прасцёрся кіпарыс.

*1984*

## ЧЫЙ ГЭТА КОНЬ СТАІЦЬ?

Вы, коні, коні даўніх песень,
Старых паданняў юны свет!
Як людзям на зямлі ні цесна,
Ніколі ваш не знікне след.

Гісторыі сівой каварства!
Ты — век дваццаты, хлапчаня,
Жыццё было не варта царства,
Паўцарства ж — цэлага каня.

Куды імчыш стралой сягоння,
Папраўшы лёс і сэнс быцця,
Непадуладны часу коннік,
Працяг нязведаны жыцця?

Дрыжаць ад стрэчы выпадковай
Джыгіты ў чэраве машын,
Як выкрасаюць шлях падковы,
Аж бліскавіцы на шашы!

Не мне табе служыць пры доме,
Твайму каню даваць вады —
У княжым залатым шаломе
Ты непапраўна малады...

Хай поўніць твой апошні ранак
Шчаслівы кубак да краёў.
У векапомнасці кургана
*1985* Забытае імя тваё.

**ПАРТРЭТ**

Партрэт здаецца легкадумным,
Як многа год таму назад.
І тэмпера ў адценні сумным
Згадае пра асенні сад.

Згадае юных дзён зняver'е,
Што адышлі ў нябыт даўно,

І вашу новую майстэрню,
У свет адкрытае акно.

Быў час спаткання нерухомы,
На сонцы віўся цветам хмель,
Былі мастак мне незнаёмы,
І тэмпера, і акварэль.

Гучалі фарбы, быццам гукі,
Мой твар свяціўся трапяткі...
Я помню вас і вашы рукі —
Два незабыўныя радкі.

Куды развёў нас лёс прывычна
За межы дзён і светлых рыс?
Застаўся ў памяці графічна
Той незавершаны эскіз.

Нібы чытаю верша строфы,
Партрэта даўняга радкі,—
Мой, разгаданы вамі профіль,
*1981* Як промень сонца, залаты.

**АРЭЛІ**

Мой мілы, мы зусім не пастарэлі,
Нас толькі ў гэтым годы абышлі.
Дык разгадай высокія арэлі,
Каб адарвацца ўрэшце ад зямлі.

Прывычная і падуладна руху,
Ўзлятаю вышай сосен і бяроз.
Не разамкнуцца развітальна рукі,
Ты — мой самотны, адзінокі лёс.

Смяюся я да новага шаленства,
Лячу да сініх і грымотных хмар,
І сніцца мне, як шчасця падабенства,
Адзіны твой неперайmальны твар.

Як адышлі нягоды і напасці
І не жылося ў скрусе і журбе,
Смяюся я, не баючыся ўпасці,
Бо ведаю — вярнуся да цябе.

Як быццам дні любві не адгарэлі
І ты мне толькі лепшыя аддаў,
Пабудаваў чароўныя арэлі
І кожны дзень да вечара гайдаў.

Вось узлятаю да нябеснай стыні,
Не астудзіўшы з вёсен галаву.
Не дачакаю, што мяне пакінеш,
Павер, не я цябе перажыву.

Няўжо раней было не здагадацца —
Баюся я любві і вышыні.
Наканавана некалі сарвацца
Альбо згарэць да попелу ў агні.

Застаўся крок апошні і рашучы
У небыццё расплёсканы і гнеў,
Каб ты застыў у роспачы балюча
І назаўсёды сэрцам скамянеў.

Але калі б на ўсё здагадку мелі —
Любіць і жыць, напэўна, не змаглі.
Дык разгайдай высокія арэлі,
*1981* Каб адарвацца ўрэшце ад зямлі.

* * *

У галавах маёй хаціны,
Як запаветных мар падман,
Трапеча тонкаю хусцінай
Вясновы бэзавы туман.

Я вокны насцеж адкрываю
Да сонца ў яблыневы сад,
Дзе цішыня мелодый мая
І бэзу лёгкі зарапад.

Дзе зіхаціць лістоты гранне
У свежых кропельках расы
І траў высокае буянне,
Не чутна музыкі касы.

Як вольна дыхаць, як жадана
Аб шчасці марыць і любіць
І верыць дням зачаравана,
Якім наканавана быць.

І добра ўспамінаць, каханы,
Аб нас у лепшую пару,
Як ранак бэзавым туманам
Калыша новую зару.

*1984*

* * *

Звінеў ручай у снах бярозы,
Як лета зводзіла масты.
Я збудавала дом для прозы,
Калі мяне пакінуў ты.

Быў светлы сум у лістападзе
Да вечаровай нематы.
Мы развіталіся ў спагадзе,
Калі мяне пакінуў ты.

Наперад ведаю, што будзе
І колькі часу праміне.
І тыя, што цябе асудзяць,
Не пашкадуюць і мяне.

Сыходзіш ты з кругоў касмічных
У шкадаванні новых страт,
А я не стала празаічнай,
1981 Як гэты чысты лістапад...

## ТРЫЯЛЕТ

Пачую ў набліжэнні навальніцы
Далёкі водгук голасу твайго
І цішыню настоеных лугоў
Пачую ў набліжэнні навальніцы.
На сэрцы стала лёгка ад таго:
Прыйшла зіма, а лета будзе сніцца...
Пачую ў набліжэнні навальніцы
1984 Далёкі водгук голасу твайго.

* * *

Цераз нягоды і гады
Пранесла шмат выпрабаванняў.
Я палюбіла гарады
Апошняй марай спадзявання.

Як шлях нязведанай тугі
У стратах колішніх
і новых
Быў кожны горад дарагі
Сустрэчай нашай выпадковай.

Сустрэчай, што мірыла нас
У рытме бурным і шалёным,
Якую пазычаў нам час
Званком далёкім тэлефонным.

Ты клікаў — ехала туды,
Маршрут не зверыўшы па картах,
Былі чужыя гарады
Надзейным сховішчам і вартай.

Мне з памяці і дня не збыць.
Смяяліся:
табе не дваццаць!
Я ездзіла цябе забыць,
Спяшалася з табой расстацца.

За што было мне столькі мук,
Недасягальнай і прыгожай,
За нематою сцен і рук,
У крыўдзе рэўнасці варожай?

На гэта не знайду адказ.
Хто не любіў — бяды не зведаў.
Паклічаш у апошні раз —
І я ў апошні раз прыеду.

Прыеду на тваё святло,
Ператварыўшы ў свята будзень.
Хай стане шчасцем, што было,
Таму, што іншага не будзе.

*1981*

* * *

Хто знае, што каму належыць? —
Збавенне лёсу ў забыцці...
А я пераступіла межы
Дазволенага мне ў жыцці.
Беспамылкова адчуваю:
Не пераме́ліць вір вады.
Стаю адна на самым краі,
На стромкім беразе бяды.
Шасцерыком, вясельным цугам
Мільгнула шчасце ў старане,
А ты маладзіковым кругам
Недасягальны для мяне.
Калі згубілася сцяжынка,
Да распачатага віток? —
Пралегла слабая маршчынка,
Як безнадзейнасці выток.
Застылым часам на змярканні
Мне будзе рэха дзён звінець.
Ніхто не зведаў сэнс кахання,
Дабро і зло, жыццё і смерць.
Усё, што нам акрэсліць слова
Праявай волі пачуцця,—
Душы звычайная замова,
Бяссмерце болю забыцця.
Яшчэ рэальным бачу зрокам,
Лаўлю апошні твой пагляд,
Ды за мяжу насустрач кроку
*1984* Не саступлю, як год назад.

* * *

Я веру, што жыццё прадбачыць
І прадчувае лёс паэт,
Але з гадоў маіх юначых
Ужо не скласці мне санет.
Не наталіць адвечнай прагай
Імклівай будучыні дзень
У барацьбе надзей з развагай,
Шчаслівы ловячы прамень.
Аціх мой твар, як светлы вечар,
Нібы адводзячы бяду,
Я рукі тонкія на плечы,
Забыўшыся, табе кладу.
З былога, што наканавана,
Паводкай веснаю сплыло.
Цябе не ведала, каханы,
Таму і шчасця не было.
Хай прадчуванні тых не мучаць,
Хто спрабаваў развесці нас,—
Людская змова не разлучыць,
Калі спаткала доля ў час.
Наперакор, здаецца, свету
Не ўпершыню мне зноў любіць.
Прадбачаць многае паэты,
Што потым суджана згубіць.
Не страшыў і раней ніколі
Няўмольны бег пякучых страт.
Як на адным дыханні болю
*1985* У халады цвіце мой сад.

* * *

Пасля дажджу запахла мятай.
Яшчэ антонаўкі не спелі,
Але, здаецца, кружыць хату
Гаркавым водарам і хмелем.

Я ранкам вымыю падлогу,
І вытру чысты стол дасуха,
І мяты завару ў дарогу
Да чаю, шэпчучы прысуху.

Ты едзеш у далёкі горад,
На шлях з табой іду сцяжынкай,
Але ў вачах твой профіль горды
Мне засціць кожная хмурынка.

Як далеч вобраз твой уносіць!..
І твару ўжо зусім не бачу...
У жытнім полі між калоссяў
Я нахілюся ціхім плачам.

Так рукі колючы і грудзі,
Я плачу соладка-гаюча.
Не знаць табе, не ведаць людзям,
Як боль мяне нясцерпны мучыць.

Пакуль жа досвіткам крылатым
Хай кружаць сны настоем хмелю.
Пасля дажджу запахла мятай,
*1984* Антонаўкі яшчэ не спелі...

## НАВАГОДНЯЕ

Як час ляціць нячутна, скора...
Насустрач лёсу непагод
Паедзем, дружа мой, за горад,
Сустрэнем разам Новы год!

Там хаце адзінока ў лесе
Сярод пустых акон, двароў,
Няма ні музыкі,
ні песень,
Ні тэлефона, ні сяброў.

Агонь гарыць.
Пры ім мне добра
Маўчаць з табой у цішыні.
Відаць, і мой адчайны продак
Аб шчасці марыў пры агні.

Ён думаў аб жыцці і смерці,
А злая непагадзь гула.
Мінула ўсё, ды прагне сэрца
Агню і роднага цяпла.

Ідуць дажджы старога года,
А новы — высакосны год,
Таму парушыла прырода
Жыццёвы свой кругазварот.

Хто ў свята п'е, хто грошы лічыць,
Хто нудзіцца, як дзень дажджу.
Маўкліва на тваё аблічча,
Вачэй не зводзячы, гляджу.

Нібы чытаю ў чыстых рысах
Імклівай маладосці цуд,

І артыстычнай долі высі,
І векавы людскі прысуд.

Надыдзе Новы год сягоння.
Наяве дзён ці толькі ў снах —
Адно святло — твае далоні,
*1985* Мая бясконцая вясна!..

* * *

Зіма са стыхіяй не зладзіць —
У студзені бура раве.
Мой дом, як Лятучы Галандзец,
У непагадзь ноччу плыве.

Але нагадае паданне
Не мёртвых няшчасных ахвяр,
А тую дарогу кахання,
Што выбера толькі бунтар.

Плыву паміж хваляў шалёных,
Высокія мачты рыпяць,
І чорныя тыя ж праклёны
У твар мне дарэмна ляцяць...

Ты разам з другімі паверыў,
Што я наклікаю бяду...
Ды ўсё-ткі аднойчы на бераг,
Як судзіць паданне, сыду,

Забыўшы на крыўду і гора,
Пра наша расстанне з табой.
Праводзіць мяне толькі мора,
Сівы несціханы прыбой.

Зямная, па сонечным промню,
Як тонкай стралы вастрыё,
Таму што кахаю і помню —
*1985* Прыйду я па сэрца тваё.

* * *

Забыць — няпроста, як забыцца,
У думках толькі помніць можа...
Так чэрвеньскія навальніцы
Душу грымотамі трывожаць.

Імгненна хмарнае змяркание
І ветру шум уладна грозны
Мне адгукаецца ў чаканні
Неўтаймаваным і трывожным.

Старыя дрэвы гнуцца долу,
Сівая бура рвецца ў вокны...
Куды ж ты знік, мой дзень вясёлы,
Апоўдзень, чысты і высокі?

Радкі жыцця майго нанова
Не перапісаны адчаем,
І раніцу, нібыта слова,
Усмешкаю надзей страчаю.

Нішто бясследна не мінецца:
Трывогі, дні, былыя годы.
Расстанемся, ды ў нашых сэрцах
Мы застанёмся назаўсёды.

І стане кожнае світанне
У скроні стомленыя біцца,
І часта мроіцца спатканне
*1984* У надыходзе навальніцы.

* * *

Час лёгкі на любы пачатак.
Ці стане новым дзень другі?
Я прыхавала для расплаты
Адны надзеі і даўгі.

Здаецца, што не хопіць сілы
Стрывацца ад навалы бед...
Не ведаю, каго ўгнявіла,
Што абурыўся цэлы свет.

Нямногія, спытаўшы долю,
Пачулі ў роспачы адказ,
Якія лекі ёсць ад болю,
І спадзяваліся на час.

«Усё міне» — такія словы
На персцяні насіў мудрэц.
Як шчасце, гора выпадкова,
Пачаткамі вяршыць канец.

І толькі вернае чаканне,
Бясконцае, як небасхіл.
А птушка нашага расстання
Ляціць размахам сініх крыл.

Начамі лета халадзее,
Асенні ліст услаў зямлю.
Як непапраўна, безнадзейна,
*1984* Бездапаможна я люблю...

* * *

Як свечка, гасне ціхі вечар.
На вуліцах знікае шум.
Калі ты думаеш аб нечым,
На твар кладзецца светлы сум.

І журыць мой спакой трывога,
Нібыта даўняя віна.
І наліваю зноў нямнога
У кубак белага віна.

Мой рух пазначан прымірэннем,
Што абяцае вечар дню,
Шчаслівым водсветам імгнення,
Цяпельцам хатняга агню.

Даўно бяседы ручаінка
Аднесла нашы галасы,
Адна, як восень, павуцінка
Упала мне на валасы.

А позірк твой зусім далёкі
Няясным смуткам халадзеў,
Так голуб дзікі, адзінокі
Аднойчы ў вочы мне глядзеў.

На вечаровае сутонне,
Пераступіўшы цень святла,
Я дакранулася далонню
Твайго разбітага крыла...

*1984*

* * *

Ускалыхне твой гнеў шалёны
Маёй душы жаночай гладзь.
Нібыта дзікія плямёны
У вочы грозна мне глядзяць.

Але ў адзін жаданы дотык
Гадзінамі здаецца міг,
Сатканы з новае пяшчоты
І прымірэння рук тваіх.

Таму не выказаць у слове
Ні праўды шчасця, ні маны...
Насіць мне кайданы любові
*1984* Без пакаяння і віны.

## ТВАЁ ІМЯ

Тваё імя —
жыцця палітра
Таемных колераў жывых,
Яго шапчу, нібы малітву,
І паўтараю зноў услых.

Увечары сырой адлігай
Я плечы хутаю глыбей,
Працуючы над новай кнігай,
Дзе вершы толькі пра цябе.

Ледзь стома закрывае вейкі,
Я слухаю начную ціш.
Са шкоднікаў маёй сямейкі
Заўсёды побач кот Чарныш.

Цікуе, як чытач найпершы,
Што крытыкам ён мог бы стаць:
Выключна на лірычных вершах
Так самавіта любіць спаць.

А я не сплю, чакаю поўню,
Пакуль бяссонне не міне,
Пішу імя тваё: — Успомні,
Гарыць святло ў маім акне.

Адчаем вольнага здзіўлення
Ты застанешся назаўжды,
Як несканчоны міг натхнення,
Якому доўжыцца гады.

Бы трэшчыны вясновай крыгі,
Дзе не стрывала плынь зіма,
Радкі нявыдадзенай кнігі
Адвечнага твайго імя.

*1984*

## БЕЛЫ ВЕРШ

Вы, ямбы мілыя, харэі,
Да вас звяртаюся найперш
І, закаханая, хварэю,
Калі складаю новы верш.

Вам, палахлівыя, як німфы,
Няўлоўныя, нібыта сон,
Жаданыя заўсёды рыфмы,
Таксама нізкі мой паклон.

Ужо зімы пара прыспела.
Па лету сум нашу ў грудзях,
І белы верш на колер белы
Мне часта сніцца па начах.

Той верш, які наканаваны
Імкненнем сэрца маладым,
Рукой жыцця нерыфмаваны
І не прачытаны нікім.

Ён сніцца мне зімовым полем,
Што пераходжу напраскі,
І некрануты белы колер
Згадае белыя радкі.

Дзе не ляглі кахання цені,
Разлукі здрады не было...
Іду я ў свет на летуценні
1984 І непагаснае святло.

* * *

Перажыву адчай змяркання,
Трывогу мар увечары,
Зімовай вуліцы маўчанне
І белы снежань на двары.

Настрояў змены і нягоды
Перажыву шчаслівым днём,
Пачуццяў знешніх прахалоду
І боль, апалены агнём.

За снежнем напярэймы студзень
Спяшаецца ў дакладны час.
Падзеі новыя і людзі,
Магчыма, раз'яднаюць нас.

Ды не разлучыць у ранейшым
Нас праўда памяці самой,
І вобраз твой у кожным вершы,
Як і туга мая, са мной.

Калі ў змярканні вечаровым
Я чую водгалас завей,
Памроіцца кахання слова,
*1984* Якое нас пераэкыве.

## ЧАС РАЗВІТАННЯ

Час развітання ў гэтым доме
Пераступіў ізноў парог,
Дарожным знакам на заломе
Маладзіковы выспеў рог.

Адчай начы мяне прыспешваў,
І адганяла думкі прэч,
Калі згадалася з усмешкай
Знарок пакінутая рэч.

А горад жыў сваёй турботай,
І быў дзвярэй не чутны грук...
Што знойдзеш ты да адзіноты
Замест маіх світальных мук?

Што ўспомніш песняй вечаровай
Да слова ціхага: — Бывай! —
Калі за хмараю зімовай
Замгліцца нізка небакрай?

Калі студзёная завея
Свет замятае пакрысе,
Якія мары і надзеі
Журбота ў сэрца данясе?

Хай будуць дні і спадзяванні
За долю лепшую даўжэй.
Усё, што варта даравання,
*1985* Час развітання зберажэ.

* * *

Калыханку я спяваю
На твае жаданні-сны.
Словы з песень адбіраю
Паўзабытай даўніны.

Што каханымі пражыта,
Не адмерыць смутак мой —
Узышло на нівах жытам,
Парасло ў лугах травой.

Па гаях лістотай новай
У праменнай вышыні
Трапяталі сны любові,
Незасмучаныя дні.

Людзі верылі і зналі,
Як калісьці ў даўніну
Варажбіткі чаравалі
Ад кахання і агню.

Ад сурокаў і сухотаў
Слова дзейснае было,
Толькі вось ад адзіноты
Нам замовы не дайшло.

Пад халодным небасхілам
Песняй зорку калышу
І тваіх жаданняў, мілы,
*1985* Адзінокую душу.

* * *

Няхай зіма мой лёс адбеліць
Ад чорных бед і шэрых дзён
Палотнамі снягоў пасцелі,
Дзе сніўся ты, як летні сон.

Магчыма, смутак мой застыне,
А сэрца стане халадзей,
Змагу ўздыхнуць усмешкай сына,
Не пазбягаючы людзей.

Хай у вачах тваіх патоне
Спакой зімовых берагоў,
А час праходзіць скрозь далоні,
Не супыніць нічым яго.

Твае вясновыя сцяжыны
Марозны іней закране,
На лбе глыбокія маршчыны
Пакіне шчасце за мяне.

Хай завірухі снежнай кола
Кружыць імгненнямі начы.
Як летні сон, знаёмы голас
*1985* Яшчэ ў душы маёй гучыць...

## МІМОЗЫ

Стаялі лютыя марозы,
Скавалі ўсе шляхі зямныя.
У хаце першыя мімозы
Праменілі святлом, жывыя.

Я ведала, як засынала,
Што водар іх мяне разбудзіць,
Так пахне толькі снег расталы,
Калі вясну ўдыхаюць грудзі.

Ты з кожнай новае паездкі
Заўсёды кветкі мне прывозіў,
У дні мае па назвах кветак
Цяпер прыйшла пара мімозы.

Пара надзей, пара спатканняў,
Што апявалі ўсе паэты,
Па ёй спыняліся ў блуканні
Людскія зоры і планеты.

І я малю за той прытулак,
Каторы знойдзеш ты, каханы,
Цяплом і радасцю прачулы,
З дарог людскіх расчараваны.

Прачнешся раніцай вясновай
І час з усмешкай прывітаеш,
Успомніўшы спагады словы,
*1985* Мяне, далёкую, згадаеш...

ЗМЕСТ

## *З кнігі «Белыя пісьмы» (1967)*

## *З кнігі «Высакосны год» (1969)*

## *З кнігі «Сіняя бухта» (1975)*

*З кнігі «Альфа» (1978)*

## *З кнігі «Яраслаўна» (1986)*

**Вярба В.**

B99 Апошні верасень: Выбранае: Вершы і паэмы / Прадм. У. П. Някляева.— Мн.: Маст. літ., 1995.— 270 с.

ISBN 5-340-01423-1.

**Асноўныя матывы лірыкі вядомай беларускай паэтэсы Веры Вярбы (Гертруды Пятроўны Сакаловай) — усл аўленне маладосці, дружбы, кахання, мацярынства, роздум над складанымі праблемамі часу.**

**У зборнік вершаў і паэм «Апошні верасень» увайшлі творы з раней напісаных кніг: «Вочы вясны», «Белыя пісьмы», «Высакосны год», «Сіняя бухта», «Альфа» і «Яраслаўна».**

**В $\frac{4702120202-059}{М 302(03)-95}$ — 93—93**

**ББК 84Бел7**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Вярба Вера** (Гертруда Пятроўна Сакалова)

**АПОШНІ ВЕРАСЕНЬ**

Выбранае

Рэдактары М. І. Котаў, І. В. Зудава. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкія рэдактары Л. Я. Прагін, А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Маслоўская.

Здадзена ў набор 02.06.92. Падп. да друку 14.07.93. Фармат $70 \times 100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 11,05+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 11,09. Ул.-выд. арк. 11,06. Тыраж 1500 экз. Зак. 673. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220067, Мінск, вул. Жодзінская, 18.